МЕНАХЕМ БЕГІН

КАРНЕЙ ЧУКОЎСКІ

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 history.nn.by

# Наша Гісторыя

№ 1 (18) – 2020




ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ТРЫ КРОКІ. ЯК ІСПАНІЯ ПЕРАЙШЛА АД ДЫКТАТУРЫ ДА ДЭМАКРАТЫІ

ПАННА-ДЗІВАННА

СУПЕРБЕЛАРУСЬ. КОМІКС

# СКАРЫНА РАСШЫФРАВАНЫ







































## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
Symbal.by (пр. Машэрава, 18)
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 37, 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 78б
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**
«Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

**Пінск**
«Мой модны кут» (вул. Леніна, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.

**Наша Гісторыя**
I/2020
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Паўліна Скурко, кандыдатка гістарычных навук

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — меркаваны аўтапартрэт Францішка Скарыны з кнігі «Быццё» ў апрацоўцы Рамана Тарасевіча.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X,
УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** history@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 07.01.2020.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 19.
Наклад 5005.

Часопіс надрукаваны ў ТАА «НАВІТЭХ», друкарня «ГРАДЫЕНТ»®.
Мінск, вул. Бабушкіна, 6А, 220024.
УНП 191415513. ЛД 02330/482 ад 21.02.2017.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў №2/194 от 23.02.2017.

**Ад рэдакцыі**

Тварам чарговага нумара «Нашай гісторыі» стаў першадрукар Францыск Скарына.

Не сакрэт, што сярод сучасных беларусаў няма адзінства ў пытаннях стаўлення да многіх старонак сваёй гісторыі, у тым ліку і да славутых гістарычных персанажаў. Але Скарына — шчаслівае выключэнне. Адносна станоўчага стаўлення да яго дзейнасці ў нашым грамадстве існуе поўны кансэнсус, як бы погляды па іншых пытаннях нас ні падзялялі.

Гэта звязана з тым, што Скарына ў нашай гісторыі адзначыўся як чыста культурны дзеяч, у палітычныя разборкі непасрэдна не заангажаваны. А зробленая ім праца настолькі пачэсная і бясспрэчна важная для станаўлення народа, што не шанаваць яе і не ганарыцца ёй проста немагчыма.

Скарыну прымаюць усе, але ці ўсе яго разумеюць? Разглядаючы, напрыклад, усім вядомую гравюру з партрэтам выдаўца ў ягонай Бібліі, мы бачым вакол яго шмат розных рэчаў. Але ці задумваемся, што і іх падбор, і размяшчэнне — гэта зусім невыпадкова, і ў кожны з гэтых прадметаў аўтар мог закладаць глыбокі сімвалічны сэнс?

Рыхтуючы артыкул пра сімволіку Скарынавых выданняў да друку, рэдакцыя напачатку дала яму назву «Што зашыфравана ў Бібліі Скарыны?». Але ягоная аўтарка Вольга Шутава рашуча гэтаму намеру запярэчыла: «Ідэя ў тым, што шыфраваць — гэта наўмысна хаваць, кадаваць. А тут не так. Проста тое, што было зразумела і натуральна для сучаснікаў Скарыны, усе гэтыя галгофскія крыжы ці сонцы маладзіковыя, незразумела нам сённяшнім». А вось людзям, што жылі паўтысячы гадоў таму, усё было, наадварот, відавочна і тлумачэння не патрабавала, як для нас — дарожныя знакі.

Што ж, калі Скарына сам нічога і не шыфраваў, то нам сённяшнім даводзіцца такі расшыфроўваць, што ўтойвае ягоная Біблія. Адсюль і назва гэтага нумара — «Скарына расшыфраваны».


4


18


56


82








1940 VSDK 3983
1940 VSDK 3983


72


56


74


26


36






74


56

**Дзе Скарына прападаў пяць гадоў, як паўплывала на яго хрысціянская кабала і чаму ў Бібліі Рускай столькі дубовага лісця, піша кандыдатка гістарычных навук, кіраўніца французскага праекта «Лабараторыя скарыназнаўства» Вольга Шутава.**




Святкаванне 500-гадовага юбілею беларускага кнігадрукавання два гады таму пакінула дзіўны прысмак: з аднаго боку, высокія словы пра «дзеяча Рэнесансу» Францыска Скарыну, з другога — размовы пра нейкае яго «адставанне» ў параўнанні з «Еўропай».

Але якраз маштабны праект перакладу Бібліі на «простанародную» мову ў эпоху Рэнесансу быў «модным трэндам» у Еўропе. Ад канца XV стагоддзя інтэлектуалы перакладаюць галоўную кнігу хрысціянства з лаціны на нямецкую (дакладней, ніжнесаксонскі дыялект, бо агульнанямецкай літаратурнай мовы тады яшчэ не існавала), паўночны дыялект італьянскай, стараанглійскую, старачэшскую...

Дзейнасць Скарыны падпадала і пад яшчэ адну моду Рэнесансу — «асучасненне» Бібліі, набліжэнне яе да народу шляхам ілюстравання.

**У 1517–1519 гадах у Празе Францыск Скарына выдаў 23 кнігі Бібліі** (Старога Запавету) пад агульнай назвай «Бівлія руска, вылажана доктарам Францыскам Скарынаю із слаўнага града Полацька, Богу ка чэсці і людзем паспалітым к добраму наўчэнію». Калі гаворка ідзе пра выданне Скарыны, а не пра Біблію ў цэлым,то даследчыкі называюць яго Біблія Руска.

Пакідаючы ў Бібліі Рускай свой партрэт, падпісваючы яго і паўтараючы сваё імя і тытул ва ўсіх прадмовах і пасляслоўях, доктар Францыск Скарына хацеў данесці нейкае пасланне. Як непрыхавана размаўляе ён з чытачом у сваіх тэкстах — «брація мая русь», «мой любімы прыяцелю», «дружа», — спрабуе растлумачыць і навучыць. У процівагу Леанарда да Вінчы, які імкнуўся зашыфраваць свае запісы і вынаходкі, Скарына рабіў усё, каб зрабіць біблейскія тэксты больш зразумелымі для паспалітага люду.

### Правобраз — цар Саламон

Францыск Скарына размясціў свой партрэт на апошніх лістах Кнігі Ісуса Сірахава і 4-й Кнігі Царстваў, у прадмовах да якіх ён аб'яўляе сябе прадаўжальнікам справы святога Гераніма, стваральніка Бібліі Вульгаты на лацінскай мове. Скарына піша там пра тое, што сапраўдныя каштоўнасці — не ў «тленных вялікіх царскіх скарбах», а ў тым, каб «пакінуць у навуцы і ў кнігах вечную славу і памяць сваю».

Партрэт Скарыны — не даніна славалюбству, а маніфест: вось ён я, перакладчык і выдавец

# тойвае
# ы?




**Трыпціх «Зямля» мастакоў Уладзіміра Крываблоцкага і Юрыя Багушэвіча**, размешчаны на фасадах электрамеханічнага завода ў Брэсце. Францыск Скарына са сваёй Бібліяй тут сімвалічна ўзначальвае шэраг беларускіх дзеячаў розных эпох.

Бібліі Рускай, на фоне прадметаў і знакаў, якія ёсць «абавязковым наборам» сімвалаў для нас, інтэлігентаў Рэнесансу.

I «прадметы» (кнігі, армілярная сфера*, пясочны гадзіннік, крэсла з пюпітрам, засланым «ручніком», на якім намалявана «сонца маладзіковае», або «зацьменне», свечка з рэфлектарам, калоны, збан, плецены кошык, муха), і «знакі» («зацьменне», «трохкутнік», «трапецыя» і літары «МЗ») на партрэце з'яўляюцца сімваламі, якія нясуць на сабе адбітак культуры Рэнесансу. Гэты набор сімвалаў, пры той яснасці, за якую выступаў Скарына, мусіў быць зразумелым для яго сучаснікаў!

У часы Скарыны выява мужчыны за сталом была пашыраным сюжэтам у жывапісе і на кніжных гравюрах.

Але менавіта ў Венецыі мы знаходзім гравюру, якая, відавочна, «натхніла» Скарыну.

З другой паловы 1470-х у Найсвятлейшай рэспубліцы становяцца папулярнымі «лятучыя лісты», яны прадаюцца паўсюль: на рынках, плошчах, на мастах і, вядома, каля ўніверсітэта Падуі, васала Венецыі. Адзін з такіх «лістоў» 1488 года ўяўляў з сябе «вечны (*perpetuum*) каляндар». Памерам 45 × 32 см, ён быў прызначаны для разліку рухомых дат Вялікадня.

У ніжняй яго частцы выяўлены цар Саламон, што тлумачыцца ў суправаджальным лацінскім тэксце: «Гэта табліца Саламона, па якой вы зразумееце, у які час і гадзіну будзе Месяц... І калі мы ведаем Месяц... разумеем усе Божыя святы». ▶

* Армілярная сфера — астранамічны інструмент, які выкарыстоўвалі для вызначэння каардынатаў нябесных свяцілаў.

▸ Скарына, які вылічваў даты святаў для Пасхаліі («Малая падарожная кніжка»), мог набыць гэты зручны каляндар у Падуі.

Разгледзім выяву Саламона (**ілюстрацыя 1**): пастава, гірлянда, крэсла з калонамі на подыуме (вытворнае ад пашыранага ў Італіі *lettuccio*), пюпітр, накрыты




1. **Саламон, фрагмент гравюры з календара**, узноўленай у Horologio della sapientia et meditationi sopra la passione delnostro signore Iesu Christo vulgare. Венецыя, 1511.



3. **Гравюра «Дачка фараона знаходзіць немаўля Майсея»** (Biblia Colonia, 1490 год).

«ручніком», армілярная сфера, пясочны гадзіннік, кнігі, нават «сонца / месяц» — усё на месцы і складаецца ў мадэль будучага скарынаўскага партрэта (**іл. 2**)! Знайшоўшы гэты правобраз менавіта ў Італіі, мы вырашылі пашукаць і іншыя «сляды», якія прывялі Скарыну да ідэі і рэалізацыі Бібліі Рускай.



4. **Аналагічны сюжэт з Кнігі Выхад** (Скарына, 1519 год).



2. **Партрэт Францыска Скарыны з Бібліі Рускай**, падобны да партрэта Саламона з венецыянскай гравюры. Прага, 1517–1518.

**У сваім партрэце ў Бібліі Скарына натхняўся выявай цара Саламона на венецыянскім «вечным календары»**

**Глыбокія дэкальтэ і Палац дожаў**

Прыгледзімся да афармлення скарынаўскай Бібліі. Часта пішуць, што Скарына натхняўся нямецкай ці нават чэшскай школай. Але параўнанне скарынаўскіх гравюр з паўночнаеўрапейскімі ўзорамі выяўляе толькі сюжэтнае падабенства (**іл. 3, 4**).

Стыль кардынальна розніцца ад строгіх нямецкіх узораў. Глыбокія жаночыя дэкальтэ, распушчаныя валасы, батычэлеўскія мадэлі, аголеныя целы трапілі ў Біблію Руску з венецыянскай мастацкай манеры. Гірлянды, разьблёныя балконы, балюстрады, калоны, трытоны — неад’емная частка падуанска-венецыянскага стылю, — прысутнічаюць у скарынаўскай Бібліі паўсюль.

## Глыбокія дэкальтэ, батычэлеўскія мадэлі, аголеныя целы трапілі ў Біблію Скарыны з венецыянскага жывапісу

Дзе, як не ў Італіі, Скарына мог гэтым «заразіцца»?

Ёсць нават архітэктурныя супадзенні. Паглядзіце на малюнак біблейскага «дома Саламона» ў Скарыны, на яго аркі, балконы, зубчасты дах **(іл. 5)**. Нічога не нагадвае «прастакутную» нямецкую ці чэшскую архітэктуру таго часу. Затое падабенства «дома Саламона» або пейзажу Іерусаліма **(іл. 7)** з венецыянскімі і падуанскімі закругленымі вежкамі, купаламі, зубчастымі стрэхамі, балконамі і агульным уплывам візантыйскай і арабскай архітэктур бясспрэчнае **(іл. 6, 8)**.

### Выдавецкая сталіца Еўропы

I дзе, як не ў Італіі, Скарына мог задумаць свой праект кнігадрукавання з перакладам Бібліі для «люду паспалітага»? Напэўна, менавіта тут «прападаў» наш навaспечаны доктар медыцыны пасля абароны ў Падуі ад лістапада 1512 года да 6 жніўня 1517-га. Потым у Празе «раптам» пачынаюць выдавацца яго кнігі. Спачатку Псалтыр, а следам з дзівоснай інтэнсіўнасцю, практычна на месяц па кнізе, выходзіць уся Біблія. Значыць, Скарына ўжо меў гатовы тэкст: перакладзены, сабраны, адрэдагаваны, з прадмовамі




i ілюстрацыямі-гравюрамі. Але чаму ён адправіўся менавіта ў Прагу друкаваць кнігі?

Уявім маладога доктара вольных мастацтваў і медыцыны, які трапіў у Падую. Тут паўсюль былі шапікі ці латочнікі, якія прадавалі кнігі. Большасць іх — з Венецыі, якая да 1500-га ператварылася ў выдавецкі цэнтр Еўропы. Амаль сотня венецыянскіх выдавецкіх фірмаў на той час ужо выпусціла больш за 3 500 выданняў.

У гісторыі венецыянскага кнігадруку вядомы нават «крызіс перавытворчасці» 1473 года, калі на складах назапасілася больш за 20 000 нераспрададзеных кніг, пераважна лацінскіх класікаў. I выдаўцы пераключыліся на біблейскія тэксты, што мелі ўстойлівы попыт.



5. **Францыск Скарына. Трэція кнігі Царстваў.** Прага, 1518 год (справа).
6. **Венецыя, Палац дожаў** (унізе).

## Леанарда імкнуўся зашыфраваць свае вынаходкі, Скарына ж рабіў усё, каб зрабіць біблейскія тэксты больш зразумелымі для паспалітага люду

### Малермі як натхняльнік

Першая Біблія на італьянскай мове (*Biblia vulgarizata* [*Bibbia italica*]) у перакладзе ўраджэнца Венецыі манаха Нікола Малермі была выдадзена ў 1471 годзе. У прадмове Малермі абгрунтаваў пераклад тым, што наспела неабходнасць зрабіць Святое ▸






7. **Францыск Скарына. Ерамія, прарок Гасподні, плача, гледзячы на Іерусалім.** 1519 год (справа).
8. **Выява Падуі.** 1560 год (уверсе).

▶ Пісьмо даступным не толькі для вучоных «*docti*», але ж і для «простых людзей», для спазнання імі «навукі правільнага жыцця». Параўнайце з выказваннем Скарыны: каб «не толькі… людзі вучоныя ў іх разумеюць, але ўсякі чалавек просты і паспаліты… можа паразумець, што патрэбна для выратавання яго душы».

Скарына натхняецца ідэяй Малермі выдаць Біблію не на зразумелай, але далёкай ад простых людзей мове, якой была латынь для італьянцаў, а менавіта на «простанароднай і роднай», «наболей с тое причины, иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил».

Біблія Малермі мела ашаламляльны поспех: ад 1471 да 1487-га яна перавыдавалася 8 разоў, і гэта без уліку «кантрафактаў»-падробак.

Ацаніўшы папулярнасць, у 1490 годзе венецыянскі выдавец Рагаца адважваецца на выданне перакладу Малермі з гравюрамі. Стыль тых ілюстрацый грунтаваўся на творчай перапрацоўцы рэнесансных тэндэнцый італьянскай скульптуры і жывапісу. Аўтарам большасці з іх быў Майстар Піка (*Maestro di Pico*), які прайшоў шлях ад ілюмінатара-мініяцюрыста да мастака-гравёра. Імя гэта ўмоўнае, паводле яго мініяцюраў да «Натуральнай гісторыі» Плінія (1481 год па замове Піка дэла Мірандола).

## Параўнаем гравюры

Майстар Піка, а таксама Майстар Пуці, Майстар Авідзія, Дэ Крэмона, Бардоне, Вендраміна заклалі асновы




9. **Biblia vulgare istoriata.** Венецыя, 1494.

стылю венецыянскіх выданняў, які знайшоў адлюстраванне і ў гравюрах Бібліі Рускай. Гэты падуанска-венецыянскі стыль сёння называецца архітэктуральным з-за наяўнасці архітэктурных дэталяў (калоны, урны, аркі) і іншых элементаў антычнай традыцыі (гірлянды, анёльчыкі, букраніі — бычыныя чарапы, кентаўры, сірэны, трытоны), а таксама вылучаецца ўвагай да рухаў і эстэтыкі цела. Ён, разам з модай на антычнасць, з'яўляецца ў паўночнай Італіі як перайманне скульптуры Данатэла і жывапісу Андрэа Мантэнья, якія, у сваю чаргу, натхняліся аздабленнем рымскіх саркафагаў.

У Паўночную і Цэнтральную Еўропу гэты стыль прыходзіць пазней. Францыск Скарына ўбачыў яго ў Падуі або Венецыі, і аўтарам гравюр ягонай Бібліі мог быць нехта адтуль (тым больш што гісторыкі ведаюць пазнейшы эпізод 1530 года, калі Францыск Скарына зманіў



10. **Biblij Czěská, w Benatkach tištěná.** Венецыя, 1506.



11. **Францыск Скарына. Быццё.** Першыя кнігі Майсеевы. Прага, 1519.

**Ёган Ройхлін** (1455–1522) — нямецкі філосаф-гебраіст. Лічыцца першым нямецкім гебраістам-неяўрэем, які засвоіў іўрыт. Таксама быў выдатным філолагам-класікам.

друкара прускага герцага Альбрэхта з Кёнігсберга). Майстры высокага класу мелі свае майстэрні (напрыклад, у Майстра Піка былі памочнікі).

У Італіі Скарыну, відаць, трапіўся і друкаваны пераклад Бібліі на чэшскую мову. Афармленне Чэшскай Бібліі наследуе нямецкім мадэлям, аднак першыя яе старонкі маюць адбітак уплыву італьянскай *Biblia vulgare istoriata*, якая да таго часу вытрымала 15 выданняў. У самым пачатку Чэшскай Бібліі мы выяўляем франтыспіс «Шэсць дзён стварэння» **(іл. 10)**, відавочна зроблены з *Biblia vulgare istoriata* **(іл. 9)**. У нямецкіх Бібліях сцэны стварэння раз'яднаныя па асобных гравюрах, а ў чэшскай сабраныя — як у Майстра Піка. Такім жа чынам аформленыя «Шэсць дзён стварэння» і ў Бібліі Скарыны **(іл. 11)**.

Такім чынам, доктар Францыск не выпадкова апынуўся ў Празе. Сустрэўшы прыклад друкавання Бібліі за мяжой, у Венецыі, на славянскай мове, Скарына едзе ў Прагу і здымае майстэрню для друку сваіх кніг менавіта там.

**Кабала́** — рэлігійна-містычная, акультная і эзатэрычная плынь у іўдаізме, вучэнне духоўнага самавыпраўлення. Звязана з асэнсаваннем творцы і стварэння, ролі і мэтаў творцы, прыроды чалавека, сэнсу існавання.

## Скарына і кабала

«Ніякая іншая навука не можа нас лепш пераканаць у боскасці Ісуса Хрыста, чым магія і кабала», — пісаў у сваіх «900 тэзісах» філосаф эпохі Рэнесансу Піка дэла Мірандола.

Італьянскія мысляры звярталіся тады да прац іўдзейскіх філосафаў. Гэта было галоўнай мэтай першых хрысціянскіх кабалістаў: пошук пацвярджэння самой сутнасці хрысціянства ў кнігах Старога Запавету пры дапамозе метадаў кабалістычнага тлумачэння алфавіта, ідэй піфагарэйства і антычнай філасофіі.

Сведчанне цікавасці да кабалы мы знаходзім і ў Скарыны. У Прадмове да Чацвёртых кніг Ездры, якая існуе толькі ў пазнейшай рукапіснай копіі, Скарына тлумачыць, чаму вырашыў выдаць кнігу, якая не ўваходзіць у хрысціянскі канон Бібліі. Ён праводзіць лінію ад іўдзейскіх мудрацоў праз святога Гераніма да «людзей вучоных нашых часоў», з якіх вылучае Піка дэла Мірандола. Францыск Скарына надае такое значэнне гэтым Чацвёртым кнігам Ездры, ▸



12. **Уваход у Храм Святой Сям'і** з боку фасаду Пакут. Барселона.

▶ бо яны ўтрымліваюць «прычыну знаменіту» пра імя Божае, боскасць Ісуса Хрыста і знакі яго будучага прышэсця.

## На гравюры з выявай першасвятара Арона Скарына змясціў надпіс, які сведчыць пра яго далучанасць да кола рэнесансных хрысціянскіх кабалістаў



13. Францыск Скарына. **Арон (фрагмент).** Прага, 1519.

Хрысціянская кабала была ў той момант на вастрыі моды. Паслядоўнік Піка дэла Мірандола Ёган Ройхлін, захоплены ідэямі выкарыстання кабалістыкі ў хрысціянстве, публікуе «*De verbo mirifico*» («Слова, якое творыць цуды») і «*De rudimentis hebraicis*» (падручнік габрэйскай мовы, без ведання якой немагчымая кабалістыка).

Гэты падручнік, які быў папулярны ў пачатку XVI стагоддзя, відавочна і паслужыў Скарыну ў яго Прадмове да «Плачу прарока Ераміі» для ідэнтыфікацыі літар габрэйскага алфавіта лацінскім літарам: «Алеф» — «А», «Тав» — «Т».

Атрыбуцыя Алеф і Тав як A і T знайшла сімвалічнае выражэнне ў Скарыны ў знакамітым «трохкутніку» з яго партрэта. Скарына тлумачыць гэта ў Прадмове да Бібліі Рускай: «У гэтай Кнізе ўсёй прыроджанай мудрасці пачатак і канец; Бог уседзяржыцель спазнаваны бывае». Ад Альфы да Амегі ў грэцкай версіі, у першапачатковым, іўдзейскім варыянце — ад «Алеф» א да «Тав» ת (першая і апошняя літары старажытнаяўрэйскага алфавіта).

«Таямніца» сімвалічнага знака са скарынаўскага партрэта ляжыць на паверхні. Мільёны турыстаў бачаць яе штодня на галоўнай славутасці Барселоны — храме Святой Сям'і (Саграда Фамілія). Там, на фасадзе Пакут Хрыстовых, здзіўлены скарыназнаўца сустракае знак, які ва ўсіх даведніках значыцца як «стылізаваны знак Альфы і Амегі» (**іл. 12**).



14. **Арон.** Nicolaus de Lyre. Postilla litteralis super totam Bibliam Doering. Страсбург, 1477.

### Літара «Шын» на шапцы Арона

Спалучэнне את сустракаецца ў Старым Запавеце ў сотні месцаў, часта ў асацыяцыі з Яхве (YHVH יהוה). Разам з іншымі літарамі, дадзенымі, паводле падання, старажытным габрэям ад Бога, яны заключаюць у сабе сутнасць, ідэю існага, боскае адкрыццё. Цягам стагоддзяў яны з'яўляліся крыніцай натхнення іўдзейскай, а затым і хрысціянскай кабалы.

Аднак рэнесансныя кабалісты пайшлі далей, шукаючы пацвярджэння таго, што боская сутнасць Хрыста была закладзена ў Старым Запавеце. Так, з дапамогай складаных

нумаралагічных разлікаў (кожная літара габрэйскага алфавіта мае не толькі эзатэрычны сэнс, але і лічбавае значэнне), Піка дэла Мірандола заклаў пачатак традыцыі хрысціянскай кабалы і пошукаў лічбавага і абсалютнага значэння імя Бога і імя Ісуса.

Ройхлін працягнуў яго пошукі. У *«De Verbo mirifico»* ён выяўляе схаванае імя Ісуса ў галоўным слове Старога Запавету — тэтраграматоне Яхве (YHVH). Менавіта ён устаўляе літару «Шын» ( «S» і «Sin») у тэтраграматон, ператварыўшы яго ў пентаграматон YHSVH — Ісус.

Скарына двойчы змясціў гэтае імя ў Бібліі Рускай. У Кнігах Выхад і Лявіт — на гравюры з выявай іўдзейскага першасвятара Арона **(іл. 13)**, якая суправаджае біблейскі надпіс на залатой пласціне ў форме паўмесяца з выгравіраваным на ім імем Бога.

Узорам для гравюры была, мабыць, выява Арона з тлумачэннняў да Бібліі Нікола дэ Ліра **(іл. 14)**. Там выразна прaглядаецца гэтае слова — тэтраграматон, старажытнаяўрэйскае імя Яхве, якое складаецца з чатырох зычных JHVH ( «Yod» — «He» — «Waw» — «He») .

Аднак... на шапцы скарынаўскага Арона выразна праглядаецца літара ש — «Шын»!

Выходзіць, Скарына не толькі ведаў працы хрысціянскіх кабалістаў, але і абапіраўся на іх, каб праілюстраваць закладзенае яшчэ ў Старым Запавеце прышэсце Хрыста.

Прыгледзімся яшчэ раз да выявы Арона з Бібліі Скарыны **(іл. 15)** і «традыцыйнага» Арона, узятага з «Нюрнбергскай хронікі» Гартмана Шэдэля 1493 года **(іл. 16)**.

Цікава заўважаць падабенства. Аднак і адрозненні кідаюцца ў вочы. Па-першае, рэнесанснае, у падуанска-венецыянскім стылі афармленне з калонамі, багатым





15. **Францыск Скарына. Кнігі Лявіт Майсеевы.** Прага, 1519 (уверсе).
16. **Hartmann Schedel. Liber Chronicarum.** Нюрнберг, 1493 (справа).



17. **Альбрэхт Дзюрэр. Укрыжаванне.** 1495–1498 гады. The Metropolitan Museum.

дэкорам, вазамі і гірляндамі. Па-другое, «фірмовы» знак Скарыны — «сонца маладзіковае». Па-трэцяе, «трохкутнік А-Т», «ад Алеф да Тав», які азначае «ўсёй прыроджанай мудрасці пачатак і канец» і факт таго, што «Бог уседзяржыцель спазнаваны бывае». І нарэшце, сама сутнасць «волі нябесных таямніц» — пентаграматон, які сімвалізуе імя Бога YHSVH יהשוה Ісуса Хрыста.

Скарына ў тэкстах прадмоў дэманструе сваю жывую веру ў тое, што ўвесь Стары Запавет напоўнены аналогіямі, прадвесцем Новага, знакамі прышэсця Хрыста, яго будучых пакут, распяцця, уваскрасення і выкуплення.

## Галгофскі крыж

Таксама Скарына ўсяляк падкрэслівае сілу і знак крыжа. Апошні звязаны з працяглай хрысціянскай традыцыяй. Іканаграфія «жыватворнага крыжа» велізарная. Неад'емнымі ▶




18. **Праваслаўны** галгофскі крыж.



19 .**«Трапецыя, увянчаная крыжам»**, фрагмент партрэта Скарыны (Францыск Скарына. Кніга Мудрасці Ісуса, сына Сірахава. Прага, 1517).

▶ атрыбутамі яго былі галава Адама, узвышэнне, якое сімвалізуе Галгофу, і табліца з надпісам INRI — лацінскае *Iesvs Nazarenvs, Rex Ivdæorvm* (**іл. 17**).

З часам у каталіцкай традыцыі ў выявы сцэны распяцця ўводзяцца прылады Пакутаў Госпада (дзіда і кій з губкай, змочанай у воцаце); у праваслаўі пашыраецца выява так званага галгофскага крыжа (**іл. 18**).

Для шчырага хрысціяніна Скарыны стылістычнае цытаванне галгофскага крыжа на ўласным партрэце выглядае натуральна. Успрымаючы сябе паслядоўнікам Гераніма, перакладаючы на «рускую» мову тэкст Святога Пісьма, ён дадае відавочны для сваіх паспалітых сучаснікаў сімвал галгофскага крыжа як знак хрысціянства і як знак выкуплення Хрыстом першароднага граху Адама і перамогі Новага Запавету над Старым (**іл. 19**).

**Галгофскі крыж шырока выкарыстоўвалі праваслаўныя. Скарына змяшчае яго каля свайго партрэта**

Галгофскі крыж, які выкарыстоўваўся як у праваслаўнай літургіі, убранні святароў, так і ў штодзённасці для асвячэння дамоў і цэркваў, як бы асвячаў увесь выдавецкі праект Скарыны. Гэта адпавядала заходнееўрапейскай традыцыі выдаўцоў — выкарыстоўваць розныя маркі-знакі ў выглядзе крыжа, чацвёркі альбо перавернутай чацвёркі, успадкаваныя яшчэ ад сярэднявечных рамеснікаў і гандляроў, якія асвячалі такім чынам свой бізнэс і засцерагалі яго ад нягод (напрыклад, «4» была сімвалам таго ж тэтраграматона, а перавернутая «4» абараняла ад чумы).

Адсутнасць ля крыжа «галавы Адама» кажа толькі пра тэхнічныя асаблівасці: цяжка ўявіць сабе, як у знак такога памеру на партрэце можна было б яе ўпісаць.

Аднак пасля Скарына перастаў выкарыстоўваць галгофскі крыж. Магчыма, прычынай было супрацоўніцтва з іўдзейскімі кнігавыдаўцамі ў Празе.

### Знак папскага роду

Мне даўно не даваў спакою факт, што арнаментальнае ўбранне Бібліі Рускай заснавана на паўторы аднаго і таго ж матыву. Гірлянды, дэкор калон, віньеткі, нават валасы Самсона, які перамагае льва, — усё



20. **Францыск Скарына. Самсон.** Кнігі Суддзяў. Прага, 1519.

**Вольга Шутава**
кандыдатка гістарычных навук, пісьменніца, дырэктар Лабараторыі скарыназнаўства, заснавальніца сайта skaryna.com. Жыве ў Францыі.



21. **Мікеланджэла. Столь Сіксцінскай капэлы.** Фрагмент. 1508–1512 гады.



22. **Герб сям'і Дэла Равэрэ.**

афармлена ў выглядзе дубовага лісця **(іл. 20)**.

Уявіце маё хваляванне, калі, разглядаючы ў Ватыкане столь Сіксцінскай капэлы Мікеланджэла, я ўбачыла гэтае самае дубовае лісце **(іл. 21)**. Аказваецца, Мікеланджэла, які аздабляў яе на замову папы Юлія II у 1508–1512 гадах, змясціў, як патрабавала традыцыя, сімволіку дуба, беручы прыклад з радавога герба Юлія II «Равэрэ» (па-італьянску азначае «дуб») **(іл. 22)**.

З той самай прычыны ў Сіксцінскай капэле Сандра Батычэлі размяшчае на фрэсцы (зробленай раней на замову іншага папы, Сікста IV, які паходзіў з той самай сям'і) дубовае лісце і жалуды **(іл. 23)**.

Як тут не ўспомніць, што камісію на абароне Скарыны ў Падуанскім універсітэце ўзначальваў «пан доктар Сікст» — Сікст Гара дэла Равэрэ (1473–1517), пляменнік папы Юлія II і ўнучаты пляменнік папы Сікста IV. Кардынал-святар тытулярнай царквы Святога Пятра ў ланцугах, «доктар Сікст» удзельнічаў у выбарах папы на канклаве ў сакавіку 1513-га — усяго праз 4 месяцы пасля абароны Скарыны. У 1509 годзе Сікст Гара дэла Равэрэ становіцца біскупам Падуі і... прэзідэнтам Падуанскага ўніверсітэта. Яго сімвалам, як і ўсёй фаміліі дэла Равэрэ, натуральна, было дубовае лісце! Якая сувязь існавала паміж сям'ёй дэла Равэрэ і Бібліяй Францыска Скарыны? Наша дэтэктыўная гісторыя працягваецца... ◆

**Дубовае лісце на гравюрах Бібліі Рускай мае тое ж значэнне, што і на фрэсках Сіксцінскай капэлы: падзяка папскаму і кардынальскаму роду дэла Равэрэ?**







23. **Сандра Батычэлі**, 1480–1482 гады. Спакусы Хрыста. Фрагменты.

# Што яднае Францыска Скарыну з Джонам Уікліфам і Янам Гусам?

**Гэта не зусім той спіс, у якім мы звыклі бачыць Францыска Скарыну. Піша гісторык Дзяніс Пархац.**

Часцей ягонае імя можна сустрэць у адным шэрагу з Ёганам Гутэнбергам ці Іванам Фёдаравым. Бо ў сучасным грамадскім светаўспрыманні Скарына ў першую чаргу друкар. Школьны падручнік сустракае чытачоў параграфам «Францыск Скарына — беларускі першадрукар, асветнік і гуманіст». Менавіта пра друкарскія справы Скарыны найперш распавядаюць газетныя артыкулы, мастацкія творы, тэлевізійныя перадачы.

Роля Скарыны як выдаўца сапраўды важная для беларускай і не толькі гісторыі, гэтага не аспрэчыш. І недарэчна было б казаць, што ўсё, што напісана ў школьным падручніку, не адпавядае гістарычнай рэчаіснасці. Але Скарына быў не толькі выдаўцом. Яго дзейнасць адлюстроўвае агульныя змены ў рэлігійным жыцці ў Еўропе на мяжы Сярэднявечча і Новага часу.

## Манаполія лаціны

На працягу большай часткі Сярэднявечча асноўнай мовай рэлігійнага жыцця ў Еўропе заставалася лацінская.




**Францыск Скарына.** Партрэт Віктара Маркаўца.

На ёй у каталіцкім свеце распаўсюджвалася Біблія, на ёй дыскутавалі багасловы, ствараліся рэлігійныя трактаты і служыліся месы. Каталіцкую царкву без лаціны немагчыма было ўявіць, нават нягледзячы на тое, што большасць вернікаў яе не разумела.

Ставілі пад сумнеў манаполію лацінскай мовы толькі нешматлікія рэлігійныя рухі, вучэнне якіх разыходзілася з афіцыйнай пазіцыяй Каталіцкай царквы. Так, яшчэ ў XII стагоддзі кіраўнік руху вальдэнсаў у Францыі П'ер Вальдо замовіў пераклад Біблії на народную мову. А Ганна Багемская, жонка англійскага караля Рычарда II, атрымала дазвол карыстацца перакладам чатырох Евангелляў на англійскую мову.

Афіцыйна, праўда, Каталіцкая царква ніколі не забараняла перакладаў Біблії на народныя мовы, але і не падтрымлівала іх. Каталіцкія багасловы выказвалі два асноўныя аргументы супраць перакладаў. Па-першае, Біблію на народнай мове ў такім выпадку змогуць чытаць людзі, якія не атрымалі Боскай ласкі святарства. Таму яны могуць няправільна зразумець тэкст, адхіліцца ад вучэння Царквы і ўпасці ў ерась. Па-другое, Біблія з'яўлялася падмуркам усяго рэлігійнага жыцця: на ёй грунтаваліся шматлікія багаслоўскія трактаты. Біблійныя палажэнні нельга было скажаць і змяняць, а нават кваліфікаваны перакладчык мог памыліцца. Парафіяне, хутчэй за ўсё, той памылкі і не заўважылі б, але багасловаў недакладны пераклад мог бы паставіць у складанае становішча. Таму Каталіцкая царква лічыла, што лепш ужо ад граху далей карыстацца толькі лацінскім тэкстам.

## Уздым народных моваў

Сапраўдную рэвалюцыю ў познім Сярэднявеччы зрабіла

імкненне распаўсюдзіць сярод жыхароў Еўропы зразумелыя ім пераклады Біблії на народных мовах. Джон Уікліф пісаў, што кожны чалавек павінен мець магчымасць чытаць Біблію незалежна ад мовы, на якой ён размаўляе, — лацінскай або англійскай. Англійскі багаслоў з паплечнікамі не толькі пераклаў Біблію на родную мову, але выступіў і супраць манаполіі духавенства на яе разуменне. Ягоныя ідэі сталі тэарэтычнай асновай, на якой пасля грунтаваліся пераклады і на іншыя нацыянальныя мовы.

Ідэя англійскага багаслова адкрыла шлях для распаўсюджвання Біблій на народных мовах па ўсёй Еўропе. І так супала, што акурат у гэты час, у 1440-я гады, Ёган Гутэнберг вынайшаў друкарскі станок. Больш танная друкаваная кніга стала выцясняць манускрыпты, якія маглі набыць толькі заможныя людзі. У 1466 годзе з'явіўся першы друкаваны пераклад на старанямецкую мову, у 1471-м — на італьянскую, у 1478-м — на каталонскую, у 1488-м — на чэшскую. Гэтыя


WIKIMEDIA COMMONS

**Джон Уікліф.**

выданні падрывалі гегемонію сакральнай лаціны і адкрывалі шлях да больш шырокага ўжывання нацыянальных моў.

## Скарына — у кантэксце

У гэты самы агульнаеўрапейскі кантэкст гарманічна ўпісваецца і дзейнасць Францыска Скарыны, адно толькі што яна падрывала гегемонію не лаціны, а іншай распаўсюджанай сакральнай мовы — царкоўнаславянскай. Скарына таксама не займаўся механічным выданнем традыцыйнага царкоўнаславянскага тэксту, запісанага ў рукапісах. Яго выданні, вядома, знаходзіліся ў царкоўнаславянскай традыцыі, але не абмяжоўваліся ёй.

Праца Скарыны — таксама і рэдактарская. Друкар звяртаўся да разнастайных крыніц, каб зрабіць тэкст найбольш дакладным і зразумелым для чытачоў. Ён адмовіўся ад шэрагу грэчаскіх тэрмінаў, не зразумелых «паспалітаму люду». Замест «анфіпата» (кіраўнік правінцыі) Скарына друкаваў «намеснік», замест «ігемон» (правіцель) — «уладар», замест «анафема» — «да будет проклят». Ён імкнуўся дасягнуць не фармальнай адпаведнасці старажытным тэкстам на кананічных мовах (грэчаскай і лацінскай), а каб «паспаліты люд» зразумеў сэнс напісанага гэтак жа сама, як і тыя чытачы, якія валодалі тымі кананічнымі мовамі.

Менавіта імкненне зрабіць біблейскі тэкст на народнай мове зразумелым для чытача і дазваляе паставіць англійскага багаслова Джона Уікліфа, прыхільнікаў ідэолага чэшскай Рэфармацыі Яна Гуса і ўсходнеславянскага першадрукара Францыска Скарыну ў адзін шэраг. Яны ўсе з'яўляліся ўдзельнікамі


WIKIMEDIA COMMONS

**Ян Гус.** Партрэт невядомага мастака XVI стагоддзя.

руху, накіраванага на стварэнне біблейскага тэксту на народных мовах. На тытульным лісце Кнігі Быццё Скарына надрукаваў, што выданне прызначаецца «Богу ка чці і людзем паспалітым к добраму навучэнню». І тут беларускі першадрукар выкарыстоўваў тыя ж сродкі для дасягнення даступнасці тэксту, што і ягоныя папярэднікі ў Англіі і Чэхіі. Бо ў англійскіх і чэшскіх тэкстах незразумелыя мэтавай аўдыторыі выразы таксама па магчымасці мяняліся на мясцовыя адпаведнікі. ◆



# Зімовы трып па слядах вайны

Зіма — таксама прычына пайсці вандраваць. Бо чыстае паветра. Новыя ўражанні. Загартоўка.

Мы невялікай кампаніяй сумясцілі фізічную карысць вандроўкі з цікаўнасцю і праклалі 25-кіламетровы двухдзённы маршрут уздоўж рэчкі Лучосы так, каб узнавіць для сябе карціну змагання 33-й арміі ў 1943 годзе на подступах да Віцебска.

33-я армія пачала атакі за Віцебск яшчэ ў лістападзе 1943-га. Рабілася гэта ў мароз і завею, днём і ноччу, але прарваць абарону праціўніка на ўсю глыбіню нашым войскам не ўдавалася. Страты арміі былі вялікія: гарэлі танкі, тэхніка і людзі патаналі ў балотах, у ротах часам заставалася па 12–14 байцоў. І хоць 33-й арміі ў выніку не давялося штурмаваць Віцебск, бо ў красавіку 1944-га яна перадала свае баявыя парадкі 39-й арміі і накіравалася для папаўнення пад Варонеж, яе значны ўнёсак у поспех наступнай аперацыі «Баграціён» неаспрэчны.

**Я бакавым зрокам заўважыў на дрэве ржавы кацялок. Падышоў бліжэй і на зямлі пабачыў іржавы дыск ППШ і... россып гранат**

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню. Падпісны індэкс **00469**.

Першай цікавосткай для нас, калі мы ішлі ад станцыі Лучоса на поўдзень, быў невялікі помнік з пахаваннем парэштак байцоў, якія загінулі ў 1941–1944 гадах. Каля яго ляжалі савецкая каска, аскепак. Пасля такія ваенныя сляды мы заўважалі паўсюль.

Напрыклад, ля мемарыяла ў вёсцы Новікі ляжалі ржавыя салдацкія каскі, розныя аскепкі, гільзы ад патронаў і снарадаў. Новікі — значная мясціна на карце таго зімовага супрацьстаяння. Тут размяшчаўся нямецкі плацдарм, і савецкая армія атакавала яго, каб убіць клін у нямецкую абарону. Баі былі стратныя, а часам адкрыта драматычныя. Як было гэта, напрыклад, у ноч з 12 на 13 лютага 1944 года, калі нямецкія войскі пайшлі ў контратаку, і раніцай на полі бою засталося 12 згарэлых самаходак і 9 танкаў.

За мемарыялам мы пабачылі таблічку, якая падказвала, што праз 150 метраў размешчаны былы апорны пункт «Школа Новікі» — ён у тым баі быў адным з ключавых для наступлення нашых часцей. За 100 метраў адтуль знаходзіўся нямецкі апорны пункт «Могілкі Новікі». Дзве пакурожаныя нямецкія каскі на дрэве нібыта дапаўняюць сухую афіцыйную інфармацыю.

А трошкі пазней, ідучы па полі ў ваколіцах Новікаў, я бакавым зрокам заўважыў, што на дрэве вісіць іржавы кацялок. «Трактарысты, мусіць, падчас жніва прыбралі», — падумалася мне. Падышоў бліжэй і на зямлі заўважыў іржавы дыск ППШ, яшчэ кацялок і... россып гранат. Паклікаў таварышаў. З вялікай асцярожнасцю мы разварушылі мокрае лісце, у якім трапіліся як мінімум дзве «лімонкі» Ф-1, зона паражэння якіх дасягае 200 метраў, а ўсяго з дзясятак гранат. Гэта стала самым яскравым уражаннем паходу, бо дамяшалася ладная порцыя адрэналіну.

І на месцы нашага начлегу, за кіламетры два ад вёскі, таксама засталіся сляды вайны: трапіўся пусты цынк-кораб ад кулямёта.

Паснедаўшы наступнай раніцай, мы рушылі праз палі да вёскі Мятлі, а далей — да Макарава і Зазыбаў. Праходзячы па грунтавой дарозе, на ўзбочыне знайшлі гільзу ад снарада 122-га калібру. Шлях ад Макарава да Зазыбаў быў няпросты: патрапілі на невялікае балота і вырашылі яго «штурмаваць». Адолелі метраў сто, але вада замерзла толькі часткова і далей было не прайсці. Добра, што ў нас, у адрозненне ад салдат, не было строгага вайсковага загаду, і мы маглі вярнуцца, каб не праваліцца ў багну.


ФОТА ВІТАЛЯ ШЫЁНКА

**Мікіта Жукоўскі і Дзмітрый Есіпаў каля апорнага пункта «Могілкі Новікі».**

Урэшце, мы выйшлі па карце ў пасёлак Замасточча, селі на дызель-цягнік і паехалі дадому.

А вынікам вандроўкі стаў фільм камандзіра нашага паходу Дзмітрыя Есіпава «33-я армія ў баях за Віцебск. Пазіцыйны фронт: рускі Вердэн». Яго можна паглядзець **па к'юар-кодзе (справа)**. Там, аднак, не расказана пра ўсю аперацыю вызвалення Віцебска, і ў планах — рабіць працяг.



**Віталь Шыёнак, Віцебск**

## «Матка Боска! Дзесяцігоддзямі ездзіў у Краснае і ніколі не чуў, што там пахаваныя паўстанцы!»

Я нарадзіўся ў Докшыцах, а мой бацька Уладзімір (1902 года) нарадзіўся ў мястэчку Краснае, чыгуначная станцыя Уша, гэта за 20 вёрст ад Маладзечна. У Красным я свайго бацьку і пахаваў, штогод даглядаю яго магілу.

Летась у траўні на могілках у Красным сустрэў чалавека, які таксама даглядаў магілу свайго бацькі. Разгаварыліся, аказалася, што гэты чалавек — супрацоўнік музея ў Маладзечне. Упершыню ад яго я і даведаўся, што на краснянскіх каталіцкіх могілках, старых і занядбаных, пахаваны адзін каліновец, а на плябанскіх (4 вярсты ад самога Краснага), таксама занядбаных, парослых кустоўем і бадыллём, — пахавана чатыры каліноўцы.

Матка Боска! Дзесяцігоддзямі ездзіў у Краснае да сваіх крэўных па бацьку і падобнага ніколі не чуў і не ведаў. Савецкая ўлада дзесяцігоддзямі трымала мяне (нас) у няведанні, у цемры. Сваю, беларускую гісторыю я не ведаў. У мой час такой навукі (прадмета) у школе не было. Я быў дурны, як кірзавы бот.

Просьба да вас раскрыць і распавесці гэтую цікавую гісторыю на старонках вашага часопіса. Хто? Як? Дзе? Адкуль з'явіліся гэтыя героі ў Красным?

**З падзякай і любоўю**
**Барыс Старыкевіч, 84 гады, Менск**

**Ад рэдакцыі.** Паўстанцкая магіла ў Плябані ўваходзіць у Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей. Могілкі гэтыя дзейнічалі з пачатку XIX стагоддзя да Другой сусветнай вайны.



RADZIMA.ORG. ФОТА К. ШАСТОЎСКАГА

Каталіцкія могілкі ў Красным. **Магіла Ігната Абрамовіча — ветэрана паўстання 1863 года.** Жыў 105 гадоў, памёр 27 студзеня 1944 года.

І менавіта там мясцовыя жыхары пахавалі пецярых паўстанцаў, што загінулі ў баі з царскай арміяй 11 сакавіка 1863 года ля Свечак і Плябані. Гэта камандзір атрада Юльян Бакшанскі (за 39-гадовае жыццё яго двойчы высылалі з Беларусі за антыцарскую агітацыю, ён вяртаўся і пачынаў усё наноў), Рафал Малішэўскі, Людвік Ямант, Леапольд Банькоўскі і 15-гадовы Ігнась Сулістроўскі.

Помнік паставілі пры паляках. А ў савецкі час магілу ўратаваў археолаг Міхась Чарняўскі. Ён, малады навуковы супрацоўнік, заехаў у Краснае, і мясцовы дзядзька ля касцёла мімаходам згадаў магілу паўстанцаў. Так выпадкова яе і адкрылі.

З дапамогай дырэктара абласнога музея Генадзя Каханоўскага і гісторыка Міхася Ткачова ўдалося пераканаць улады паставіць на магіле помнік.

А магілу паўстанца Ігната Абрамовіча ў Красным для сучаснікаў адкрыў красненскі краязнавец Алесь Харытон. Паўстанец пражыў 105 гадоў і пахаваны на старых каталіцкіх могілках.

У цэнтры Краснага, на прыватным падворку, захаваліся рэшткі манумента, усталяванага ў 1938 годзе ў памяць пра паўстанцаў, загінулых у ваколіцах.

* * *

Раздаў на пары студэнтам нумары «Нашай гісторыі» і заданне: з матэрыялаў артыкулаў вычапіць турыстычныя і экскурсійныя рэсурсы. Хоць яны і не ведалі, што такі часопіс існуе, сядзяць, чытаюць, захапляюцца артыкуламі... І жыва так абмяркоўваюць! А вынік такі: тур па могілках, крымінальны Полацк (са словамі: гэта як па Зыбіцкай), карпаратыўны баль у Нясвіжы па канонах XVIII стагоддзя. Ну і на каву ў Горадню.

Малайцы, мне іх ідэі спадабаліся.

**Павел Булаты, Мінск, кандыдат гістарычных навук, *facebook.com***

# Ад дыктатуры да дэмакратыі — усяго тры кро

**Пасля смерці Франсіска Франка ў 1975 годзе Іспанія амаль імгненна ператварылася ў дэмакратыю. Але перамены рыхтаваліся яшчэ пры жыцці «апошняга дыктатара Заходняй Еўропы», піша Андрэй Акушка.**

У адрозненне ад многіх іншых аўтакратаў, генерал Франка цвяроза ўсведамляў, што ён не вечны. Таму яшчэ з пачатку 1940-х гадоў ён пачаў шукаць сабе пераемніка, палічыўшы патрэбным адрадзіць манархію, ліквідаваную рэспубліканцамі ў 1931-м. Франка спадзяваўся, што кароль пры патрэбе стане арбітрам, які здолее прымірыць розныя палітычныя сілы і не дазволіць ім распачаць новую грамадзянскую вайну.

Заставалася толькі вызначыць, хто ім стане. Франка не жадаў бачыць на троне сына зрынутага ў 1931 годзе караля, бо той актыўна падтрымліваў праціўнікаў Франка. Дыктатар зрабіў выбар на карысць унука караля — Хуана Карласа.

## Іспанія

- **Насельніцтва** 47 млн чалавек. З 1975 года, моманту пераходу да дэмакратыі, яно вырасла на 12 мільёнаў чалавек. Цікава, што насельніцтва Беларусі за той жа перыяд не змянілася
- **Тэрыторыя** 506 тыс. кв. км (у 2,5 разу большая, чым у Беларусі)
- Іспанія ўваходзіць у зону **еўра**
- **Сярэдні заробак** «чыстымі» ў Іспаніі цяпер прыкладна ў чатыры разы вышэйшы, чым у Беларусі

**Франсіска Франка (справа) са сваім пераемнікам, прынцам Хуанам Карласам.** 1970-я гады.

WIKIMEDIA COMMONS

кі

Уплываць на яго правадыр нацыі пачаў з малых гадоў: дазволіў атрымаць адукацыю на радзіме (сям'я жыла ў выгнанні), а з 1963-га нават запрасіў жыць у былым каралеўскім палацы Сарсуэла. Але заступіць на каралеўскі трон прынц павінен быў толькі пасля смерці дыктатара.

## Як Франка выбіраў пераемніка

Доўгі час Франка вагаўся між двума кандыдатамі з каралеўскага роду: Хуанам Карласам і ягоным стрыечным братам Альфонсам. У апошняга былі свае козыры: Альфонса сустракаўся з унучкай Франка — яны ажэняцца ў 1972-м — і цалкам падтрымліваў погляды каўдыльля. Але Хуан Карлас перайграў: ён заўсёды пагаджаўся з дыктатарам і нават абмежаваў кантакты з уласным бацькам-лібералам. Таму летам 1969-га ён і стаў афіцыйна «прынцам Іспаніі».

Пазней новы кароль прызнаўся, што ўсе гэтыя гады таіўся, каб заваяваць давер дыктатара. Хуан Карлас нават атрымаў вайсковую адукацыю, бо «ключом да поспеху былі сілавікі, і я быў вымушаны стаць афіцэрам, каб атрымаць падтрымку вайскоўцаў».

**Усе гады дыктатуры кароль Хуан Карлас хаваў ад Франка свае сапраўдныя погляды**

Прынц Хуан Карлас, аднак, вёў двайную гульню і яшчэ да смерці Франка непублічна сустракаўся з палітычнымі апанентамі дыктатара, абмяркоўваючы з імі будучыню Іспаніі. Вядома, службы бяспекі паведамлялі пра ўсё кіраўніку Франка, аднак гэта не змусіла дыктатара раздумаць. Гэта быў чалавек са сваімі прынцыпамі і ўяўленнямі. Нездарма ж яшчэ падчас грамадзянскай вайны ён казаў, што яму трэба не хуткая перамога любой цаной, а вызваленне ад камуністаў з мінімальнай колькасцю ахвяр.

## Адліга пачалася яшчэ пры Франка

Для дэмакратызацыі Іспаніі да 1970-х гадоў наспелі і знешнія, і ўнутраныя перадумовы.

Каб забяспечыць нармальнае кіраванне эканомікай, Франка яшчэ ў 1950-я прывёў ва ўрад тэхнакратаў. Яны зрабілі эканамічны цуд. Па меры таго, як краіна багацела, аўтарытарызм страчваў сэнс, больш не было патрэбы кантраляваць сацыяльныя супярэчнасці жалезнай рукой. Камуністычнай пагрозы больш не было, а дэмакратычныя краіны Еўропы апераджалі Іспанію ў развіцці. А тут яшчэ здарыўся штуршок сусветнага эканамічнага крызісу 1973-га.

Палітычную лібералізацыю падтрымлівалі і многія ва ўладзе. З канца 1960-х улады ▶

**Генерал Франсіска Франка прыйшоў да ўлады** ў выніку грамадзянскай вайны. Ён выйграў яе пры падтрымцы нацысцкай Германіі і фашысцкай Італіі (гл. **артыкул Аляксея Ластоўскага ў № 6/2019 «Нашай гісторыі»**). Тры гады Іспанія ваявала. У 1939 годзе рэспубліканцы капітулявалі. Франка забараніў апазіцыю і пакінуў у краіне адзіную партыю (называлася яна «Іспанская фаланга»).

**Франкісцкая ідэалогія** не была расавай, як нацысцкая ў Трэцім рэйху. Яна была проста архікансерватыўнай, антыкамуністычнай і антыанархісцкай — максімальна дапасаванай да асобы дыктатара. Па-іспанску Франка называлі ***caudillo***, «каўдыльля», што азначала «правадыр нацыі». Адпаведнікам яму ў нямецкай мове было слова «фюрар», а ў італьянскай — «дучэ», якія ўжываліся ў дачыненні, адпаведна, да Адольфа Гітлера і Беніта Мусаліні.

пачалі скрозь пальцы глядзець на развіццё рэгіянальнай апазіцыйнай прэсы, хоць цэнтральныя СМІ працягвалі заставацца «правільнымі». Тады ж у краіне дазволілі «палітычныя асацыяцыі», з якіх потым вырастуць апазіцыйныя партыі. Ды нават маладзейшыя сябры адзінай дазволенай партыі, Фалангі, выступалі за перамены.

Вось так яшчэ пры жыцці Франка былі зробленыя першыя крокі да дэмакратызацыі ў Іспаніі. Але сапраўды новая эра ў жыцці краіны пачалася позняй восенню 1975-га, калі пасля смерці каўдыльля кіраўніком краіны быў абвешчаны кароль Хуан Карлас I.

## Новая Іспанія

Ужо ў пачатку 1976-га ў Мадрыдзе прайшлі першыя масавыя дэманстрацыі з патрабаваннямі палітычных свабод. Адным з лозунгаў быў такі: «Хуан Карлас, пачуй нас!». Гэтыя дэманстрацыі далі маладому каралю маральны мандат на перамены. У ліпені 1976-га, праз восем месяцаў пасля смерці дыктатара, кароль адправіў у адстаўку атрыманы ў спадчыну ад ранейшага рэжыму ўрад Карласа Арыяса Навары і даручае стварэнне новага ўрада франкісту-цэнтрысту Адольфа Суарэсу.

Суарэс быў прадстаўніком маладога пакалення ў франкісцкай эліце. На момант смерці Франка яму было 43 гады. У грамадзянскай вайне ён не ўдзельнічаў, у 1936-м яму было ўсяго 4 гады. Пры Франка ён пачынаў як «вертыкальшчык», узначальваў адну з правінцый, а пасля — дзяржаўнае тэлебачанне.

Усмешлівы Суарэс не толькі меў рэпутацыю ліберала, але і быў ім. Натуральна, лібералам не

## Іспанскі эканамічны цуд

Эканамічны рост у гады «іспанскага цуду» пры Франка (1959–1973) быў найхутчэйшы ў найноўшай гісторыі Іспаніі. Нават рост пасля ўступлення Іспаніі ў ЕС не ідзе ў параўнанне. Той бурны рост быў звязаны з рынкавымі рэформамі (1958), уступленнем Іспаніі ў Міжнародны валютны фонд (1959) і атрыманнем вялікіх крэдытаў і інвестыцый ад заходніх дэмакратый. Гэта былі гады бурнага росту прамысловасці, асабліва аўтамабілебудавання (SEAT). Пры гэтым большая частка індустрыі заставалася пад дзяржаўным кантролем.

Франка верыў у дзяржаўны кантроль над эканомікай. Масавая прыватызацыя ў Іспаніі адбылася толькі пасля пераходу да дэмакратыі.

Пасля пераходу ад дыктатуры да дэмакратыі ўвесь час кіравання постфранкістаў эканамічны рост запавольваўся і дасягнуў дна ў 1981 годзе, калі было зафіксавана падзенне эканомікі. Пасля прыходу да ўлады сацыялістаў эканоміка зноў стала расці. За 20 гадоў пасля далучэння да Еўрасаюза Іспаніі ўдалося амаль дагнаць Францыю па эканамічным развіцці.

## Партыя ўлады

пры Франка называлася «Іспанская фаланга», або «Нацыянальны рух». Праз паўтара года пасля смерці Франка партыя самараспусцілася. Пасля гэтага ліберальнае яе крыло ўтварыла Саюз дэмакратычнага цэнтра, а кансерватыўнае — Народную партыю. Першая перамагала на першых выбарах, але пасля развалілася. А вось другая паступова набірала ўплыў і ўрэшце ў 1996 годзе здабыла ўладу. Яе першым прэм'ерам стане Хасэ Марыя Аснар.


WIKIMEDIA COMMONS

Франкісцкая Іспанія не была ізгоем на міжнароднай арэне. На здымку — **Франсіска Франка з прэзідэнтам ЗША Джэральдам Фордам на парадзе ў Мадрыдзе.**




Адольфа Суарэс.

ўвогуле, а ў параўнанні з іншымі франкістамі. Як казаў пазней сам Хуан Карлас, «Суарэс быў франкістам, але такім, які здолеў пераканаць антыфранкістаў паверыць яму».

Суарэс пераканаў уладную эліту прыняць закон аб палітычнай рэформе, пазней падтрыманы на рэферэндуме. А ў красавіку 1977-га, праз паўтара года пасля смерці Франка, ён распусціў «Фалангу», прыбраў з вуліц сімвалы дыктатуры, дазволіў палітычныя партыі і арганізаваў першыя за 41 год свабодныя выбары, на якіх усе кандыдаты мелі роўныя магчымасці для агітацыі, а падлік галасоў быў празрыстым.

Сам Суарэс павёў на выбары наваствораны Саюз дэмакратычнага цэнтра (СДЦ). І перамог. Яго цэнтрысцкая партыя здабыла 165 мандатаў з 350, а ўчорашнія падпольшчыкі і «экстрэмісты» з Сацыялістычнай рабочай і Камуністычнай партый — 118 і 20 адпаведна. Жалезабетонныя «фалангісты», якія пайшлі на выбары пад адроджаным старым лэйблам, не правялі ніводнага дэпутата, а кансерватыўны, «за стабільнасць», Народны саюз, з якога пасля вырасце правацэнтрысцкая Народная партыя, — толькі 16.

Вядома, прыхільнікі Франка не сталі дэмакратамі за адну ноч. Яны патрабавалі для сабе гарантый і прэферэнцый, і за гэтым назіраў новы міністр унутраных спраў, фалангіст Радольфа Марцін Вілья. Яго галоўнай мэтай было «забяспечыць такі трансфер улады, каб тыя, хто распачаў рэформу, не былі выключаныя з новага палітычнага жыцця». Вілья таксама ўвайшоў у Саюз дэмакратычнага цэнтра.

Мяккі ход перамен быў забяспечаны дзякуючы таму, што новы курс падтрымалі нізавыя структуры ўладнага апарату.

Пераменам спрыяла іх падтрымка на міжнароднай арэне. Еўрасаюз абяцаў Іспаніі членства, і нават адносіны з Ватыканам палепшалі, бо кароль адмовіўся ад ранейшай практыкі ўмяшання дзяржавы ў прызначэнне біскупаў.

**«Суарэс быў франкістам, але такім, які здолеў пераканаць антыфранкістаў паверыць яму»**

Да моманту смерці Франка ў іспанскім грамадстве склаўся кансэнсус адносна неабходнасці зменаў: працягу дыктатуры ▶




**Хуан Карлас (злева)** са сваім бацькам і братам Альфонса.

## Хуан Карлас I Бурбон

нарадзіўся ў 1938 годзе ў Рыме, дзе ягоная сям'я жыла ў выгнанні пасля ліквідацыі манархіі ў 1931-м. Пачатковую адукацыю атрымаў у Італіі, а ў 1947-м пераехаў у Іспанію, дзе скончыў школу, а пасля Вайсковую акадэмію, Ваенна-марскую школу, Генеральную паветраную акадэмію і Мадрыдскі ўніверсітэт. З 1969 года Хуан Карлас стаў «прынцам Іспаніі» — палітыкам, які павінен быў узначаліць краіну пасля смерці Франка. З 1974-га прынц дэ-факта кіраваў краінай, а ў канцы наступнага года стаў кіраўніком дэ-юрэ.

Пасля смерці Франка ён ліквідаваў дыктатуру і арганізаваў першыя свабодныя выбары.

У 1981 годзе кароль адмовіўся падтрымаць пераварот (група афіцэраў хацела «навесці парадак» і аднавіць дыктатуру), а з 1982-га добраахвотна адышоў ад рэальнай улады. Манарх стаў адыгрываць ролю маральнага аўтарытэта і гаранта канстытуцыі, амаль не ўмешваючыся ў палітыку. Не дзіўна, што ў 2005-м падчас агульнанацыянальнага апытання амаль 78% грамадзян Іспаніі палічылі Хуана Карласа I «добрым ці вельмі добрым» манархам. У жніўні 2014-га ён адрокся ад трона на карысць сына, хоць і захаваў тытул караля Іспаніі.

## Няўдалая спроба аднавіць дыктатуру

200 спецназаўцаў уварваліся ў будынак картэсаў — парламента. Там у гэты момант ішло галасаванне па кандыдатуры новага прэм'ера.

Кіраўнік мяцежнікаў падпалкоўнік Антоніа Тэхера з пісталетам прайшоў да парламенцкай трыбуны, адціснуў спікера і закрычаў: *«Усім заставацца на месцах і легчы на падлогу!»* Некалькі дэпутатаў падбеглі да Тэхера з пытаннямі, што ён робіць, але пачулі ў адказ: *«Я дзейнічаю ад імя караля»*.

Грымнулі стрэлы ў паветра, дэпутаты паваліліся на падлогу, толькі трое падпарадкавацца адмовіліся. Гэта былі камуніст Санцьяга Карылья, франкіст Мануэль Гуцьерэс Мельяда і экс-прэм'ер Адольфа Суарэс.

Гуцьерэс Мельяда, герой грамадзянскай вайны, загадаў спецназу здаць зброю і пакінуць парламент. Тэхера разгубіўся і не ведаў, што рабіць. Ён не мог страляць у чалавека, якога паважаў, і паспрабаваў паваліць Гуцьерэса Мельяда на падлогу. Нечакана для падпалкоўніка 68-гадовы генерал аказаўся дужэйшым і застаўся на нагах. На дапамогу яму кінуўся Адольфа Суарэс, але гвардзейцы спынілі яго стрэламі ў паветра, якія выпадкова ранілі некалькі чалавек.

Да трыбуны падбег капітан з ліку мяцежнікаў і сказаў: *«Усім сядзець, маўчаць і чакаць, пакуль прыбудуць паўнамоцныя вайсковыя кіраўнікі»*.

Праз гадзіну з месца зноў падняўся Суарэс і «як кіраўнік урада» запатрабаваў ачысціць залу. На што атрымаў адказ: *«Вы больш не кіруеце нічым»*. Пасля гэтага Суарэса і некалькі іншых дэпутатаў-лідараў, якія патэнцыйна маглі ўзначаліць супраціў унутры залы, адвялі ў іншае памяшканне.

Цэлых 18 гадзін народныя выбраннікі правялі ў будынку парламента, пакуль не стаў зразумелы правал путчу.




**Падпалкоўнік Антоніа Тэхера** ў парламенце. 23 лютага 1981 года.




**Кароль Хуан Карлас** у мундзіры галоўнакамандуючага іспанскай арміяй звяртаецца па тэлебачанні з заявай да суайчыннікаў, што сілавое ўмяшанне ў дэмакратычныя працэсы недапушчальнае. Гэта прадвызначыла правал спробы перавароту ў лютым 1981-га.

▸ збольшага не хацелі ні масы, ні эліты. Таму ўсё і пайшло так гладка.

### Зраўнялі катаў і ахвяраў

Новым крокам да прымірэння і аб'яднання іспанцаў стаў закон аб амністыі, які ўступіў у сілу 17 кастрычніка 1977 года. Згодна з ім, усе былыя ўдзельнікі грамадзянскай вайны з боку рэспубліканцаў маглі вярнуцца на радзіму, а функцыянеры рэжыму Франка атрымалі амністыю за свае ўчынкі ў мінулым. Левыя палітыкі крытыкавалі закон за тое, што ён зраўноўваў «катаў і ахвяраў». Але і Суарэс, і кароль Хуан Карлас лічылі, што «люстрацыя прывяла б толькі да новага ўсплёску варожасці».

Дарэчы, закон дзейнічае і сёння, хоць замежныя краіны перыядычна выпрабоўваюць іспанскую сістэму на трываласць. Напрыклад, Аргенціна нядаўна абвінаваціла вышэйзгаданага Вілью ў смерці сваіх грамадзян падчас рабочых пратэстаў, але Іспанія выдаць аднаго з айцоў трансферу ўлады адмовілася.

## Абароненая дэмакратыя

Першы дэмакратычна абраны парламент распрацаваў новую канстытуцыю. Пасля яе прыняцця, у сакавіку 1979-га, прайшлі новыя парламенцкія выбары, пасля якіх Суарэс захаваў пасаду прэм'ера. Аднак далей яго папулярнасць пачала падаць. Эканамічныя рэформы прывялі да росту беспрацоўя, якое дасягнула 20 працэнтаў, і інфляцыі. Тым часам баскскія нацыяналісты ўзмацнілі тэрор, патрабуючы незалежнасці. Анархісты пачалі забойствы і выкраданні багатых прадпрымальнікаў. Фалангісты падкладалі бомбы ў офісах камуністаў. Узнік тыповы для перамен момант нестабільнасці. Левыя патрабавалі паскорыць палітычныя рэформы, а правыя — запаволіць іх. Унутры Саюза цэнтра нарастаў раскол. Маналіту дыктатуры больш не было, розныя групоўкі кіраваліся рознымі інтарэсамі. Мяккі па натуры Суарэс падаў у адстаўку: «Маўр зрабіў сваю справу, маўр можа сысці».

Увечары 23 лютага 1981 года ў парламенце пачалося галасаванне па кандыдатуры новага прэм'ера. І тут здарылася нечаканае: у будынак уварваліся 200 байцоў *Guardia Civil*, Грамадзянскай гвардыі, — іспанскага спецназа. Атрад узначальваў падпалкоўнік Антоніа Тэхера, які «ад імя караля» запатрабаваў ад дэпутатаў маўчаць і заставацца на сваіх месцах. Аднак не ўсе дэпутаты яму падпарадкаваліся, а даць загад страляць Тэхера не наважыўся.

Тым часам адзін з кіраўнікоў змовы, генерал Альфонса Армада, паехаў у каралеўскі палац пераконваць свайго былога курсанта, а цяпер караля, «узяць уладу ў свае рукі». Аднак манарх у мундзіры галоўнакамандуючага ў жывым эфіры тэлебачання заявіў, што сілавое ўмяшанне ў дэмакратычныя працэсы недапушчальнае. Стала ясна: пераварот праваліўся. ▸




**Магіла Франка** ў сямейным пантэоне могілак Мінгарубія.

CADENASER.COM

### Перапахаванне парэшткаў Франка

Развітанне іспанцаў з франкісцкай спадчынай у галіне палітычных і эканамічных практык адбылося даўно, але ў сімвалічнай сферы адносна гэтага вядуцца гарачыя спрэчкі аж дагэтуль. Доўгі час асаблівую вастрыню яны набывалі тады, калі заходзіла гаворка пра тое, што парэшткам былога дыктатара не месца на прэстыжных могілках пры мемарыяле Даліна палеглых пад Мадрыдам, сярод ахвяраў Грамадзянскай вайны ў Іспаніі. Адразу пасля смерці цела Франсіска Франка было ўрачыста пахавана ў крыпце мясцовай базілікі каля алтара.
У 2013 годзе Іспанская сацыялістычная рабочая партыя выступіла з прапановай перанесці магілу Франка з Даліны палеглых у іншае месца. Сацыялагічныя апытанні засведчылі, што гэтую прапанову падтрымліваюць больш за палову жыхароў краіны. Калі летам 2018 года сацыялісты прыйшлі да ўлады, яны правялі праз парламент закон аб эксгумацыі і перапахаванні парэшткаў Франка за межамі базілікі.
Нягледзячы на пратэсты сваякоў і правых палітыкаў, закон быў рэалізаваны. Раніцай 24 кастрычніка 2019 года парэшткі Франка былі вынесеныя з базілікі ў Даліне палеглых і перапахаваныя без дзяржаўных ушанаванняў на звычайных мадрыдскіх могілках Мінгарубія побач з магілай ягонай жонкі Марыі дэль Кармэн Пола-і-Марцінэс-Вальдэс, памерлай у 1988 годзе.

Сярод дэпутатаў, якія 18 гадзін правялі ў Картэсах пад руляімі аўтаматаў, быў і будучы генеральны сакратар НАТА Хаўер Салана.

Аналітыкі казалі, што шанцы на поспех у вайскоўцаў былі, але толькі калі б яны выступілі раней, у дзень легалізацыі камуністаў, якая выклікала абурэнне ў часткі грамадства.

### Апошні крок да ліквідацыі дыктатуры

Далейшая гісторыя Іспаніі нагадвала ход падзей у звычайнай дэмакратычнай дзяржаве. У 1982-м новы прэм'ер Леапольда Кальва-Сатэла распусціў парламент, а на новых выбарах да ўлады прыйшла Сацыялістычная рабочая партыя на чале з Феліпе Гансалесам. Саюз дэмакратычнага цэнтра атрымаў толькі 11 месцаў і праз год самаліквідаваўся — тое самае ўжо ў 1990-я здарылася з альянсамі, якія правялі дэмакратызацыю ў краінах Усходняй Еўропы.

Змяніліся і апаненты цэнтрыстаў. Іспанская сацыялістычная рабочая партыя ператварылася ў тыповую еўрапейскую сацыял-дэмакратычную партыю, якая не збіралася ламаць асновы капіталізму. Ад ідэі дыктатуры пралетарыяту і ліквідацыі манархіі адмовіліся таксама іспанскія камуністы — якія, дарэчы, яшчэ ў 1960-я, разам з італьянскімі і французскімі ідэйнымі аднадумцамі, распрацавалі дактрыну так званага «еўракамунізму», які не ішоў цалкам у фарватэры Масквы.

Гэтыя выбары 1982 года сталі апошнім крокам да ліквідацыі дыктатуры, бо партыя, якая кіравала краінай, не стала чапляцца за ўладу і спакойна саступіла яе.

У сакавіку 1982-га Іспанію прынялі ў НАТА, а 1 студзеня 1986 года гэта дзяржава стала сябрам Еўрапейскай эканамічнай супольнасці, папярэдніцы цяперашняга Еўрасаюза.

**Трэція пасля смерці Франка выбары сталі апошнім крокам да ліквідацыі дыктатуры**

Іспанія паказала свету прыклад, як можна за некалькі год перайсці ад жорсткай дыктатуры да дэмакратыі. У канцы 1980-х менавіта ў Мадрыд ездзілі венгерскія камуністы, каб вывучыць рэцэпты хуткага і амаль бяскроўнага дэмантажу аўтарытарызму. ◆



**Хуан Карлас I перадаў трон сыну ў 2014 годзе, у 76 гадоў**, але працягвае насіць тытул караля.

SHUTTERSTOCK.COM, BY GIL CORZO

# 02.02.2020

RE:PUBLIC
CLUB

БЕЛАРУСКІ МУЗЫЧНЫ ФЭСТ 17:30

СЛУХАЙ СВАЕ!

# УЗАЕМНА!

# UZAJEMNA!

ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА



# DZIECIUKI
## ZNICH & RUTVICA
## СТАРЫ ОЛЬСА
### РАМАН АРЛОЎ І Ў НЕСКЛАДОВАЕ

У МЕЖАХ ФЭСТА БУДЗЕ ПРЭЗЕНТАВАНЫ ПРАЕКТ «АЙЧЫНА І КАХАННЕ»

PAWA І ІНШЫЯ

Жывы гук. Прыватнае прадпрыемства «Канцэрт анлайн», Мінск, Заходняя, 13-1-Ш. УНП 192400162. ГП №2586 ад 6.12.2019 выд. Мінгарвыканкамам

ЖЫВЫ ГУК

16+

+375 44 551-77-06
+375 29 851-77-06


Наша Гісторыя · Наша Ніва

SYMBAL BY · mmkut by · НАРАЧ · Relax.by · ВЯРТАННЕ · Koncert-Online.by · AFISHA TUT.BY · KVITKI.by УСЕ КВІТКІ · TICKETPRO

# Менахем Бегін:

## тэрарыст, які стаў лаўрэатам Нобелеўскай прэміі міру




Менахем Бегін
Злева: турэмны з

# «Ізраіль легітымны, таму што ён іс

WIKIMEDIA COMMONS

, прэм'ер-міністр Ізраіля, 1978 год.
здымак Бегіна з віленскіх Лукішак.

снуе»

**Пра аднаго з самых значных палітыкаў XX стагоддзя, ураджэнца Брэста Менахема Бегіна, піша Павел Касцюкевіч.**

Гэты хлопчык вырас у самым цэнтры Брэста — каля цяперашняга кінатэатра «Беларусь», які ў тыя часы быў Вялікай сінагогай. У той сінагозе і вялася метрычная кніга, дзе запісвалі ўсіх народжаных габрэяў. Сям'я Бегінаў была вельмі набожнай. Яго тата быў сакратаром габрэйскай рэлігійнай гміны. І вучыцца Бегін пачаў у хедэры — рэлігійнай школе. А пазней сур'ёзна захапіўся ідэямі сіянізму і застаўся ім верны праз усё жыццё.

## Усходняя Еўропа — кузня сіянізму

Сіянізм — рух за вяртанне габрэяў на гістарычную радзіму, у Палесціну, — ад самага пачатку дзяліўся на дзве ідэалагічныя плыні, якія між сабой канкуравалі ці часам нават ваявалі. У кожнай былі свае структуры, у тым ліку свае моладзевыя арганізацыі. Адна, сацыялістычная, спалучала марксізм і нацыянальныя ідэалы. Другая, правая, нацыяналістычная, абапіралася на рэлігійныя і кансерватыўныя каштоўнасці.

Ураджэнец Моталя — гэта недалёка ад Пінска — Хаім Вейцман належаў да сацыялістычнага кірунку. Яго будучы палітычны працінік Менахем Бегін з Брэста— да другога. Менахема бацька аддаў у Брэсце ў гімназію «Тахкемоне», дзе навучанне ішло часткова па-польску, а часткова — на іўрыце. Юны Бегін уступіў таксама ў моладзевую арганізацыю «Га-шамэр га-цаір» («Малады вартаўнік»). Але калі гэтая суполка стала дрэйфаваць у бок камунізму, ён пераверўся ў ваенізаваную арганізацыю «Бейтар», правага толку. Там моладзь праходзіла «пачатковую ваенную падрыхтоўку».

Тым часам Хаім Вейцман, будучы першы прэзідэнт Ізраіля, адведвае ў суседнім Пінску сацыялістычныя сіянісцкія гурткі «Сафа брура».

Бегін, студэнт юрфака Варшаўскага ўніверсітэта, мае званне падхарунжага Войска Польскага і паралельна дасягае найвышэйшага рангу ў «Бейтары». Бегін ездзіць па ўсёй Польшчы, збіраючы ахвяраванні для сіянісцкага руху. У адной з такіх паездак ён і пазнаёміўся з Аліцыяй Арнольд, дачкой нафтавага канцэсіянера з Драгобыча — гэта за Львовам. На вяселле з'ехаліся сотні актывістаў «Бейтару», а дружкам маладога быў вядомы габрэйскі дзеяч Зээў Жабатынскі. ▶

**Павел Касцюкевіч** — пісьменнік, лаўрэат прэміі Гедройца 2012 года. 10 гадоў пражыў у Ізраілі, вярнуўся ў Беларусь у 2008 годзе.

> ווײַסרוסלאַנד
>
> Менавіта так пішацца традыцыйная габрэйская назва Беларусі. Чытаецца (справа налева) — «Райсн». Беларускі, адпаведна, «райсіш». У 1878 годзе — самы час забароны царскімі ўладамі назвы «Беларусь» — класік габрэйскай літаратуры Мендэле Мойхер-Сфорым насуперак дзяржаўнай цэнзуры ўжыў гэтае слова ў сваім творы «Падарожжы Беньяміна III». У той жа час «расійскі», «рускі» на ідышы — «масковіцэр». Цікава, што і ў беларускай мове даўней «рускімі» называлі беларусаў і ўкраінцаў, а вось маскавітаў, маскоўцаў да «рускіх» не залічвалі.




20-гадовы Бегін (справа) разам са сваім кумірам і начальнікам па арганізацыі «Бейтар» Зээвам Жабатынскім праводзіць **парад-агляд габрэйскай моладзі ў Пінску**.

## Правая рука Жабатынскага

**На здымку злева** адлюстраваны пік кар'еры Бегіна яго «польскага перыяду». 1933 год, Харызматычны заснавальнік габрэйскай самаабароны, публіцыст і раманіст Зээў Жабатынскі не верыў ані ў сусветную рэвалюцыю пралетарыяту, ані ў мірнае суіснаванне габрэяў і еўрапейскіх народаў. Ён верыў толькі ў вызвольнае змаганне свайго народа са зброяй у руках. Гэта і стала асновай заснаванай ім у Рызе ў 1923 годзе арганізацыі «Бейтар», якая фактычна рыхтавала афіцэрства для будучай габрэйскай дзяржавы. Міжваенная польская дзяржава выезду яўрэяў у Ізраіль спрыяла.

▶ У Менахема з Аліцыяй нарадзяцца дзве дачкі і сын.

### Яго турмы

Першы раз у турму Бегін трапіў у Польшчы — за арганізацыю масавай габрэйскай маніфестацыі ў Варшаве. Другі раз ён сеў у савецкую турму — за тое, што ў Вільні, ужо занятай саветамі, выдаваў падпольную газету. З Лукішак Бегіна адправілі ў канцлагер НКВД у Комі АССР. Яму далі 8 гадоў з распаўсюджанай у той час фармулёўкай: «агент брытанскага імперыялізму і сацыяльна небяспечны элемент». Парадоксы долі: дзякуючы гэтаму Бегін застанецца жывы. Напалі немцы, Сталіну патрэбныя былі саюзнікі — і грамадзян Польшчы сталі вызваляць і накіроўваць у армію Андэрса. Але, як толькі польскі корпус дабраўся да Палесціны, Бегін дабіўся дазволу на звальненне. У яго з'явілася магчымасць паўдзельнічаць у ажыццяўленні сваёй мары — адраджэнні габрэйскай дзяржавы.

Тым часам уся сям'я Бегіна загіне ў Брэсце, у гета.

З Савецкага Саюза на гістарычную бацькаўшчыну Бегін прывёз падвойную агіду да камунізму, а таксама слова «уркі», якое ён увёў у іўрыт.

«Я не заўважыў ў СССР роўнасці, — пісаў Бегін пра свае ўражанні ад "Краіны Саветаў". — У царстве НКВД адна роўнасць — роўнасць страху».

### «Сустрэнемся ў Іерусаліме!»

Палесціна, былая правінцыя Асманскай імперыі, пасля яе распаду ў 1918 годзе перайшла пад кантроль Брытанскай імперыі. Ліга Нацый дала брытанцам мандат на часовае кіраванне з далейшай перадачай двум




**Брэсцкі аркестр габрэйскай арганізацыі** «Малады вартаўнік». 1920-я гады.

## Армія Андэрса

фарміраванне, створанае генералам Уладзіславам Андэрсам у 1941–1942 гадах на тэрыторыі СССР па пагадненні з польскім урадам у выгнанні з ліку польскіх грамадзян, якія трапілі ў савецкі палон у выніку вайны 1939 года, а таксама тых, якія былі дэпартаваныя і зняволеныя ў лагерах ГУЛАГа. Армію транспартавалі на Блізкі Усход, і ў 1943–1946 гадах польскі корпус уваходзіў у склад арміі Вялікабрытаніі.

WIKIMEDIA COMMONS

**Бегін з жонкай Аліцыяй і сынам Зээвам-Беньямінам.**

народам — габрэям і арабам — права на самавызначэнне.

Да сярэдзіны XIX стагоддзя габрэяў у Палесціне было каля 5% насельніцтва, гэта значыць каля 25 000. У той жа час арабаў — пераважна мусульман, але таксама хрысціян, — каля 90%. Амаль усе габрэі Палесціны тады размаўлялі або па-арабску, або на ладзіна — мове сефардаў (перасяленцы з Іспаніі і паўночнага Міжземнамор’я). Усходнееўрапейскія габрэі ашкеназі пачалі пераязджаць на Святую Зямлю, у «Сіён», з 1880-х. Сіяніскі парыў нарастаў, у 1922 годзе габрэі ўжо складалі ў Іерусаліме большасць, а па стане на 1948 год у Ізраілі сабралася ўжо 600 тысяч габрэяў.

Паралельна набіраў моц арабскі нацыянальны рух. Арабы спачатку марылі пра вызваленне




JEWISHENCYCLOPEDIA.RU

**Плакат, які заклікае габрэяў наведваць Эрэц-Ісраэль** (Краіну Ізраіля) і набываць вырабы мясцовых мастакоў. 1920-я гады.

ад Асманскай імперыі, а пасля — ад еўрапейскіх каланізатараў.

Арабы тады пераважна вялі патрыярхальны лад жыцця, мелі нізкі ўзровень адукацыі. А вось габрэі з Усходняй Еўропы былі носьбітамі найноўшых тэхналогій, у тым ліку сацыяльных: засноўваюцца сельскагаспадарчыя паселішчы і кааператывы — кібуцы і машавы, а таксама першыя чыста габрэйскія гарады — Тэль-Авіў і Хайфа. Рэй вядзе Партыя працы на чале з Давідам Бэн-Гурыёнам, які выступаў за моцную ролю дзяржавы ў рынкавым і нацыянальным кіраванні.

Арабы перыядычна бунтуюць, пагромнічаюць. Габрэйскія пасяленцы прыходзяць да разумення патрэбы ў стварэнні моцнай самаабароны. Такія людзі, як Бегін, з палітычным ▶


Яўрэі Палесціны моцна адрозніваліся ад яўрэяў Усходняй Еўропы, якія ўзначалілі рух за аднаўленне ўласнай дзяржавы. **Яўрэі Іерусаліма, 1895 год.**

WIKIMEDIA COMMONS

і ваенным досведам, у «ішуве», гэта значыць «пасяленні», як знаходка.

Па-над арабамі і габрэямі — брытанскія каланіяльныя ўлады, якія кіруюцца прынцыпам «падзяляй і ўладар», сутыкаючы народы лбамі. А на заходнім даляглядзе — нацысцкі афрыканскі экспедыцыйны корпус генерала Эрвіна Ромеля. Ён імкнецца скінуць англічан у мора. Габрэйская супольнасць балансуе: падтрымлівае брытанцаў супраць гітлераўцаў і адначасова выбудоўвае падпольныя структуры, каб у зручны момант захапіць уладу ў Палесціне.

Бегін уліваецца ў падполле. У снежні 1943 года ён становіцца кіраўніком узброенай групоўкі «Іргун» — па-габрэйску гэта значыць «арганізацыя». Яе таксама называлі «Эцэль» па абрэвіятуры ад яе поўнай назвы. У адрозненне ад «Хаганы» (афіцыйнай самаабароны), «Іргун» абвясціў паўстанне супраць брытанцаў і перайшоў да тэрактаў.

Габрэйскае самакіраванне было катэгарычна супраць такой тактыкі, лічыла, што падчас вайны брытанцаў чапаць не варта.

«Раскол быў жахлівы», — зазначыў потым Бегін.

## Выбух у гатэлі «Цар Давід»

Паваротным момантам у змаганні за незалежнасць Ізраіля стаў выбух у гатэлі «Цар Давід» у Іерусаліме — месцы працы брытанскай адміністрацыі. 22 ліпеня 1946 года іргунаўцы пранеслі праз службовы ўваход гатэля запоўненыя дынамітам бітоны з-пад малака. Магутны выбух знёс правае крыло гатэля, загінуў 91 чалавек — сярод іх 41 араб і 17 габрэяў, але пару дзясяткаў брытанцаў таксама. Пасля такіх тэрактаў адносіны габрэяў і брытанцаў не маглі быць ранейшымі. А кіраўнік габрэйскага самакіравання Бен-Гурыён назваў «Іргун» «ворагамі габрэйскага народа».

## Канспіратар

Англічане прызначалі за галаву Бегіна ўзнагароду — 30 тысяч долараў. Хаваючыся ад паліцыі — некалькі гадоў! — Бегін маскіраваўся пад рабіна, выхадца з Емена. Дзеля гэтага ён надзеў ярмолку і адгадаваў бараду. Жонка Аліцыя і сын Зээў-Беньямін дапамагалі ў канспірацыі.

Цяжка не стаць палітыкам, калі ты расцеш у сям'і Бегіна. Сын хоць і вывучыўся на геолага, але працягнуў справу бацькі — у 90-я гады стаў палітыкам і дэпутатам ізраільскага парламента — Кнэсэта.


**Гатэль «Цар Давід»**, рэзідэнцыя брытанскай адміністрацыі, стаў аб'ектам габрэйскага тэракта.

BOOKING.COM

# Гэта былі людзі ідэі, грошы для іх былі нечым другасным

## Чалавек ідэі

У 1948 годзе Ізраіль паспяхова згуляў на супярэчнасцях між вялікімі дзяржавамі — ЗША, СССР і Брытаніяй — і абвясціў незалежнасць. «Іргун» уліваецца ў Армію абароны Ізраіля. Кіраўніком урада становіцца сацыял-дэмакрат Давід Бен-Гурыён, а Бегін стварае правую партыю «Херут» («Воля»). «Херут» у парламент праходзіць, але набірае толькі 11,5% галасоў. Бегіна чакаюць 30 гадоў у апазіцыі. Але Ізраіль быў дэмакратычнай дзяржавай, Бегін мог весці палітычную агітацыю. І ад выбараў да выбараў папулярнасць яго правай партыі расла. ►



YEDIOT.CO.IL

**Давід Бен-Гурыён абвяшчае незалежнасць** Дзяржавы Ізраіль. Тэль-Авіў, 1948 год.

MIZKAR.WORDPRESS.COM

**Бітон з малаком,** начынены выбухоўкай.

Сабраўшы пад свае сцягі сефардскіх, ці ўсходніх, яўрэяў, Бегін пабудаваў сваю палітычную сілу на аснове артадаксальных рэлігійных вераванняў і біблейскай ідэалогіі, а не сацыялістычных ці ліберальных ідэалаў.

Бегін рос у перыяд між дзвюма войнамі. Гэта былі жорсткія часы. На светаўспрыманне Бегіна паўплываў і кашмар Халакосту. Усе да аднаго брэсцкія сваякі Менахема загінулі. «Мы не хочам нямецкіх грошай!», «Ворагу няма выкуплення!» — заявіў Бегін, калі ўлады ФРГ на знак прымірэння і «выпраўлення зла» абвесцілі пра грашовыя выплаты габрэям. У адказ ізраільскія радыкалы — напэўна, з блаславення Бегіна — адпраўляюць на імя нямецкага канцлера Конрада Адэнаўэра канверт з выбухоўкай. Да Адэнаўэра ён дайсці, ясная рэч, не мог, але гіне чалавек, які спрабаваў бомбу абясшкодзіць.

Гэты радыкалізм спалучаўся ў Бегіне з побытавым кансерватызмам. Яго палітычныя канкурэнты з Партыі працы апраналіся нефармальна, часам нават у шорты замест штаноў. Тады як Бегін нават у самую спёку заўсёды хадзіў у строгім чорным касцюме пры гальштуку. Цікава, што яго сын, Зээў-Беньямін, калі стаў дэпутатам парламента і міністрам, у адрозненне ад таты, зняў строгі пінжак і зменшыў сваё доўгае, якое патыхала еўрапейскімі хасідскімі традыцыямі, імя да народнага Бені.


WIKIMEDIA COMMONS

**Ізраіль і Егіпет падпісваюць мірную дамову** пры пасярэдніцтве прэзідэнта ЗША Джымі Картэра.


WIKIMEDIA COMMONS

## Ізраільскасць як сабрэс

Ізраільскі менталітэт фарміраваўся па апазіцыі, пад уплывам траўмаў еўрапейскага габрэйства. Вы цярпелі пагромы? Мы будзем біць першыя! Еўрапейцы не дазвалялі вам займацца сельскай гаспадаркай? А мы будзем ствараць кібуцы! Самі сябе ізраільцы любяць уяўляць сабрэсам, сортам ядомага кактуса, што мае звонку вострыя калючкі, пад слоем якіх хаваецца сакавітая і салодкая сарцавіна.

## Вяршыня ўлады

Гегемонія сацыялістаў, што трывала ад часоў стварэння дзяржавы ў 1948-м, скончылася ў 1977-м. Пасля чарговых выбараў Бегін стаў прэм'ерам.

У грамадстве назапасілася незадаволенасць карупцыяй. Акрамя таго, выхадцы з арабскіх краін, «мізрахі», былі ў крыўдзе на тое, што еўрапейскія габрэі глядзелі на іх звысоку.

Аднак з першых дзён прэм’ерства Бегін паводзіў сябе не так, як ад яго чакалі аматары «жалезнай рукі». На ключавую пасаду міністра замежных спраў ён паставіў аднаго са сваіх палітычных праціўнікаў — Машэ Даяна і пачаў перамовы з егіпецкім кіраўніцтвам па мірным

## Менахем Бегін быў бліскучым прамоўцам

Выступ пасля падпісання пагадненняў з Егіптам у Кэмп-Дэвідзе.





Жорсткі адказ консулу Германіі.


WIKIMEDIA COMMONS

**Менахем Бегін гуляе ў шахматы са Збігневам Бжэзінскім** у перапынку мірнай канферэнцыі ў Кэмп-Дэвідзе. 1978 год.

урэгуляванні. Яны скончыліся падпісаннем у амерыканскім Кэмп-Дэвідзе спачатку папярэдняга пагаднення 17 верасня 1978 года, а 26 сакавіка 1979-га — і паўнавартаснай мірнай дамовы.

А пасля было паспяховае знішчэнне ў 1981 годзе амаль дабудаванага іракскага атамнага рэактара ля Багдада. Дзёрзкая аперацыя — і атамная праграма Садама Хусэйна была разбітая ў друз.

Была і пабудова яўрэйскіх пасяленняў на Заходнім беразе Іардана. Бегін разглядаў тэрыторыі, захопленыя падчас вайны з арабамі ў 1967 годзе, як землі Юдэі і Самарыі са Старога Закону. Яго ўрад лічыў іх засяленне сваім, можна сказаць, рэлігійным абавязкам. Такое спрэчнае рашэнне выклікала крытыку з боку апазіцыі і асуджэнне ААН, якая назвала пабудову пасяленняў «незаконнай». У адказ Бегін абвясціў усяму свету, што Ізраіль не мае патрэбы ні ў чыім блаславаўленні і што ён «легітымны таму, што ён існуе».

А пасля быў самы ганебны момант. Вайна ў Ліване, 14 верасня 1982 года арабы-палесцінцы забіваюць прэзідэнта краіны, хрысціяніна, саюзніка Ізраіля. У адказ ізраільскія войскі прапускаюць хрысціянскіх апалчэнцаў у лагеры палесцінскіх уцекачоў Сабра і Шаціла. За два дні, 16 і 17 верасня 1982 года, там забілі паўтары тысячы чалавек.

Юрыдычную адказнасць за гэта традыцыйна ўскладаюць на міністра абароны Арыэля Шарона, але ж прэм'ерам быў Бегін.

## Ці можа Ізраіль жыць у міры?

Вось ужо 40 гадоў, як Егіпет і Ізраіль жывуць у міры, хоць у папярэднія 40 гадоў яны ўвесь час ваявалі. І сталася гэта дзякуючы Кэмп-Дэвідскаму пагадненню, за якое егіпецкі прэзідэнт Анвар Садат і Менахем Бегін атрымалі ў 1978 годзе Нобелеўскую прэмію міру.

## Нечаканы сыход

А сышоў Бегін з пасады нечакана. Ён быў з візітам у ЗША, калі ад хранічнай эмфіземы лёгкіх памерла яго жонка. Смерць самага блізкага чалавека пагрузіла Бегіна ў глыбокую дэпрэсію. Ён так і не патлумачыў публічна прычын сваёй адстаўкі. На пасяджэнні ўрада Бегін проста сказаў: «Прычына майго паведамлення абсалютна асабістая. Ад пачатку я прашу прабачэння, перапрашаю ўсіх. Ці атрымаю я прабачэнне ад усіх — гэтага я не ведаю»...

Сем наступных гадоў ён пражыў у сваёй двухпакаёўцы каля Іерусалімскага лесу. Жыць у звычайнай кватэры было нормай для тадышніх кіраўнікоў Ізраіля. ▶




ФОТА СЯРГЕЯ ГУДЗІЛІНА

**Кінатэатр «Беларусь» у Брэсце** перабудаваны з Вялікай сінагогі. Вельмі рэлігійныя бацькі Бегіна жылі зусім побач з ёю, тата быў актывістам рэлігійнай грамады. Цяпер на месцы дома Бегінаў стаіць помнік яму.



PLANETABELARUS.BY

**Польскі пашпарт Бегіна.** Яго ў кастрычніку 2019 года знайшоў у Дзяржаўным архіве Брэсцкай вобласці мясцовы журналіст і краязнаўца Мікалай Аляксандраў.




REALBREST.BY

**Помнік Бегіну ў Брэсце.**

▶ Бен-Гурыён доўгі час увогуле туліўся ў кібуцным бараку. Затое Ізраіль пры іх кіраванні ператварыўся ў адну з самых заможных дзяржаў планеты. Гэта былі людзі ідэі, грошы для іх былі нечым другасным.

Менахем Бегін памёр халоднай зімовай ноччу, перад світанкам, 9 сакавіка 1992 года, у панядзелак (4-ы дзень месяца Адар-Бет 5752 года па габрэйскім календары). Ён прасіў пахаваць сябе без ушанавання, без прамоў, як хаваюць людзей з народу, і не ў некропалі кіраўнікоў краіны, а на старажытных габрэйскіх могілках на Аліўнай гары ля муроў Старога горада ў Іерусаліме. Побач з таварышамі па падполлі з «Іргуна», якіх брытанцы асудзілі на смерць за тэрарызм. Тысячы людзей праводзілі Менахема Бегіна ў апошні шлях. ◆

Рэдакцыя дзякуе Ірыне Ваўранюк за істотныя дапаўненні ў гэты артыкул.

# Чаму Бегін пайшоў на Кэмп-Дэвід

Ад моманту свайго стварэння Ізраілю давялося весці няспынныя войны з суседнімі арабскімі дзяржавамі. У выніку да 1970-х гадоў, калі да ўлады ў Ізраілі прыйшоў Менахем Бегін, у рэгіёне сплёўся вузел, які немагчыма было развязаць без узаемных саступак.

Абвяшчэнне незалежнасці Ізраіля ў 1948 годзе адбывалася ў адпаведнасці з рэзалюцыяй № 181 Генеральнай Асамблеі ААН, якая прадугледжвала падзел Палесціны і стварэнне на яе тэрыторыі дзвюх дзяржаў — габрэйскай і арабскай. Іерусалім, як святое месца для абодвух народаў, мусіў набыць статус горада пад міжнародным кантролем.

Габрэям у тых умовах было важна здабыць хоць якую ўласную дзяржаву, таму яны прынялі гэты план, арабы ж яго рашуча адхілілі. Калі 14 мая 1948 года Вялікабрытанія згодна з планам вывела свае войскі з Палесціны, ужо назаўтра паміж Ізраілем і кааліцыяй арабскіх дзяржаў пачалася вайна.

Ваенныя дзеянні вяліся да ліпеня 1949 года, фактычную перамогу атрымаў Ізраіль. Пад ягоным кантролем апынуліся амаль усе тэрыторыі, прадугледжаныя ААН для габрэйскай дзяржавы, а таксама каля паловы земляў, адведзеных арабам. Акрамя таго, габрэі занялі Заходні Іерусалім. Рэшту арабскіх земляў занялі войскі Трансіарданіі і Егіпта. Лінія падзелу войскаў на момант перамір'я паміж бакамі атрымала назву Зялёнай лініі. Арыентуючыся менавіта на яе, пасля распрацоўваліся наступныя міжнародныя планы палітычнага ўрэгулявання і тэрытарыяльнага размежавання ў рэгіёне.

Пераможаныя арабы пастаянна вялі супраць Ізраіля партызанскую вайну і здзяйснялі тэрарыстычныя акты. А часам паміж бакамі зноў выбухалі сапраўдныя войны, у якіх афіцыйна ўдзельнічалі войскі розных дзяржаў. Самымі значнымі з іх былі Шасцідзённая вайна 1967 года і Вайна Суднага дня 1973 года.

Абедзве згаданыя вайны скончыліся перамогай Ізраіля. Пасля першай з іх, якая доўжылася з 5 па 10 чэрвеня 1967 года, яго войскі здабылі кантроль над Галанскімі вышынямі (раней кантраляваліся Сірыяй), Сінайскім паўвостравам і Сектарам Газа (раней пад кантролем Егіпта) і Заходнім берагам ракі Іардан (раней занятым Іарданіяй) уключна з Усходнім Іерусалімам. У кастрычніку 1973-га арабы спрабавалі адбіць страчаныя ў 1967 годзе тэрыторыі, але беспаспяхова.

Такім чынам, Ізраіль да 1970-х гадоў дабіўся ўражвальных перамог, справай пераканаўча даказаўшы ўсяму свету ўласнае права на існаванне і дасягнуўшы такога тэрытарыяльнага раскладу, пра які ў 1948 годзе хіба толькі марыў. Але праблему стварала адсутнасць міжнароднага прызнання гэтых набыткаў. Арабскія ж дзяржавы па-ранейшаму не прызнавалі і саму Дзяржаву Ізраіль, ставячы сабе за мэту яе «скінуць у мора» разам з «панаехаўшымі» габрэямі.

Сітуацыя была тупіковая, бо не выпадала рабіць стаўку толькі на тое, што Ізраіль заўсёды будзе такім моцным, а ягоныя праціўнікі — такімі слабымі. Таму сапраўды адказныя палітыкі не маглі не думаць пра тое, каб акрамя чыста ваенных поспехаў дабіцца прарыву і ў дыпламатыі, паспрабаваўшы хоць бы часткова вырашыць праблемы з суседзямі. А без істотных палітычных саступак на іх карысць зрабіць гэта было абсалютна немагчыма.

Саступкі ж у сітуацыі, калі пераможныя войны былі зусім нядаўна, псіхалагічна рабіць вельмі складана, тым больш калі даводзіцца ісці супраць грамадскай думкі. Мала ўсведамляць неабходнасць кампрамісаў самому — трэба таксама, каб твае крокі знайшлі разуменне ў значнай частцы грамадства. І тут палітыку, які мае рэпутацыю перакананага «ястраба», дзейнічаць, бадай што, і прасцей, чым умоўнаму «голубу». Калі апошні можа разлічваць у лепшым выпадку на разуменне з боку ідэйных прыхільнікаў кампрамісу, то першы мае шанц далучыць да іх за кошт свайго асабістага аўтарытэту і галасы больш прагматычных «радыкалаў». Невыпадкова іншыя найбольш вядомыя выпадкі ў найноўшай гісторыі Ізраіля, калі яго кіраўнікі ішлі на сур'ёзныя саступкі арабам у адпаведнасці з прынцыпам «мір у абмен на тэрыторыі», таксама звязаныя з імёнамі палітыкаў, якія папярэдняй сваёй біяграфіяй набылі рэпутацыю прыхільнікаў жорсткіх сілавых метадаў: Іцхака Рабіна ў 1993–1994 гадах і Арыэля Шарона ў 2005-м.

Каб наважыцца на мір у грамадстве, немалая частка якога прагне вайны, патрэбна яшчэ і надзвычайная асабістая мужнасць. Партнёр Бегіна па Кэмп-Дэвідзе, прэзідэнт Егіпта Анвар Садат, заплаціў за дасягненне паразумення з Ізраілем жыццём: 6 кастрычніка 1981 года ён быў забіты ісламскімі радыкаламі. Ад рук ужо габрэйскага радыкала 4 лістапада 1995 года ў Тэль-Авіве загінуў прэм'ер Іцхак Рабін, які ў 1993 годзе заключыў у нарвежскім Осла пагадненне з кіраўніком Арганізацыі вызвалення Палесціны Ясірам Арафатам, а ў 1994-м дасягнуў мірнага паразумення з Іарданіяй.

Менахем Бегін, у адрозненне ад іх, памёр сваёй смерцю, але вялікае нервовае напружанне ў выніку шматгадовага моцнага маральнага ціску несумненна паўплывала на ягонае раптоўнае рашэнне добраахвотна пайсці з палітыкі ў 1983-м. ◆

**Аляксандр Пашкевіч**

# Дзед Карней *і дзеці*

Карней Чукоўскі прайшоў у дзяцінстве праз сорам «незаконнанароджанасці». І напісаў геніяльныя дзіцячыя кнігі

**Нават сёння, у часы «культу дзяцінства», мы яшчэ не ведаем, як гэта — любіць і разумець дзяцей. Што ўжо гаварыць пра дзяцінства стагадовай даўніны. А менавіта тады свае геніяльныя ў разуменні дзіцячай псіхалогіі творы напісаў Чукоўскі. Піша настаўніца Ганна Севярынец.**

### Коля, «кухарчын сын»

Карней Чукоўскі лічыў, што дзіцячы пісьменнік павінен быць шчаслівым чалавекам.

Але сам ён шчаслівым быў не заўсёды. З юнацкіх старонак дзённіка, які Чукоўскі вёў усё жыццё, рвецца невыносны боль бязбацькавіча: ягоная маці Кацярына Карнейчукова нарадзіла дваіх дзяцей (Машу — у 1879-м, Колю — у 1882-м) ад сына паспяховага доктара Самуіла Левенсона, у сям'і якога служыла пакаёўкай. Эмануіл Левенсон збіраўся ажаніцца з Кацярынай, але ў тыя часы афіцыйны шлюб паміж іўдзеем і хрысціянкай быў немагчымы — нехта з сужэнцаў павінен быў пераходзіць у іншую веру. Павагаўшыся некаторы час, Эмануіл здаўся і ажаніўся са сваёй аднаверкай Кларай Рабіновіч.

Незаконных дзяцей Кацярыны ў метрыках запісалі «Васільевічамі» — імя па бацьку даў ім царкоўны служка, які рабіў метрычны запіс. Але і гэтае імя было незаконным. Прынамсі, у афіцыйных дакументах, гімназічных спісах, справаздачах аб поспехах вучняў яно не згадвалася. «Я гэтых дакументаў так страшыўся, што сам ніколі іх не чытаў, — запісваў потым Коля ў дзённіку. — Памятаю, якой ганебнай пячаткай, здзекам падаваўся мне атэстат Марусі-сястры, найлепшай вучаніцы нашай епархіяльнай школы: «дачка сялянкі Марыя (без імя па бацьку) Карнейчукова паказала выдатныя поспехі». Я і цяпер памятаю, як гэтая адсутнасць імя па бацьку зрабіла той радок, дзе пішацца імя вучаніцы, карацейшым, чым яму належыць, чым гэта было ў іншых — і гэта прасякнула мяне сорамам. Мы — не як усе людзі, мы горшыя, мы самыя нізкія — і калі нехта гаварыў пра свайго бацьку, дзеда, бабку, я толькі чырванеў, курчыўся, ілгаў, блытаў. Тая хлусня, тая блытаніна і ёсць


WIKIMEDIA COMMONS. ФОТА КАРЛА БУЛЫ

**Паэты Восіп Мандэльштам, Карней Чукоўскі, Бенедыкт Ліўшыц і мастак Юрый Аненкаў, праводзіны на фронт.** 1914 год.

**Карней Чукоўскі (Мікалай Карнейчукоў)** (1882–1969) нарадзіўся ў Пецярбурзе ў сям'і пакаёўкі. Калі яго радавіты бацька канчаткова пакінуў пазашлюбную сям'ю, яны з маці і сястрой пераехалі са сталіцы ў Адэсу. Коля наведваў тамтэйшую гімназію, але быў выключаны праз сваё нізкае паходжанне.

крыніцай усіх маіх ілганняў і маны далейшага перыяду. Асабліва я пакутаваў у 16–17 год, калі юнакоў пачынаюць замест імя клікаць з імем па бацьку. Памятаю, як я па-клоўнску прасіў усіх нават пры першым знаёмстве — ужо сам вусаты — "называйце мяне проста Коля", "а я Коля" і г. д. Гэта падавалася блюзнерствам, але гэта быў боль».




**Ілья Рэпін. Партрэт Чукоўскага.** 1910 год.

## Англійскую мову ён здабыў самавукам па кніжцы, з якой былі выдзертыя старонкі з фанетыкай

У другой адэскай гімназіі Коля правучыўся пяць гадоў — на шосты яго адлічылі згодна з «законам аб кухарчыных дзецях». У 1887 годзе выйшаў ухвалены імператарам Аляксандрам III цыркуляр аб скарачэнні правоў на гімназічную адукацыю для дзяцей з бедных сем'яў. Больш Коля нідзе і ніколі не вучыўся, калі лічыць вучобай наведванне акадэмічных устаноў. Затое ён безупынна чытаў і займаўся па падручніках, кнігах, дапаможніках. Так, англійскую мову ён апанаваў самавукам па кніжцы, з якой былі выдзертыя старонкі з фанетыкай. Ужо потым, працуючы карэспандэнтам газеты ў Лондане, перавучваўся як след.

З 1901 года ён ужо не «а я Коля», а Карней Чукоўскі — карэспандэнт «Одесских новостей», паспяховы журналіст, з 1905-га — пецярбургскі літаратар, выдавец сатырычнага часопіса, заўважны крытык, з 1907-га — аўтарытэтны знаўца літаратуры. Грунтоўныя самаздабытыя веды, шырыня і глыбіня ўспрымання і аналізу, адметны аўтарскі стыль і нечалавечая працаздольнасць — і «кухарчыны дзеці» выбіваюцца ў людзі, калі маюць надзвычайныя здольнасці і мэтанакіраванасць.

### Дарослыя і дзеці

Чукоўскі пачынае па-дарослаunion: у часопісе, які ён рэдагуе і выдае, друкуюцца такія зоркі, як Аляксандр Купрын, Фёдар Салагуб, Тэфі. Ён сябруе з футурыстамі, становіцца блізкім сябрам мастака Ільі Рэпіна (менавіта Чукоўскі натхняе таго напісаць знакамітыя мемуары «Далёкае і блізкае»). На дачы Рэпіна ў фінскай Куокале Чукоўскі пражыве каля 10 гадоў, тут народзіцца ягоная легендарная «Чукокала» — альбом іранічных ▶

запісаў і карыкатур, у якім адлюструецца ўвесь Срэбны век рускай літаратуры.

У 1907-м Чукоўскі адкрые для рускага чытача паэзію Уолта Уітмэна — ён стане першым ягоным перакладчыкам і публікатарам у Расіі. Гэтыя пераклады імгненна робяць Чукоўскага заўважным літаратарам. У публічных лекцыях, часопісных дыскусіях і ўласных кнігах ён дае маштабныя разборы літаратурнай сучаснасці. З 1917 года займаецца вывучэннем творчай спадчыны Мікалая Някрасава, шукае рукапісы і запісы, некалі забароненыя цэнзурай, адшуквае страчанае і забытае. Чвэрць вядомых нам сёння вершаў Някрасава ўвеў у чытацка-навуковы зварот менавіта Чукоўскі, ён жа становіцца ўкладальнікам і каментатарам першага савецкага збору твораў паэта, у якім вялікая колькасць някрасаўскіх радкоў друкуецца ўпершыню. У 1922 годзе выходзіць грунтоўная, адна з найлепшых і па сёння, кніга Чукоўскага пра Аляксандра Блока.

А пасля Чукоўскі раптам пачынае актыўна пісаць для дзяцей. Хоць не — далёка не раптам.

У 1920-м у сям'і Карнея Іванавіча (а ён цяпер і па пашпарце — з іменем па бацьку, хай і прыдуманым) і Марыі Чукоўскіх нараджаецца чацвёртае дзіця: дачка Маруся, Мурачка. Чукоўскія — бацькі дасведчаныя: яны ўжо выхоўваюць Колю, Ліду і Барыса. Бацька, прыроджаны даследчык, назірае за дзятвой з не меншым захапленнем, чым за літаратурай. Ён вывучае, запісвае, натуе, аналізуе: як дзеці растуць, што ім падабаецца, ад чаго яны сумуюць, чым натхняюцца. Ён намагаецца не ўлазіць у дзіцячы сусвет са сваімі дарослымі меркамі, а разумець і быць побач на роўных, а то і на правах выхаванага госця, цікаўнага спадарожніка.

З Мурачкай назапашанае пачынае фармулявацца, складацца ў адзінае цэлае. У 1928-м выходзіць выдатная і па сённяшніх мерках кніга Чукоўскага «Ад двух да пяці». Там месцяцца не толькі знакамітыя дзіцячыя «бязглуздзіцы» і кранальныя лінгвістычныя адкрыцці, але і глыбокі аналіз псіхалогіі дзяцей.


Карней Чукоўскі з дачкой Марусяй.

WIKIMEDIA COMMONS

Амаль аднachасова, у пачатку дваццатых, на радасць маленькаму чытачу з'яўляюцца адзін за адным «Кракадзіл», «Мыйдадзір», «Тараканішча» і «Бармалей».

**Каб зняць забарону са сваіх дзіцячых казак, Чукоўскі даў абяцанне напісаць дзіцячую кнігу пад назвай «Вясёлая Калхозія»**

### Крупская і «Кракадзіл»

Гэта сёння «Чукоўскі — дзецям» — самы папулярны дзіцячы кніжны праект Расіі (больш за 2 мільёны асобнікаў выдадзена ў 2017 годзе, гэта абсалютны рэкорд). Тады ж на выхад «Кракадзіла» адгукнулася галоўная педагагіня і выхавальніца СССР Надзея Крупская. І водгук не быў станоўчым: «Ці варта даваць гэтую кніжку дзецям? Замест расповеду пра кракадзіла яны пачуюць пра яго неверагодную лухту. Тут малюецца народ: народ крычыць, злуецца, цягне ў паліцыю, народ — баязлівец, дрыжыць, вішчыць ад страху. Гэта ўжо зусім не "нявінны", а цалкам злосны малюнак, які, можа быць, недастаткова асэнсоўваецца дзіцём, але захоўваецца ў падсвядомасці. Што азначае ўся гэта лухта? Які палітычны сэнс яна мае? ... Я думаю, "Кракадзіла" нашым дзецям даваць не трэба, не таму, што гэта казка, а таму, што гэта буржуазная каламуць».



SHUTTERSTOCK.COM, BY ROMAN BELOGORODOV

І так будзе заўсёды. З’явіцца і адпаведны тэрмін — «чукоўшчына», якую будуць, згодна са звычаямі таго часу, высякаць, выразаць і выкідаць. Казкі Чукоўскага будуць чакаць вызвалення з-пад цэнзурнага ціску месяцы і гады. Прыкладам, «Бібігон» будзе апублікаваны праз 15 год пасля напісання.

Адбіваць кожную са сваіх кніжак ён будзе доўга і адчайна. У «Мыйдадзіры» знойдуць крамольныя ва ўмовах зацятага змагання з рэлігіяй словы «Божа, божа», у «Тараканішчы» пабачаць, вядома ж, антысталінскі падтэкст.

У гэтым сваім бясконцым змаганні з літаратурным чынавенствам Чукоўскі заўсёды адчуваў адзіноту і безабароннасць, хоць насамрэч ён быў не адзін. Якраз яго і ягоныя кнігі калегі баранілі шчыра і бясстрашна. Адкрыты ліст супраць забароны кніжак Чукоўскага пасля крытычнага артыкула Крупскай падпісалі некалькі дзясяткаў пісьменнікаў, у тым ліку Аляксей Талстой, Міхаіл Зошчанка, Мікалай Ціханаў, Самуіл Маршак, Юрый Тынянаў, Яўгеній Замяцін і шмат хто іншы.

Але і ламалі. У 1929-м, каб зняць забарону са сваіх дзіцячых казак, Чукоўскі падпісаў пакаянны ліст, у якім адракаўся ранейшых твораў і даваў абяцанне напісаць сапраўдную дзіцячую кнігу пад назвай «Вясёлая Калхозія».

Ніякай «Калхозіі» ён, вядома ж, не напісаў, а гэты ліст усё жыццё лічыў памылкай і маладушнасцю. Больш за тое. Смяротную хваробу сваёй любімай дачкі, Мурачкі, якая памерла ў 1931-м ад коснага туберкулёзу, ён лічыў расплатай за тую маладушнасць. ▶

## Айбаліт жыў у Вільні

Казачны добры звярыны доктар Айбаліт, як прызнаваўся сам Чукоўскі, меў у жыцці рэальнага прататыпа. Ім быў ягоны сябар, віленскі доктар Цэмех Шабад (1864–1935). Менавіта ў яго падчас сваіх прыездаў у Вільню яшчэ да Першай сусветнай вайны двойчы спыняўся Чукоўскі.

Аднойчы Шабад выйшаў прагуляцца па Старым горадзе ў Вільні і сустрэў дзяўчынку з коткай на руках.

У жывёліны ў языку тырчэў рыбацкі кручок, і Шабад, пашкадаваўшы яе, адразу лёгка выдаліў яго пінцэтам.

І пасля таго ён неаднойчы лячыў чацвераногіх сяброў віленскіх дзяцей, хоць увогуле быў доктарам звычайным, а не прафесійным ветэрынарам. Сёння ў Вільні недалёка ад Ратушы яму стаіць помнік, дзе доктар акурат выяўлены падчас размовы з дзяўчынкай, якая туліць да сябе котку.

Акрамя прафесійнай дзейнасці, Цэмех Шамад быў актыўны і ў грамадска-палітычнай сферы. Ягонае прозвішча часта можна сустрэць у розных дакументах побач з прозвішчамі тагачасных віленскіх беларускіх дзеячаў: прадстаўнікі розных нацыянальных супольнасцяў Вільні нярэдка аб’ядноўвалі свае намаганні, калі палітыка спачатку расійскіх, а пасля нямецкіх і польскіх уладаў пагражала іх інтарэсам.

Да сёння бестселерамі з'яўляюцца яго творы для дзяцей: «Кракадзіл», «Мыйдадзір», «Тараканішча». Паэмы і казкі Чукоўскага перакладзеныя на беларускую мову. У тым ліку любімая вершаваная казка самога аўтара «Муха-цакатуха».

Муха, Муха-Цокотуха,
Позолоченное брюхо!
Муха по полю пошла,
Муха денежку нашла.

Муха, Муха-Цакатуха,
Залацістая пяюха!
Муха сцежкаю ішла,
Муха грошыкі знайшла.

Аўдыяверсію казкі ў перакладзе Таццяны Паповай і выкананні Адама Трыпутніка глядзіце тут:



Дзяцей ён агулам не тое каб любіў: ён іх разумеў, вывучаў, бачыў

KLAUZURA.RU

## Коля, Ліда, Боба, Мура

Дачка пісьменніка Лідзія Чукоўская ўспамінала выпадак са свайго дзяцінства. Неяк вялізны суседскі сабака сарваўся з ланцуга, падкапаў плот і вырваўся на свабоду. Ашалелы ад волі, кінуўся да іх — дзяцей, якія ішлі разам з бацькам па сцежцы. Чукоўскі забараніў бегчы ад сабакі, а потым скамандаваў: «Рабіце тое самае, што і я!» Апусціўся ў пыл на кукішкі і пачаў гаўкаць на звера. Дзеці імгненна падхапілі забаўку. Сабака моцна спужаўся і збег, а дзеці яшчэ доўгі час бегалі на карачках і гаўкалі, цалкам шчаслівыя. «Аказваецца, гэта такая асалода — брахаць на сабак!» — піша дачка «дзеда Карнея».

Дзяцей у Чукоўскага, як мы згадвалі, было чацвёра.

Старэйшы, Коля, — паэт, вучань Мікалая Гумілёва, перакладчык. Гэта ў ягоным перакладзе на рускую мову мы з вамі чыталі «Востраў скарбаў» Роберта Льюіса Стывенсана. А таксама бліскучы мемуарыст, чыё прозвішча стала згадваецца ва ўсіх пратаколах допытаў па справах «антысавецкіх груп сярод маскоўскіх і ленінградскіх пісьменнікаў». Пазбегнуць арыштаў яму ўдавалася толькі дзякуючы бацьку і бацькавым сябрам.

Другая, Ліда, — пісьменніца і паэтка, мемуарыстка, а найперш — дысідэнтка і праваабаронца. Яе бацька не ўратаваў: у 1926 годзе Ліда была арыштаваная і высланая па сфабрыкаванай справе. У 1937-м, пасля арышту і расстрэлу мужа, выехала ва Украіну хавацца ад пераследу. Аповесць Лідзіі Чукоўскай «Соф'я Пятроўна» — першы ў савецкай літаратуры празаічны твор, прысвечаны сталінскім рэпрэсіям. Яна напісала гэтую аповесць у 1939 годзе, а апублікавала ў 1965-м, яшчэ пры жыцці Чукоўскага, за мяжой. З 1960-х Лідзія Чукоўская — актыўны і адкрыты барацьбіт з дыктатурай: яна аказвае маральную і матэрыяльную падтрымку Аляксандру Салжаніцыну, Андрэю Сіняўскаму і Юлію Даніэлю, піша адкрытыя лісты кіраўніцтву партыі, выступае з рэзкім асуджэннем палітыкі ў галіне культуры і свабоды слова. На ўсе тэксты Лідзіі Чукоўскай у СССР была накладзена поўная забарона, якую знялі толькі ў 1987-м.

Барыс Чукоўскі літаратарам не стаў — вывучыўся на інжынера. На самым пачатку вайны ён знік без вестак, вяртаючыся з разведкі непадалёк ад знакамітага Барадзінскага поля.

А найлюбая дачушка Мура памерла дзесяцігадовай.

**Каго любіў «дзед Карней»**

Пісьменнік Яўгеній Шварц (гэта па ягоных п'есах знятыя легендарныя кінастужкі «Звычайны цуд» і «Забіць дракона») пісаў пра Чукоўскага: «Ён быў абкружаны віхурамі, якія рабілі жыццё побач з ім амаль немагчымым. Знаходзіцца ў ягоных межах у натуральным становішчы было немагчыма, як немагчыма знаходзіцца ўнутры ўрагану пасярод пустыні... Па працаздольнасці я не сустракаў роўных яму. Але якая гэта была пакутная праца. У ягоным неспакойным імкненні не было ані слабасці, ані страху. Ён людзей ненавідзеў, але не баяўся».

Шварц працаваў сакратаром Чукоўскага на самым пачатку 1920-х, калі быў зусім маладым чалавекам. Ён не ведаў тады, што пісьменнік пакутаваў ад хранічнай бяссонніцы. Не ведаў, якой незлічонай колькасці людзей Чукоўскі дапамог ці клопатам, ці заступніцтвам, ці грашыма.

Але тое, што побач з Чукоўскім нікому і ніколі не было проста, — гэта праўда.

Ён і дзяцей агулам не тое каб любіў: ён іх разумеў, вывучаў, бачыў.

Прыкладам, занатоўваючы ў дзённіку візіт у дзіцячы прытулак, Чукоўскі піша, што не толькі дарослыя выбіраюць там сабе дзяцей для ўсынаўлення. Дзеці гэтаксама выбіраюць сабе бацькоў, і калі бачаць, што новая мама кепска апранутая альбо ў новага бацькі няма машыны — да такіх не ідуць.

Успамінаў ён таксама, як вярнуўся ў пісьменніцкае падмаскоўнае Перадзелкіна пасля вайны. Дайшоў да сваёй дачы. Тая разрабаваная ўшчэнт. Няма і бібліятэкі. У роспачы ідзе ў блізкі лясок, а там ля вогнішча грэюцца дзеці. «Мяне пацягнула да дзяцей», — піша Чукоўскі. Наблізіўся — а тыя спужаліся і збеглі. Падышоў бліжэй і ў вогнішчы разгледзеў кнігі са сваёй бібліятэкі. «І я падумаў: які гэта гратэск, што дзеці, тыя, якім я аддаваў столькі любові, паляць у мяне на вачах тыя кнігі, якімі я жадаў бы служыць ім».

Карней Чукоўскі не быў шчаслівым чалавекам.

Але кнігі ён пісаў бліскучыя. І для дарослых, і для дзяцей, і для самога сябе. ◆

## Чукоўскі, Беларусь і беларусы

Менавіта Карней Чукоўскі быў тым чалавекам, які пазнаёміў Уладзіміра Маякоўскага з Соняй Шамардзіной — менскай гімназісткай, што стала першым каханнем скандальнага паэта, правобразам Марыі ў паэме «Воблака ў штанах», а потым — першай лэдзі БССР, жонкай старшыні мясцовага СНК Язэпа Адамовіча. Чукоўскі часцяком наведваў дарэвалюцыйны Менск па журналісцкіх справах, сябраваў з сям'ёй Шамардзіных. Калі Соня сабралася вучыцца, яе аддалі «пад апеку» Карнея Іванавіча. Падобна, ён быў і сам крыху закаханы ў харызматычную гімназістку, бо яе раман з Маякоўскім перажываў цяжка і літаральна сілай спрабаваў вырваць Соню з абдымкаў «гэтага сіфілітыка» (падрабязней пра Соф'ю Шамардзіну, яе жыццё і сувязі чытайце ў артыкуле Ганны Севярынец «Як каханка Маякоўскага стала першай лэдзі БССР» у № 4/2018 «Нашай гісторыі»). Калі Соф'я вярнулася ў Менск і выйшла замуж за Адамовіча, Чукоўскі наведаў яе ў новым статусе. У дзённіку ён успамінаў таксама Язэпа («вельмі плячысты, спакойны, разумны, моцны») і спрэчку, якая ўсчалася за сталом: яшчэ адна госця, пісьменніца Лідзія Сейфуліна, накінулася на беларускую мову. Маўляў, яе выдумалі беларускія наркамы. Накуплялі французскіх граматык і прыдумалі сабе мову. «Дайце мне тры чырвонцы, я вам лепшую выдумаю». На што, піша Чукоўскі, Адамовіч спакойна адказаў: «Ну што ж, значыць, вы адна ведаеце праўду. Мільёны людзей памыляюцца, а вы не». Згадвае Чукоўскі ў дзённіку і Янку Купалу. «Ездзіў у Сакольнікі з Янкам Купалам. Ціхі, сціплы, прыемна-бясколерны чалавек. Паказваў мне ліст Валерыя Брусава, які атрымаў у 1914 годзе, калі Брусаў быў ваенным карэспандэнтам. "Вашы вершы сапраўдныя", — пісаў яму Брусаў і прыклаў тры пераклады яго вершаў, зробленыя ў адзін дзень. Янка Купала надта рассеяны. Прынёс мне гэты ліст і забыўся на маім стале. Прыйшоў па іх і забыўся на кніжку. Давялосяісці трэці раз па кніжку».

**Чукоўскі пра Янку Купалу: «Ціхі, сціплы, прыемна-бясколерны чалавек»**


З ФОНДАЎ МУЗЕЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

# Як сталінскія цэнзары рэтушавалі здымак з Купалам

**Пасля арышту чалавека выразалі з сумесных фота, расказвае Павел Каралёў, вядучы навуковы супрацоўнік музея Янкі Купалы.**

У музеі Янкі Купалы ёсць незвычайнае фота, зробленае ў лістападзе 1926-га падчас Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. На здымку Янка Купала з сябрам, народным паэтам і будучым міністрам адукацыі Латвіі Янам Райнісам, які прыехаў у Мінск на канферэнцыю. Побач з аксакаламі — маладыя беларускія пісьменнікі. Адзін з іх, Кандрат Крапіва, успамінаў: «Нам, маладым узвышаўцам, вельмі хацелася сустрэцца з шаноўным госцем і сфатаграфавацца разам з двума вялікімі паэтамі. Далікатную місію — дагаварыцца аб гэтым з Янкам Купалам — узяў на сябе, наколькі я помню, Уладзімір Дубоўка. Іван Дамінікавіч дамовіўся з Райнісам, і мы сустрэліся, разам сфатаграфаваліся».

Хто на здымку? Спрэс зоркі. У першым радзе сядзяць (злева — направа): Змітрок Бядуля, Ян Райніс, Янка Купала, Кандрат Крапіва. У другім радзе стаяць: Язэп Пушча, Адам Бабарэка, Уладзімір Дубоўка, Пятро Глебка, Кузьма Чорны. Маладыя пісьменнікі яшчэ жывуць сваімі марамі і планамі: «Адбылася сардэчная гутарка, у часе якой Іван Дамінікавіч прадставіў нас госцю, сказаўшы пра кожнага некалькі цёплых слоў, а мы падарылі Райнісу яшчэ першыя, тоненькія кніжыцы сваіх твораў». Праз некалькі гадоў палова герояў фота будзе арыштавана, на допыты пачнуць выклікаць і Янку Купалу. Друкаваць здымак у першапачатковым выглядзе савецкая цэнзура ўжо не дазволіць. Але і адмовіцца ад яго нельга: фота так ярка ілюструе латышска-беларускае сяброўства! Так у фотаздымка з'явілася другая рэдакцыя.

**Узвышаўцы** — члены літаратурнага аб'яднання «Узвышша» (дзейнічала ў 1926–1931 гадах), куды ўваходзілі вядучыя беларускія літаратары. Старшынёй быў Кузьма Чорны, яго намеснікам — Кандрат Крапіва.

Другое фота блізкае да арыгінала, толькі няма на ім Адама Бабарэкі. Гэтага эрудзіраванага і тонкага літаратуразнаўцу арыштавалі ў ліпені 1930-га, дамоў ён ужо не вярнуўся. Бабарэка, дарэчы, адзін з нямногіх, хто не прызнаў сваю віну, нягледзячы на жорсткую машыну гвалту. Памёр Бабарэка ў 1938-м у бальніцы Паўночнага

**Справа «Саюза вызвалення Беларусі»** была сфабрыкавана ГПУ БССР, каб разграміць нацыянальную інтэлігенцыю. На працягу вясны – лета 1930 года па гэтай справе арыштавалі 108 беларускіх навукоўцаў і дзеячаў культуры. Пад катаваннямі каля паловы арыштаваных агаварыла сябе, 86 чалавек у выніку асудзілі да турмаў і высылак. Гэта тады, пасля чарговага допыту, 20 лістапада 1930-га Купала здзейсніў спробу самагубства. Яго выратавалі, і разам з Коласам ды іншымі мэтрамі паэту прыйшлося пайсці на прыніжэнне і апублікаваць пакаянны ліст з абяцаннем парваць з нацыянал-дэмакратызмам і цалкам аддацца сацыялістычнаму будаўніцтву. У 1988 годзе КДБ БССР абвясціў, што «Саюза вызвалення Беларусі» насамрэч не існавала.

чыгуначнага лагера НКУС, што знаходзіўся ў Комі АССР у пасёлку Княж-Пагост. Рэабілітавалі яго ў 1957 годзе. І хоць альбом «Янка Купала. Жыццё і творчасць», дзе змешчана зменена фота, выйшаў праз два гады пасля рэабілітацыі Бабарэкі, яго выява там адсутнічае. Відавочна, пра рэабілітацыю складальнікі не ведалі. Ці, ведаючы, не парупіліся вярнуць як было. А каб на здымку не ўтварылася падазронай плямы, на месца Бабарэкі пераставілі Язэпа Пушчу.

Але на гэтым справа не скончылася. Існуе трэцяя версія здымка з архіва паэта Сяргея Панізніка. Тут арыгінальную фатаграфію грунтоўна перакроілі. Бо рэпрэсаваныя ўжо тры чалавекі з дзевяці: Адам Бабарэка, Язэп Пушча, Уладзімір Дубоўка. Каб схаваць белыя плямы, рэтушорам прыйшлося шмат папрацаваць. Выразалі і перамяшчалі постаці Пятра Глебкі, Кандрата Крапівы, Кузьмы Чорнага. На сваіх месцах засталіся толькі Змітрок Бядуля, Ян Райніс і Янка Купала. Гэтае зменена фота, імаверна, рыхтавалася да друку ў страшныя 1930-я.



Адрэтушаванае фота, **ужо без Адама Бабарэкі.**

Якія ж лёсы тых, каго прыбралі? Язэп Плашчынскі працаваў выкладчыкам беларускай літаратуры на агульнаадукацыйных курсах у Мінску. Пры гэтым вучні нават не ведалі, што гэта і ёсць вядомы пісьменнік Язэп Пушча. «Ён гаварыў так мілагучна, мякка, прыгожа, што кожны з нас мог адчуць усё хараство беларускай мовы», — узгадвалі вучні. Арыштаваны Язэп Пушча быў, як і многія іншыя, у ліпені 1930 года па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» быў прыгавораны да 5 гадоў турмы. На волі засталіся двое ягоных дзяцей і жонка. Тэрмін адбываў у Чэбаксарах, Шадрынску. У 1956-



**Уладзімір Дубоўка падчас зняволення.**



**Фота, з якога выразалі ўжо, акрамя Бабарэкі, і Дубоўку з Пушчам.** Тых, хто застаўся, паперастаўлялі месцамі, каб закрыць дзіркі.

м рэабілітаваны, праз два гады вярнуўся ў Беларусь. Памёр у 1964-м, пахаваны на радзіме ў Каралішчавічах пад Мінскам.

Язэп Плашчынскі — аўтар смелага верша пра смерць Сталіна:

*Нязвыклы дзень: тыран сканаў...*
*Вартуй жа, смерць, усю ноч і рань,*
*Каб больш не ўстала яго здань.*

Падобны лёс напаткаў і Уладзіміра Дубоўку. Арыштаванаму, як і астатнія, у 1930 годзе, яму прыйшлося зведаць 27 гадоў высылкі, абсалютнай творчай ізаляцыі. Пасля рэабілітацыі ў канцы 1950-х паэт пасяліўся ў Маскве, пры гэтым часта прыязджаў на радзіму. Творы яго зноў пачалі выходзіць: у 1959-м, праз два гады пасля афіцыйнай рэабілітацыі, выйшаў першы том «Выбраных твораў». Але канчаткова адчуў сябе рэабілітаваным Дубоўка толькі тады, калі ў 1962 годзе атрымаў літаратурную прэмію імя Янкі Купалы.

Арыгінал першага фотаздымка з Янам Райнісам захаваўся якраз у Дубоўкі. Пасля вызвалення ён перадаў фота ўдаве Янкі Купалы Уладзіславе Францаўне. Пасля смерці цёці Уладзі здымак патрапіў у фонды музея. ◆

Часта ў старых сямейных фотаальбомах таксама можна ўбачыць выразаныя, зацёртыя аблічча. Такі своеасаблівы фоташоп. Звярніце ўвагу на старыя сямейныя здымкі, даведайцеся, чаму так здарылася, што гэта значыць. І напішыце нам. Дзяліцеся сваімі сямейнымі гісторыямі на **history@nn.by.**

# Чыжоўскія могілкі. Нечаканыя сустрэчы



**Мінскія Чыжоўскія могілкі адносна маладыя. Сюды не ездзяць турысты. Але тут дастаткова розных цікавостак, а ёсць нямала і сапраўдных загадак. Піша знавец Мінска Дзмітрый Навумаў.**

Першыя чатыры сектары новых гарадскіх могілак былі закладзеныя ў 1964 годзе, а ў наступным, 1965-м, адбылося афіцыйнае адкрыццё некропаля. Могілкі месціліся ў вялікім полі, на паўдарогі з вёскі Чыжоўка да вёскі Новы Двор. З-за наяўнасці старажытных навадворскіх могілак новы некропаль атрымаў назву «Чыжоўскага». У тыя гады месца для пахавання не было прэстыжным. Першыя больш-менш вядомыя людзі тут «пасяліліся» толькі ў першай палове 1970 года. Гэта былі літаратары Іван Козел і Сымон Блатун. Абодва трагічна пайшлі з жыцця маладымі, абодва не паспелі да канца раскрыць свой талент. Але п’еса драматурга Івана Козела «Папараць-кветка» шмат гадоў адкрывала новы тэатральны сезон мінскага Тэатра юнага гледача. А паэтычныя прыёмы Сымона Блатуна, як, напрыклад, параўнанне вясёлкі з абручом, высока ацэньваў Рыгор Барадулін.




1 - Ізраіль Басаў
2 - Уладзімір Сухаверхаў
3 - Ібрагім Гембіцкі
4 - Анатоль Волкаў
5 - Аскар Марыкс
6 - Міхаіл Станюта
7 - Мікалай Дучыц
8 - Барыс Малкін
9 - Монас Манасзон
10 - Анатоль Тычына
11 - Гаўрыла Верасаў
12 - Ісаак Баляслаўскі
13 - Давід Бранштэйн
14 - Бядуліха
15 - Кульбачыха
16 - Мемарыял у гонар альпіністаў
17 - Валерый Мулявін
18 - Мацэвы яўрэйскіх могілак
19 - Ахвяры Курлоўскага расстрэлу
20 - Мікалай Улашчык
21 - Лютэранскі помнік
22 - Помнікі татарскіх могілак

## Пісьменнікі

На могілках таксама знайшлі свой спачын пісьменнікі Мікола Лупсякоў, Міхась Стральцоў,



**Помнік на магіле Сымона Блатуна** з двухрадкоўем паэта.

Макар Паслядовіч, Аляксей Зарыцкі і іншыя. Камусьці з іх не хапіла славы для больш прэстыжнага некропаля, у кагосьці былі перыяды жыцця, што не віталіся савецкай уладай. Вось, напрыклад, што распавядаў Валянцін Тарас пра пахаванага на Чыжоўскіх «бамжа-інтэлігента» Міколу Лупсякова:

«Пра Колю Лупсякова цяжка сказаць, што ён быў інтэлігент, хіба што паводле роду занятку. А бомж ён быў класічны. Ён начаваў на вакзалах, у кацельнях, у грамадскіх прыбіральнях, на гарышчах, у пад’ездах, хадзіў у страшэнных лахманах, непаголены, нямыты, нечасаны, смярдзючы — ад яго несла смуродам асяродку, у якім ён “обитал”, застарэлым перагарам таннага віна, пахам танных цыгарэт. Рот у яго быў агідны, слюнявы, з чорнымі гнілымі зубамі. Сінія вочы, як у вар’ята, скіраваныя і на цябе, і некуды ўбок. Грошай у яго ніколі не было, і, з’явіўшыся ў Доме друку, ён абыходзіў літаральна ўсе рэдакцыі, “страляў” рублі... ▶



**Пахаванне Зэлды Кульбак.** І кенатаф Майсея Кульбака.

...Тут трэба памятаць, што ён быў цяжка паранены на фронце ў 1943-м, асколак снараду прадзіравіў яму галаву і застраміўся глыбока ў мозгу, што з гадамі, відаць, і зрабілася прычынай псіхічнай хваробы...

...І вось гэты стукнуты бомж, брудны, нямыты і нечасаны, апрануты ў смярдзючыя лахманы бадзяга пісаў выдатныя апавяданні і нарысы! У іх не было і ценю вар'яцтва... не было неахайнасці ў мове, ніякай штучнасці: ясная, жывая, разумная проза».

## Жонкі літаратараў

На Чыжоўскіх могілках сваіх мужоў-пісьменнікаў дагэтуль чакаюць Бядуліха і Кульбачыха. Але калі вяртанне Змітрака Бядулі на радзіму з казахстанскага Уральска, трэба спадзявацца, толькі справа часу (нядаўна па СМІ прайшла інфармацыя, што гэта, магчыма, адбудзецца нават вясной гэтага года), то Майсей Кульбак застаецца для ягонай жонкі нязбытнай марай: ён ляжыць недзе ў Курапатах. На помніку Зэлды Кульбак можна




**Пахаванне Бенцыяна Шымшалевіча.** Адметнае тым, што сімвалічная магіла гэтага чалавека ёсць таксама на Вастракоўскіх могілках Масквы, дзе пасля вайны жылі яго нашчадкі.

знайсці адзіную на ўвесь Мінск узгадку пра гэтага рэпрэсаванага яўрэйскага літаратурнага класіка.

## Яўрэйскія надгробкі

На чыжоўскім некропалі можна бачыць яшчэ шмат мацэў — яўрэйскіх надмагілляў. Ёсць




Валун з адбіткам птушынага крыла **на магіле Міхася Стральцова.**



Помнік з былых **лютэранскіх могілак.**

верагоднасць, што некаторыя надгробкі з парэшткамі людзей у свой час пераехалі са знесеных могілак на месцы стадыёна «Дынама» на могілкі на вуліцы Сухой. А потым знайшлі свой, будзем спадзявацца, апошні спачын на сучасных гарадскіх некропалях. На Чыжоўскіх могілках можна адшукаць шматлікія «гнёзды» мацэў.

## Унікальны надгробак з лютэранскіх могілак

Ёсць на Чыжоўскіх могілках помнік з надпісам на нямецкай мове: «*Тут спачывае з Богам мой муж, мой дарагі бацька, наш любімы брат Якаб Мігдал. Ад вачэй далёка, да сэрца навечна блізка!*». Гады жыцця: 1873–1904. На вялікі жаль, вызначыць, хто і пры якіх абставінах перанёс гэты помнік на чыжоўскі некропаль, пакуль не ўдалося. Але найбольш верагоднай падаецца версія пра «лютэранскае» паходжанне помніка. Лютэранскія могілкі дзейнічалі ў Мінску ў раёне вуліцы Карла Лібкнехта






Татарскія надгробкі з колішняга мінскага мізара.



(колішняй Нямецкай вуліцы) з XIX стагоддзя і да 1970-х гадоў, калі на іх месцы разбілі сквер. Частку надгробкаў выкарысталі для будаўніцтва і брукоўкі, большасць засталася ў зямлі.

## Мінскія татары

У некалькіх месцах Чыжоўскіх могілак можна знайсці помнікі, перанесеныя з колішняга мінскага мізара — татарскіх могілак. Цікава, што верхнія надпісы на помніках аднолькавыя. Жалобны тэкст па вучню восьмага класа мінскай гімназіі Сулейману Смольскаму выкананы па-руску. Па-руску зробленыя аналагічныя надпісы і на іншых помніках.

На згаданым надгробку захаваўся аўтарскі надпіс мінскага каменячоса.

Паравая фабрыка Бяркоўскага стаяла на тым самым месцы, дзе зараз знаходзіцца Гістарычная майстэрня (Сухая, 25). Сапраўды, гэты каменячос трымаў сваю фабрыку паблізу яўрэйскіх могілак. Цікава, што падобная фабрыка была ў распараджэнні Бяркоўскага і на вуліцы Кальварыйскай. На адным з помнікаў мінскіх Кальварыйскіх могілак таксама захаваўся адпаведны надпіс каменячоса.

## Помнікі ахвярам Курлоўскага расстрэлу

У адным са згаданых вышэй «гнёздаў мацэў» быццам раскіданыя надгробкі ахвяраў Курлоўскага расстрэлу. 31 кастрычніка 1905 года мінскія ўлады расстралялі мітынг, які сабраўся на Прывакзальнай плошчы, каб прывітаць царскі Маніфест аб дэмакратычных свабодах. Тады ад куляў загінула каля 100 чалавек.

Надгробкі былі перавезеныя на чыжоўскі некропаль са знішчаных яўрэйскіх могілак на вуліцы Сухой. Але, на жаль, улады не паклапаціліся аб тым, каб пазначыць гэтае месца на Чыжоўскіх могілках якім-небудзь мемарыяльным знакам. Таму знайсці гэтыя цікавыя артэфакты мінскай гісторыі даволі цяжка.

На гэты час удалося расчытаць прозвішчы пяці забітых маніфестантаў. Гэта Герц-Абрам Ледэр, Мордух Хрэйн, Шмуэль Лац, Ілля Файнберг, ►



Галерэя надгробкаў **ахвяраў Курлоўскага расстрэлу.**






Надгробак **шахматыста Гаўрылы Верасава** з запісаным на ім дэбютам.

▸ Абрам-Лейба Гурвіч. Але няма ніякіх сумненняў, што ў хуткім часе гэты спіс будзе папаўняцца.

### Шахматысты

Мінску шчасціла на моцных шахматыстаў. За галоўную шахматную карону свету ў вырашальным паядынку ў розныя часы змагаліся Барыс Гельфанд і Давід Браншэйн. На Чыжоўскіх могілках спачывае другі з іх, «шахматны мудрэц» Давід Браншэйн. У далёкім 1951 годзе яму давялося паспрачацца за тытул чэмпіёна свету са славутым Міхаілам Батвіннікам. Але хоць іх працяглы матч скончыўся нічыёй (12:12), Батвіннік усё ж застаўся першым нумарам сусветных шахмат. Непадалёк пахаваны цесць Браншэйна Ісаак Баляслаўскі, некалі сусветны «нумар тры». Так здарылася, што ў 1950 годзе Баляслаўскі страціў шанцы на шахматную карону якраз пасля сустрэчы з Давідам Браншэйнам. А ў 1984 годзе дачка Баляслаўскага Таццяна, вядомая ў будучыні мастацтвазнаўца, стала жонкай Браншэйна.

На помніку шахматыста і гісторыка Гаўрылы Верасава запісаны дэбют, вынаходнікам якога быў беларускі майстар.



Шахматны конь на помніку **Давіду Браншэйну**.

**Павел Мімрык** стаў капітанам пасляваенных «Дынама» і «Спартака» не па прызначэнні, а па прызнанні. Паводле нараджэння адэсіт, ён франтавіком вызваляў Мінск, а на футбольным полі моцна трымаў цэнтральную зону.
«У пяцьдзясят чацвёртым упершыню ў сваёй гісторыі мінскі “Спартак” узяў бронзу шмат у чым дзякуючы абароне — 33-гадоваму Мімрыку і 34-гадоваму Хомічу, якія паміж сабой, дарэчы, не вельмі сябравалі. Ветэраны наогул не вылучаліся маналітнасцю. Дастаткова ўспомніць, як Шэвялянчык паступіў у Інстытут фізкультуры і на час сесіі прасіў вызваліць ад трэніровак, а капітан не прымаў раздвойвання: “Няхай або гуляе, або вучыцца!” Або ўзяць выпадак у таварыскай сустрэчы з палякамі, калі Хоміч крыкнуў “Бяру!”, а сам не пайшоў на пакінуты Мімрыкам мяч, і форвард палякаў Цэзлік скарыстаўся падарункам.
У распраналньі слова за слова, Мімрык сарваў з нагі буц і з усёй дуры шпурнуў у Хоміча — калі б той не меў кацінай рэакцыі, галаву б разнесла жалезнымі шыпамі. Ды што Хому — Цанаву раз нагрубіяніў. Усёмагутны міністр дзяржбяспекі, які курыраваў мінскае “Дынама”, аднаго вечара пасля гульні паслаў дадому чалавека з праверкай.
На другі дзень выклікаў Мімрыка на разнос: як можаш гуляць, калі ясі пустую бульбу?! Павел ускіпеў: мне не вязуць, як вам з Грузіі, мандарыны і вінаград!» — піша Васіль Сарычаў у блогу «Імгненне і лёс» на сайце газеты «Прессбол».
Пасля заканчэння кар’еры футбаліст быў памочнікам, другім трэнерам у Мінску, Брэсце, Гродне, але паўсюль заставаўся на другіх ролях. Найбольшае дасягненне — вывад гродзенскага «Нёмана» ў клас «А». За гэта ён атрымаў заслужанага трэнера БССР.
Пасля 50-ці Мімрык стаў трэнерам у дынамаўскай групе падрыхтоўкі, але неўзабаве падзяліўся з жонкай: ходзяць чуткі, што яго могуць адхіліць ад трэнерскай работы — як чалавека без спецыяльнай адукацыі (ён быў зубапратэзістам).
І ў 53 Мімрык здзейсніў самагубства. Пахаваны на Чыжоўскіх могілках.



Помнік на магіле **шпажыста-чэмпіёна Аляксея Ніканчыкава.**

## Спартоўцы

Легендарны футбольны капітан Павел Мімрык, мінскі Марадона Леанард Адамаў, пяціразовы чэмпіён свету шпажыст Аляксей Ніканчыкаў, першы савецкі чэмпіён Еўропы па атлетызме Мікалай Шыла... Усе гэтыя героі свайго часу заўчасна пайшлі з жыцця. Хтосьці ад кулі, нехта проста крочыў у паветра з вышыні, кагосьці забіла звычайная прастуда, некаму судзіў лёс учадзець. Застаецца толькі шкадаваць, што часам абставіны смерці спартоўцаў перашкаджалі кіраўніцтву рэспублікі захоўваць памяць пра іх. У Беларусі так і не з'явіўся турнір памяці Аляксея Ніканчыкава. На шчасце, пра гэта паклапаціліся больш незалежныя эстонцы, дзе прыз памяці Ніканчыкава ўручаўся на спаборніцтвах «Талінскі меч».

## Мастакі

А вось мастакі, пахаваныя на Чыжоўскіх могілках, пакінулі пасля сябе найвыдатнейшую мінскую спадчыну. Мінск на карцінах гэтых мастакоў паўстае ў розных ракурсах, часах, стылях. Мікалай Дучыц, Анатоль Тычына, Ібрагім Гембіцкі, якія перажылі нямецкую акупацыю, захавалі для наступных пакаленняў горад, які цяпер не існуе. Як усё адно прадчувалі, што гэтыя будынкі і вуліцы будуць неўзабаве знішчаныя. Монас Манасзон і Ізраіль Басаў выявамі нашага горада даказвалі геніяльным родным братам-мастакам Абраму Манасзону і Беньяміну Басаву і сваю неймаверную таленавітасць. Анатоль Волкаў цыклам «Мінск і мінчукі» апярэдзіў майстроў тэлебачання. Мінск Барыса Малкіна – казка, дзе гарадскія



Рука на помніку **піяністу Міхаілу Бергеру.**



Дзяўчынка з фарбамі на помніку на магіле **Міхаіла Станюты.**



Надмагілле **Уладзіміра Сухаверхава.**



«Незагоеная рана» на помніку **мастакам Віктару і Святлане Сагайдачным**. Мастакі трагічна загінулі ў 1972 годзе.



**Брат Мулявіна загінуў у Ялце.** Хадзілі размовы, што яго разыгралі ў карты крымінальнікі.

будынкі атрымліваюць чароўныя няісныя контрфорсы і атыкі. Класікі беларускага жывапісу Уладзімір Сухаверхаў, Міхаіл Станюта, Аскар Марыкс таксама прысвяцілі Мінску свае выдатныя творы.

### Музыканты

Побач з мастаком Аскарам Марыксам пахаваная яго жонка, віяланчэлістка Ганна Бергер-Марыкс. На іншым баку могілак знайшоў спачын выдатны піяніст Міхаіл Бергер, на помніку якога можна пабачыць руку музыканта.

Часцяком выпадковыя наведвальнікі некропаля ў першую чаргу кіруюцца ў бок помніка на магіле Валерыя Мулявіна, малодшага брата беларускага песняра. Малады музыкант загінуў пры загадкавых абставінах падчас фестывалю ў Ялце ў 1973 годзе (на помніку 1974-ы). Па адной з версій, Валерыя крымінальнікі «прайгралі ў карты», пасля чаго ён быў забіты злачынцамі. Але афіцыйны пратакол значна



Пахаванне **мегатанкіста Зіновія Калабанава**.

больш празаічны: упаў на парапет і разбіўся. Ля помніка Мулявіну-малодшаму заўсёды ляжаць кветкі.

А вось помнік на магіле Адама Бяльзацкага не вытрываў часу. Былы ўдзельнік знакамітага аркестра Эдзі Рознера, мабыць, па-ранейшаму не забывае свае барабаны.

### Вайскоўцы

На Чыжоўскіх могілках пахавана багата вайскоўцаў. Трагічную галерэю складаюць «воіны-інтэрнацыяналісты». Значную плошчу займаюць і пахаванні герояў Другой сусветнай вайны. Асаблівае месца сярод іх належыць магіле танкіста Зіновія Калабанава, памяць пра якога вярнулася да нас у тым ліку дзякуючы віртуальнаму медалю яго імя (пра яго падрабязней чытайце ў № 9/2019 «Нашай гісторыі» ў артыкуле Віталя Чырвінскага).

Некалькі брацкіх пахаванняў вайскоўцаў з'явіліся ў некропалі на самым пачатку яго існавання ў 1967 годзе. Сюды пераносіліся пахаванні з найбліжэйшых ваколіц. Напрыклад, адно з іх, чырвонаармейца Васіля Харчанкі, было перанесена з 1-га Дзіцячага завулка. У 2010 годзе



Разбураны помнік на магіле **джазавага барабаншчыка Адама Бяльзацкага.**



Мемарыял у гонар **беларускіх альпіністаў, што загінулі ў Сібіры.**

на Чыжоўскіх могілках былі пахаваныя парэшткі вязняў Трасцянецкага лагера смерці. Вельмі цікава аздобленыя помнікі лётчыкам, ахвярам вайсковых авіякатастроф. А побач з адным з такіх мемарыялаў (авіякатастрофа самалёта ТУ-22К 26 красавіка 1971 года) месціцца жалобны помнік альпіністам.

### Альпіністы

Беларуская група альпіністаў загінула 25 сакавіка 1971 года пад лавінай ля перавалу Піхтавы (Іркуцкая вобласць Расіі). Разам з іншымі загінуў вядомы ў той час бард Арык Круп, значнае месца ў жыцці і творчасці якога займала Беларусь. Яго талент, на думку крытыкаў, «звонкі і ціхі, чысты і прыгожы», магутна загучаў на мінскай зямлі. *«След в снегу оставил, да не вечный, // Он до оттепели, до метели»*. Так спяваў Арык Круп. На Чыжоўскіх могілках след гэты можна знайсці.

Аўтарам мемарыяльнага комплексу была маладая архітэктарка Ксенія Хачатранц,



Пахаванне **барда Арыка Крупа.**

у будучыні прафесар Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта.

### Архітэктары

Архітэктары Яўген Цюкаў, Уладзімір Вараксін, Леў Рымінскі таксама пахаваныя на Чыжоўскіх могілках. Гэтым творцам абавязаныя сваёй



Тут пахаваны **Леў Рымінскі.**

прыгажосцю многія гарады Беларусі. Рэспубліканскі палац піянераў і школьнікаў па вуліцы Кірава, будынкі ЦК КПБ па вуліцы Маркса (цяпер рэзідэнцыя прэзідэнта), Беларускага інстытута народнай гаспадаркі ►




«Мне сняцца сны аб Беларусі». Радкі з купалаўскага верша на магіле **Мікалая Улашчыка.**

▶ па вуліцы Свярдлова, шматлікія жылыя дамы — вось далёка не поўны спіс толькі мінскіх праектаў гэтых аўтараў. На жаль, рэпрэсіі 1930-х гадоў закранулі апошняга са згаданых архітэктараў.

### Навукоўцы

У Чыжоўцы ляжыць волат беларускай навукі — гісторык Мікалай Улашчык. У савецкі час ён быў галоўным спецыялістам па Вялікім Княстве Літоўскім. Пры гэтым — рэдкасць у той час — не разменьваўся на ідэалагічныя ігрышчы, а засяроджана, узважана даследаваў мінулае. Дзякуючы нястомнаму вучонаму беларусы ведаюць, напрыклад, пра Банцараўшчыну (буйное гарадзішча жалезнага веку побач са Ждановічамі) і «Хроніку Быхаўца» — летапіс даўнейшай гісторыі нашых зямель. Выдатнага навукоўца саветы чатыры разы арыштоўвалі, жыць ён быў вымушаны ў Маскве (на радзіму яго не пускалі). У Маскве ён і памёр. Мемарыяльная пліта кранае купалаўскім выслоўем: «Мне сняцца сны аб Беларусі».



Язычніцкі валун на магіле **Эрнста Ляўкова.**



Няясна, **што гэта за помнікі** і адкуль яны.

На магіле Эрнста Ляўкова, вядомага геолага, знаходзіцца валун з язычніцкімі сімваламі. Дзякуючы намаганням у тым ліку гэтага вучонага Беларусь мае выдатны парк-музей валуноў ва Уруччы (глядзіце пра яго артыкул Юрыя Тамковіча ў № 9/2019 «Нашай гісторыі»). Ёсць там і камень з такой жа выявай лука і стрэл, прынесены ледавіком з далёкай Скандынавіі. А мінскае капішча дагэтуль марыць вярнуцца на карту горада...

Вылучаецца помнік на магіле Мікалая Ярмоленкі, заснавальніка вялікай хіміі на Беларусі. Гэты помнік, як і помнік на магіле Аскара Марыкса, выкананы скульптарам Заірам Азгурам. Заснавальнікі вядомай навуковай лошыцкай гаспадаркі, селекцыянеры Аляксей і Эма Сюбаравы, таксама спачываюць на Чыжоўскіх могілках. Гэтай сямейнай пары мы павінны дзякаваць за захаванне старых і стварэнне новых сартоў яблык, напрыклад сінапу і бананавага.



Шкада, але дагэтуль большасць беларусаў лічыць, што заклаў вялікі сад і насадзіў шматлікія экзатычныя расліны ў Лошыцы вядомы расійскі навуковец Мікалай Вавілаў, хоць ён наведаў Лошыцу толькі аднойчы, у 1928 годзе.

Чыжоўскія могілкі хаваюць яшчэ і шмат загадак. Некаторыя з гістарычных артэфактаў, што змяшчаюцца на іх, пакуль немагчыма звязаць з нейкім са знішчаных мінскіх некропаляў. Але з загадкамі могілкі і цікавейшыя. ◆

# 807 дакументаў ВКП(б)-КП(б)Б з грыфам «Сакрэтна»

**Улада і грамадства: БССР у 1929–1939 гады: у дакументах Сакрэтнага аддзела / Асобага сектара ЦК КП(б)Б.** Складальнік Ірына Раманава. — Вільня: Логвінаў, 2019. — 1120 с.

Кандыдат гістарычных навук Ірына Раманава 20 гадоў працавала над унікальным выданнем, і вось нарэшце яно пабачыла свет. Гэта зборнік 807 дакументаў партыйных архіваў ВКП(б)-КП(б)Б з грыфамі «Сакрэтна», «Зусім сакрэтна», «Асабіста сакратару ЦК». Уся падборка паказвае схаваныя бакі савецкага жыцця.

## Зміцер Дрозд, гісторык: «Кніга павінна сабраць усе магчымыя прэміі»

Дакументы ў выданні аб'яднаныя па тэмах: вёска, горад, нацыянальныя меншасці, рэлігія, культура, рэпрэсіі. У іх — уся гісторыя БССР: наступленне на НЭП, гвалтоўная калектывізацыя і масавыя дэпартацыі сялян 1930–1931 гадоў, голад 1932–1933 гадоў... Прыведзеныя дакументы з'яўляюцца сведчаннямі не толькі ахвяр, тых, хто прайшоў пекла, але і стваральнікаў гэтага пекла.




Таталітарная дзяржава стварыла спрыяльныя ўмовы для садыстаў, і з дакументаў вынікае, што многія следчыя атрымлівалі сапраўднае задавальненне ад «працы». У кнізе мы чуем розныя галасы, бачым розную псіхалогію: і даносчыкаў, і смяліўцаў.

Ніжэй — некаторыя дакументы і іх фрагменты. Падаюцца на мове арыгіналу, з захаваннем арфаграфіі і пунктуацыі.

### Калгасніца нарвала цыбулі і кінулася ў калодзеж

«10 ліпеня 1933 года. У Віцебску членам прэзідыуму нашага саюзу т. Беркоўскім у калгасе МОПР выяўлен наступны факт:

24. 06. гэтага года раніцаю работніца Здольнікава нарвала без дазволу цыбулі, за што яна брыгадзірам Прусаковым была задзержана і пасаджана пад арэст у сталовай, часавым на ахране стаў старшыня рабачкому т. Аўсяеўскі. Пракарауліўшы 2 часы, Аўсяеўскі адышоў, у гэты час работніца выйшла па естественным надобностям і в это же время бросілась в калодзез. Разбілась сільна. Яе дасталі із колодца, атправілі в больніцу, выздараўлівае. Но сам факт возмуцiцельны. Выяснілась, што яна ўкінулася ў калодзез па прычыне самага безабразнага аднашэння да яе з боку адміністрацыі і рабачкому, яе некалькі разоў перакідвалі з аднэй работы на другую. Так, з работніцы на скотным дварэ яе перабросілі пасвіць кароў, яна атказалася, яе звольнілі, потым прынялі і г. д.

Гэта пытанне да прыезда нашага работніка 4.07 нідзе не было пастаўлена, а ў насценгазэце паявіўся верш пад загалоўкам «Утопленница», у якім высьмейвалася Здольнікава.

Па прапанове нашага работніка Гарком партыі абсудзіў гэта пытаньне і вынес рашэньне: Сакр. яч. вынеслі суровую вымову і знялі з работы, старшыня рабачкому і дырэктар калгасу зняты з работы, выключаны з партыі і саюза і атданы пад суд. Правялі адпаведную работу сярод рабочых вакол гэтага факту».

У 1920–1930-я гады суіцыд у СССР стаў сацыяльнай эпідэміяй. З 1917-га да сярэдзіны 1930-х колькасць самагубстваў вырасла ўдвая. Самагубствы ішлі хвалямі: з увядзеннем НЭПа і першых наменклатурных ▶



прывілеяў сталі страляцца бальшавікі, перакананыя, што рэвалюцыю прадалі і аддалі; з адменай НЭПа пачала вешацца «савецкая буржуазія», рэзка ўзрасла колькасць бытавых самагубстваў. Пачаліся самагубствы на глебе рэпрэсій: яны сталі апошнім і, як правіла, адзіным спосабам пазбегнуць арышту. У многіх выпадках самагубства стала формай пратэсту, спосабам даказаць сваю невінаватасць.

На самагубства ішлі ад немагчымасці вынесці «метады савецкага следства». Напрыклад, у дакладной запісцы 1939 года пракурора БССР адзначалася: «У бальніцу Нараўлянскага раёна быў дастаўлены Бачына Франц Антонавіч, параненны цвіком у грудзі. Ён параніў сябе з прычыны збіцця яго ў РА НКВД. Пра гэта пракурору стала вядома пасля таго, як Бачына быў расстраляны па рашэнні НКВД БССР за шпіянаж».

Пра тое, які жах адчувалі людзі перад усеўладдзем праваых органаў, сведчаць іншыя падобныя факты. У 1938 годзе за крадзеж 2 кг мукі калгасніцы Паўленка Еўдакіі Якаўлеўне брыгадзір прыгразіў крымінальнай адказнасцю. Пасля гэтага жанчына павесілася.

Спробу самагубства здзейсніў пасля допыту ў 1930 годзе нават народны паэт Янка Купала.

## «Праздники справили хорошо, только кушать было нечего»

Ліст чырвонаармейцу Касмачову ад родных з Клімавіччыны, 4 лютага 1934 года:

«Здравствуй, дорогой брат Ваня.

Дорогой брат, уведомляю Вас о том, что отец Ваш сильно опух и плох и мать Ваша, а телеграмму послать нет денег, то, пожалуйста, проситесь домой. Ваш отец пока жив, но без сознания, то, пожалуйста, проситесь, хотя Вы и служите на военной службе, то, пожалуйста, извернитесь

Ад голаду ў Беларусі ў 1932–1934 гады наймацней пацярпелі Ельскі, Нараўлянскі, Хойніцкі, Мазырскі, Тураўскі, Петрыкаўскі, Жыткавіцкі раёны, а таксама Крычаўскі і Клічаўскі раёны на Магілёўшчыне. Цалкам відавочная сувязь голаду і калектывізацыі. Была прыдуманая такая зверская сістэма, як «чорныя дошкі»: на іх заносіліся калгасы, якія не выконваюць плана хлебанарыхтовак. Трапіць на такую дошку азначала асуджэнне на галодную смерць: з калгаса вывозілі ўсе прадукты, канфіскоўвалі нават насенне.
Звестак пра колькасць памерлых ад голаду ў Беларусі на сённяшні дзень няма. Адзіная лічба, якая фігуравала ў дакументах, — звесткі па Нараўлянскім раёне: больш за 1 тысячу чалавек. Безумоўна, гэтыя звесткі няпоўныя.

домой, может быть, отца застанете в живых, но а мать не заспеете. Сестра Ваша в больнице, так приезжайте, распорядитесь сами, а то у нас хоронить теперь очень дорого. Ямку рыть — все трудодень пропадает, но мы хотели бумажку оформить, но не было председателя нашего колхоза, а ежели не отпустят, то пожалуйста, шлите немедленно письмо.

Затем досвиданье. Остаемся здесь.

Писала КУЗЬМЕНКОВА Домна».

У адказ ваенкам 1394-й вайсковай часці напісаў сакратару Клімавіцкага РК КП(б)Б з просьбай расследаваць факты, выкладзеныя ў лістах родных Касмачова аб голадзе:

«Ко мне поступил целый ряд писем от кр-ца т.КОСМАЧЕВА, полученных им от родных, в которых ему жалуются о том, что живут плохо.

Так, в письме от 12.01.1934 г. ему писали: "Праздники справили хорошо, только кушать было нечего. Но наша власть справила вечерку на колхозный счет. Также просим Вас, чтобы Вы приехали хоть на один день, потому что у нас дней много, около 800, а хлеба получили 3 пуда, а картофель и др. культур совсем не получили, так что обстоятельства наши очень и очень неважные".

В другом письме от 28.01.34 г. ему писали: "Дальше ты пишешь сынок, сколько мы получили хлеба: жита получили 7 пуд., ячменя 6,5 пуд., 3,5 п. суборы жита. Когда жито стали давать, то пополам с землей и совершенно сырое, то когда пересушили, то получилось 4 п. 7 ф. и так ячмень и другие продукты. Картошки ни фунта не получили и надежды на получение нет, чтобы получить хлеба. Так что до сих пор хоть жили мякиной и теперь нечего есть".

Прошу выяснить, в каких условиях находится его семья, оказать ей материальную помощь, если это понадобится, и сообщить результат мне по адресу:

Гор. Бобруйск, БССР, п/я 1394 — Военкому.

Военком части 1394

Порохнюк». ◆

**Падрыхтавала**
**Паўліна Скурко**

28 ліпеня 1935 г.

**СЕКРЕТНО**

На рисунках кондитерских изделий (печенье), получаемых нашими базами из г. Ленинграда, 1-ой государственной кондитерской фабрики имени САМУЙЛОВОЙ, через Ленинградский Кондснабсбыт, часто встречаются религиозные эмблемы и значки: кресты, георгиевские кресты, сионистские «могендовиды» и т.д. Сообщая Вам об этом, прошу принять соответствующие меры к изъятию таких рисунков на кондитерских изделиях указанной фабрики, а также прошу Ваших указаний, как поступить с прибывшим печеньем. Нами отдано распоряжение указанное печенье задержать и не пускать в продажу.

ПРИЛОЖЕНИЕ: экземпляры печенья.

*Зам. Председателя Президиума Белкоопсоюза Шаболтас*


**Сям'я калгаснікаў.** Вёска Людагошча Мсціслаўскага раёна, 1933 год.

# Трываць *і чакаць*



**Графіці ў Барселоне.** Злева ўнізе — колеры каталонскага сцяга.

## Каталонія, гатовая нарадзіцца

ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА

**Раніца, пляж каталонскага горада Матаро. Група дзяцей, на выгляд першыя класы, з крыкамі кідаецца ў ваду. У гэты дзень мора неспакойнае, хвалі моцныя нават для дарослых, а дзяцей яны проста падхопліваюць, уздымаюць і жорстка вяртаюць на бераг. Камусьці балюча, але большасці смешна.**
**Хоць за групай і сочыць настаўнік, але мора сапраўды не для купання. Дзеці ідуць, іх наводмаш б'е, ім бы перачакаць, а яны зноўку кідаюцца ў хвалі. Так маглі б трэніравацца рэгбісты, якім уласцівая агрэсія. Але тут нешта іншае, вельмі каталонскае. Каталонцы ведаюць, што такое трываць. Піша Андрэй Дзмітранок.**

У 2017 годзе парламент Каталоніі абвясціў незалежнасць, але далей за дэкларацыю пайсці не атрымалася. Іспанія пры падтрымцы з боку Еўрасаюза здолела спыніць працэс аддзялення, але тое, што працяг будзе, разумеюць усе. Каталонцы вызначаюць сваю барацьбу за незалежнасць словам «працэс», на іх баку дэмаграфія — пратэст маладзее, а вынікі выбараў дэманструюць рост папулярнасці незалежніцкіх партый. Трываць і чакаць — такое крэда каталонцаў з маленства і на працягу ўсёй гісторыі.

### Пачатак

Першая спроба каталонскіх земляў атрымаць незалежнасць была зроблена за вестготамі. У 672-м намеснік вестгоцкага караля Вамбы герцаг Барселоны Павел падымае мяцеж, але прайграе. Але яму дапамогуць, самі таго не ведаючы, арабы. Каталонцы сыграюць на супярэчнасцях паміж хрысціянскай Еўропай і мусульманскім халіфатам: апошні, захапіўшы амаль цалкам Іберыйскі паўвостраў, пагражае далейшым прасоўваннем на кантынент. А што яшчэ рабіць малалікаму народу? Быць кемлівым і чакаць зручнага моманту.

Войскі франкскага караля Карла Мартэла ўрэшце спынілі арабаў, а на вызваленых каталонскіх землях утварылі свае васальныя графствы. Чым і скарысталася графства Барселона, самае моцнае і ўплывовае з іх. З цягам часу яно падпарадкавала сабе іншыя графствы, а ў 988-м граф Борэль II адмовіўся прызнаваць уладу франкаў. Гэты год — у той самы год далёка на ўсходзе Уладзімір хрысціў Кіеў — лічыцца пачатковым для каталонскай дзяржаўнасці, хоць сама назва Каталонія з'явіцца толькі праз два стагоддзі.

### Два шлюбы і адна спроба разводу

Да XII стагоддзя графства Барселона моцнае і самастойнае. Ёсць свая мова, ёсць дзяржаўныя інстытуцыі, але замежнапалітычная сітуацыя вымушае Барселону ісці на стратэгічны саюз з суседнім Арагонам. Праз шлюб прынцэсы Петранілы (Арагон) і графа Рамона Берангера IV ( Барселона) утвараецца Каралеўства Арагон.

Каталонія ў новай дзяржаве не страціць сваёй аўтаномнасці: у ёй будзе дзейнічаць парламент (Кортс каталан), захаваецца мова. І ўвогуле, гэта быў шчаслівы саюз: напрыканцы XV стагоддзя Арагон — уплывовая краіна Заходняга Міжземнамор'я. Але непасрэдна на Іберыйскім паўвостраве ёсць яшчэ Партугалія, Кастылія і рэшткі Арабскага халіфата. Расклад сілаў у рэгіёне цалкам зменіць другі дынастычны саюз — шлюб каралевы Кастыліі Ізабэлы і караля Арагона Фердынанда. У выніку яго ўзнікла Каралеўства Іспанія.

1492 год — калі не самы значны ў іспанскай гісторыі, то, прынамсі, самы сімвалічны. У студзені скарылася Гранада, апошні бастыён арабаў на Пірэнеях, а 12 кастрычніка Хрыстафор Калумб адкрыў Новы Свет. Пачынаецца залаты век Іспаніі — некалькі бесклапотных стагоддзяў, поўных залатога дажджу і не зробленых спраў дома.

Каралеўства Іспанія тады не было ўнітарным. Як і за першым шлюбам, Барселона захавала ўласныя органы кіравання, грошы, мову. Мадрыд тады актыўна займаўся каланізацыяй амерыканскага кантынента, а Барселона засяродзіла свае інтарэсы на Міжземнамор'і. І ўсё ішло добра, пакуль было амерыканскае золата. Адно што толькі грошы не спрыялі ▸

### Чаму Каталонія?

Адносна паходжання назвы Каталонія ёсць ажно тры версіі. Першая намякае на землі готаў і аланаў (Гот-Аланія, Гаталунія), другая падкрэслівае ролю французскага рыцара *Otger Cathalon*'а і яго значэнне ў змаганні з арабамі, трэцяя ж звязвае тапонім з тэрмінам «замак». У сукупнасці ўсіх трох версій — уся гісторыя краю. Гістарычную Каталонію сёння дзеляць дзяржаўныя межы. І такая сітуацыя — вельмі даўняя. Па дамове ад 1656 года Пірэнеі, па сутнасці каталонскія горы, сталі мяжой: паўночная частка Каталоніі (4 тысячы кв. км) уваходзіць у склад Французскай Рэспублікі, паўднёвая (32 тыс. кв. км) мае аўтаномію ў складзе Каралеўства Іспаніі.

▶ развіццю гаспадаркі краіны, бо марнаваліся на забавы мадрыдскай эліты.

У шлюбных адносінах Мадрыда і Барселоны атрымалася сапраўдная сямейная класіка: муж (Мадрыд) увесь час боўтаецца па далёкіх заробках, але жонка (Барселона) карысці з таго не бачыць. І крычыць: «Дзе грошы, Мадрыд? Прагуляў?»

Мадрыд не маўчыць, ён таксама крычыць і патрабуе ашчаджэнні «жонкі». У выніку да 1640 года ад ранейшага жадання жыць разам не засталося нічога. Незадавальненне ў Каталоніі ўсеагульнае: сяляне распачынаюць «Вайну жняцоў», ідучы супраць іспанскіх войскаў, натуральна, з сярпамі, а эліты дэкларуюць незалежнасць рэспублікі. Але адной Каталоніі не здужаць, яна просіць падтрымкі ў Францыі. Вайна будзе доўжыцца ажно 12 год, і Каталонію пасля яе падзеляць паміж сабой француз і іспанец.

Яшчэ больш Каталонія будзе прыніжаная падчас вайны за іспанскую спадчыну, якая разгарэлася ў 1701 годзе пасля смерці апошняга іспанскага караля з дынастыі Габсбургаў, Карла II. 11 верасня 1714 года Барселона, якая падтрымлівала ў вайне бок, што ў выніку прайграў, здалася пасля аблогі. Усе аўтаномныя правы і прывілеі былі пасля гэтай вайны скасаваныя.



**Жоўтыя стужкі** — сімвал салідарнасці з палітвязнямі, кіраўнікамі руху за незалежнасць Каталоніі.

## Каталонскай нацыі не існуе?

Менавіта так стагоддзямі лічыла Каралеўства Іспанія. І намінальна, і юрыдычна. Каталонская мова была пад забаронай: на ёй не выкладалі ва ўніверсітэтах, дзеці ў школах не вывучалі вершы сваіх паэтаў. Лічылася, што ёсць толькі іспанская мова і адзіная іспанская нацыя. Але каталонцы не той народ, што скараецца. Традыцыі і мову яны захаваюць, у XIX стагоддзі стануць індустрыяльным цэнтрам Іспаніі, а ўжо ў XX стагоддзі ізноў заявяць свае правы на самастойнасць.

### Сімвалы Каталоніі

**Каталонская мова (каталан)** — мова 11 мільёнаў чалавек на т. зв. каталонскіх землях (Каталонія, Валенсія, Балеарскія астравы), а таксама ў Андоры і горадзе Альгеры (Італія). Не з'яўляецца дыялектам іспанскай і нават адносіцца да гала-раманскай групы, у той час як іспанская — да ібера-раманскай. Ва ўсе часы ўласная мова — галоўны сімвал барацьбы каталонцаў за незалежнасць.

**Сэньера** — афіцыйны сцяг Каталоніі, у яго аснове сімволіка Арагонскага каралеўства. Прыхільнікі незалежнасці выкарыстоўваюць сцяг **Эстэлада**, дзе да арагонскіх колераў дадаецца трохкутнік з зоркай. За ўзор быў узяты сцяг Кубы, што апошняй дамаглася незалежнасці ад Іспаніі.

**«Барселона»** — адна з самых папулярных футбольных камандаў свету. Афіцыйны слоган: «Больш чым проста клуб». Каталонцы жартуюць: «Гэта наша войска».

**Жоўты колер.** Пасля падзей 2017 года ён стаў сімвалам пратэсту супраць рэпрэсій. Адзін з камплектаў формы ФК «Барселона» — акурат жоўты.



**На суседніх паверхах** жывуць марксісты і прыхільнікі руху за незалежнасць.

## Рэспубліка і вайна

Для Іспаніі XX стагоддзе пачалося ў 1898 годзе, калі Куба, апошняя іспанская калонія



## Вядомыя людзі за незалежнасць Каталоніі

**Антоніа Гаўдзі —** архітэктар, аўтар такіх шэдэўраў сусветнага значэння, як храм *Sagrada Famila*, дом *Casa Bartlo*, парк *Guell* і інш. Прымаючы запрашэнне іспанскага караля на сустрэчу, паставіў умову, што будзе размаўляць на каталонскай мове. Кароль пагадзіўся.

**Жузэп Гвардыёла —** футбаліст, трэнер. За ўжыванне жоўтых ланцужкоў у салідарнасць з затрыманымі каталонскімі палітыкамі быў аштрафаваны футбольнымі ўладамі.

**Жузэп (Хасэ) Карэрас —** оперны спявак. Гаварыў: «У мяне вялікае патрыятычнае пачуццё. Час ад часу трэба выказвацца, нават калі гэта прывядзе да праблемы ў нейкай сітуацыі».



SHUTTERSTOCK.COM. BY CRISTIANO BARNI

Сэкс-сімвал руху за незалежнасць Каталоніі — **футбольны коўч Пэп Гвардыёла.**

ў Амерыцы, перамагла ў вайне за незалежнасць, а саму метраполію апанаваў крызіс — эканамічны, сацыяльны, палітычны. Гэта быў шанец для прыхільнікаў незалежнай Каталоніі. Наперадзе будуць дыктатура генерала Мігеля Прыма дэ Рыверы, падзенне манархіі, з'яўленне Іспанскай Рэспублікі (1931 год) і доўгачаканая аўтаномія для Каталоніі (1932-ы). Апошняе было непрымальным для правых сілаў Іспаніі, і яны на чале з генералам Франсіска Франка распачалі вайну (1936–1939 гады), у якой сутыкнуліся СССР, ►




Іспанія — манархія. Большасць прыхільнікаў незалежнасці Каталоніі бачаць сваю краіну рэспублікай. На фота: **графіці «Жыве Рэспубліка!» ў Барселоне.**

## Супраць ці не вызначыліся

**Сальвадор Далі —** мастак. Пазбягаў выказванняў на тэму каталонскага суверэнітэту. Маўляў, «дабрабыт краю залежыць ад спакою і адсутнасці катаклізмаў у рэгіёне».

**Пабла Пікаса —** мастак. Прыхільнік камуністычных ідэй, выразнай пазіцыі наконт незалежнасці не меў.

**Марыа Варгас Льёса** — перуанскі пісьменнік каталонскага паходжання. Лічыць нацыяналізм анамаліяй з катастрафічнымі наступствамі для ўсёй Еўропы.

Германія, Італія і добраахвотнікі з усяго свету. Перамог Франка, але ўрачысты парад прайшоў у пустой Барселоне — многія мясцовыя жыхары сышлі ў Францыю з рэспубліканцамі.

Франка помсціць жорстка: па ўсёй Іспаніі знішчана, па некаторых звестках, да 50 000 чалавек, і гэта адбывалася ўжо пасля заканчэння вайны. Каталонская мова зноў забароненая — ні выкладаць, ні друкаваць на ёй не дазваляецца.

**Кастэлс** — вежы з людзей, прадмет сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. Нягледзячы на тое, што гэта спаборніцтва, каманды дапамагаюць адна адной. Кастэлс могуць дасягаць вышыні ў дзесяціпавярховы дом. На вяршыні вежы стаіць дзіця.

Каб зберагчы мову, каталонцы размаўлялі на ёй у сем'ях, а публічна — падчас футбольных матчаў на стадыёне «Камп Ноў» ці на барселонскім кірмашы Бакерыя.

## Пераход да дэмакратыі

У 1975-м памірае Франка, а яго спадкаемца кароль Іспаніі Хуан Карлас I, якога дыктатар рыхтаваў для перадачы яму ўлады, нечакана разварочвае краіну ў бок дэмакратыі. З'яўляюцца палітычныя партыі, дзейнічае свабода слова і вяршэнства права. Іспанія рашуча мяняецца як эканамічна, так і палітычна, з чаго скарысталі і іншыя народы — падданыя іспанскага караля.

У 1977-м быў адноўлены рэгіянальны каталонскі ўрад. На рэферэндуме адносна новай іспанскай Канстытуцыі прызнаецца і гарантуецца права на аўтаномію нацыянальнасцяў і рэгіёнаў. Каталонская мова становіцца афіцыйнай і роўнай у правах з іспанскай. Акрамя таго, новыя законы дазволілі займець і іншыя немалыя бонусы, такія як уласная каталонская паліцыя і нават свае каталонскія амбасады, што для аўтаномій унікальна.

Толькі адно права ніяк нельга рэалізаваць у іспанскай дэмакратыі — права нацыі на самавызначэнне.

## Catalonia Is Not Spain

Лозунг, што Каталонія не Іспанія, пішуць адмыслова па-англійску, бо ідэю трэба данесці ўсяму свету, для якога «ўсё гэта Іспанія». Непасрэдна ж на месцы розніца Каталоніі ад рэшты краіны

**Кастэлс** падчас аднаго з незалежніцкіх шэсцяў.





Помнік **«жывым вежам»** у Барселоне.

SHUTTERSTOCK.COM, BY NOYANYALCIN

**Мазаіка, створаная Жуанам Міро для тратуара на бульвары Рамбла ў Барселоне.** Звярніце ўвагу на густы сіні колер мора і каталонскай керамікі, а таксама на нацыянальныя каталонскія жоўты і чырвоны.

адчувальная: і ў архітэктуры, і ў прыродных ландшафтах, і шмат яшчэ ў чым. Але ж галоўнае адрозненне — людзі. Не горшыя і не лепшыя — проста іншыя.

Увогуле, тут усё трохі інакш. Калі ў Мадрыдзе папулярная карыда, то ў Каталоніі будуюць вежы з людзей (кастэлс), каб паказаць еднасць. Дастаткова пераехаць мяжу, каб пабачыць адметнасць. Няма такой колькасці бараў і рэстаранаў, як у Мадрыдзе, дзе што ні дзверы, то бар. Каталонцы з самага ранку могуць выпіць шампанскага, але добра працуюць удзень. Унёсак Каталоніі ў ВУП Іспаніі — 19%, прытым што тэрытарыяльна яна складае ўсяго 6%.

У каталонцаў выдатнае пачуцце самаіроніі. Бык — сімвал Іспаніі? Каталонія ў адказ выбірае сабе асла, працавітага і ўпартага. Калі з заўзятараў ФК «Барселоны» смяяліся, што як ідзеш паўз іх стадыён, то бачыш іхныя азадкі, фанаты ўзялі сабе назву «кулес» («азадак» ад іспанскага *culo*). Ці папулярны калядны сувенір у выглядзе Санта Клаўса, што, спусціўшы штаны, спраўляе вялікую патрэбу.

Каталонцы ў параўнанні з іспанцамі куды больш стрыманыя, разважлівыя. Іх папракаюць за сквапнасць, хоць гэта хутчэй проста ашчаднасць. Я чуў пра гэтую рысу шмат анекдотаў, але ніколі нічога — пра хітрасць ці нейкае кепскае стаўленне да іншых. Гэта адкрыты і па-паўднёваму гасцінны народ.

### У якіх музеях можна пабачыць экспазіцыі пра гісторыю Каталоніі і яе барацьбу за незалежнасць?

Музей гісторыі Каталоніі (*Museu d'història de Catalunya*) ў Барселанеце (квартал у Старым горадзе Барселоны). Цікавая экспазіцыя ёсць таксама ў Цэнтры культуры і памяці ЭльБорн (*El Born Centre de Cultura i Memòria, CCM Born*) — рэшткі дамоў, зруйнаваных іспанцамі ў XVIII стагоддзі.

### Жуан Міро

Разам з Пікаса і Далі ён самы пазнавальны мастак Каталоніі. Менавіта ягоны стыль задае сучасную эстэтычную традыцыю Барселоны. Міро вырас у багемным асяроддзі пачатку XX стагоддзя, натхняўся кубістамі ды каталонскімі краявідамі. Прырода поўдня Каталоніі, дзе ў бацькоў было лецішча, вельмі паўплывала на яго.

### Не(да)залежнасць

Памятаю, як у 1990-х мае знаёмыя каталонцы максімум чаго жадалі, дык гэта большай аўтаноміі. Праўдзі яны рэферэндум у той час, выхаду Каталоніі дакладна не адбылося б. Цяпер сітуацыя іншая. Калі арыентавацца на вынікі парламенцкіх выбараў, ідэю незалежнасці Каталоніі падтрымлівае прыкладна палова каталонскага грамадства. Рызыкаваць Мадрыд не жадае, і гэта своеасаблівы тупік. ▶


SHUTTERSTOCK.COM, BY SIGUR

Каб вінаград радзіў вялікімі гронкамі з добрым смакам, **вінаграднікі штогод некалькі разоў абразаюць.**


SHUTTERSTOCK.COM, BY XAVITGN

Адно з він у раёне Прыярат **год вытрымліваюць на сонцы ў шкляных бутлях.**

## Прыярат, кава (не чорная) і вермут

Найлепшымі каталонскімі вінамі лічацца *Priorat* і *Cava*. «Прыярат» — выдатныя чырвоныя віны, адны з найлепшых у свеце. Яны пасуюць да мяснога барбекю ды розных гуляшоў.
А «Кава» — каталонскі аналаг шампанскага. Яго п'юць і асобна, і з рыбнымі стравамі, і з мяснымі, а таксама з сырамі. А яшчэ тут п'юць шмат мясцовага вермуту ў якасці аперытыву — гэта значыць перад вячэрай. Ён смачны і танны.

▶ Канстытуцыя Іспаніі не прадугледжвае права на рэферэндум, а Каталонія не мае законных шляхоў, каб стаць суверэннай.

Каталонцы паспрабавалі ў 2014 годзе і правялі сімвалічны рэферэндум з 80% за незалежнасць. Вынікі яго Мадрыд не прызнаў. У 2017-м адбывалася яшчэ адна спроба — і гэтым разам усё сур'ёзна, без сімвалізму. Мадрыд прызнаў плебісцыт нелегітымным і пагражаў рэпрэсіямі, але 2 кастрычніка рэферэндум усё-такі прайшоў. Пад дубінкамі Нацыянальнай гвардыі Іспаніі, з затрыманнем каталонскіх палітыкаў — але галасы на ім былі падлічаныя, а вынікі засведчылі перамогу прыхільнікаў незалежнасці.

Парламент Каталоніі збіраецца на пасяджэнне, народ запаўняе цэнтральныя плошчы, усе чакаюць, як прэзідэнт Каталоніі Карлэс Пучдэмон абвесціць Каталонію незалежнай. Ён гэта робіць, але, уздыхнуўшы, дадае, што незалежнасць ставіцца, так бы мовіць, на паўзу. Такім чынам атрымалася самая кароткая незалежнасць у гісторыі. Мадрыд жа перайшоў у контратаку: Пучдэмону дазволяць выехаць у Брусель, а 14 палітыкаў арыштуюць і будуць судзіць

### Знакавая каталонская песня

«L'estaca» («Слуп») — напісаная яшчэ ў часы падполля пры Франка, у 1968 годзе. Пасля перакладалася на іншыя мовы. На беларускую яе пераспяваў Андрэй Хадановіч. Беларускі тэкст называецца «Муры» і пачынаецца словамі «Разбуры турмы муры».

**На к'юар-кодзе справа бард Люіс Льяк выконвае яе ў Палацы спорту ў Барселоне пасля падзення дыктатуры**



…Si estirem tots ella caurà
I molt de temps no pot durar,
Segur que tomba, tomba, tomba,
Ben corcada deu ser ja…

Разбуры турмы муры!
Прагнеш свабоды — то бяры!
Мур хутка рухне, рухне, рухне
І пахавае свет стары…
(Вольны пераспеў Андрэя Хадановіча)



**А на гэтым к'юар-кодзе «Разбуры турмы муры» ў выкананні Змітра Вайцюшкевіча**

SHUTTERSTOCK.COM_BY PHOTOSTOCKPHOTO

**Самыя чыстыя пляжы**

Гэта маленькія калы (бухтачкі) узбярэжжа Коста-Брава — тыя, што ўдалечыні ад гарадоў ды вялікіх гатэляў.

за «мяцеж». Што магло быць трыумфам, стала паразай.

### Глабалізацыя

З Паўлам Кірылёнкам, беларусам, што працуе ў Барселоне, мы сустрэліся непадалёк ад помніка Хрыстафору Калумбу. Павел падтрымлівае рух за незалежнасць і, распавядаючы пра каталонцаў, выкарыстоўвае займеннік «мы».

Мы ідзём скрозь шматнацыянальную чалавечую плынь на славутым каталонскім бульвары Ла Рамбла. Я заўважаю кагосьці ў вышыванцы і адразу ж губляю. Павел цікава распавядае пра гісторыю і архітэктуру, а мяне не пакідае думка пра плынь іншаземцаў на Рамбле: ці не яна ▶

### Каталонскія стравы

**Закуска «хлеб з памідорам»**: крыху падсмажаны белы хлеб націраецца часнаком, памідорам, паліваецца аліўкавым алеем ды крыху падсольваецца. Гэта — сімвал каталонскай кухні.

**Эскудэльја** — зімовы суп з некалькіх гатункаў мяса, каўбас, гародніны ды бабовых з макаронай.

**Буціфара** — свіная каўбаска на грылі. Увогуле, тут вельмі любяць мяса на грылі (розныя гатункі, ад свініны ды ялавічыны да труса).

**Трынчат** — пірэнейская горная страва, таўканіца з бульбы ды капусты, перамяшаныя са шкваркамі ды крывянкай.



SHUTTERSTOCK.COM_BY FRANTICOO



### Самыя цікавыя мясціны Каталоніі па-за Барселонай

Варта наведаць гарады Жырона, Тарагона, Сітжас, Льейда, Вік. Сярэднявечныя мястэчкі: Рупіт, Палс, Безалу. Кадакес ды ўзбярэжжа Коста-Брава. Увогуле, каталонская правінцыя надзвычай цікавая.

▸ стала прычынай фарсу падчас рэферэндуму?

Глабалізацыя зрабіла Барселону моцнай, але разам з тым абмежавала. Нельга быць часткай эканамічных працэсаў Еўропы і ад іх не залежаць. У крытычны момант Мадрыд пагражаў каталонскаму бізнэсу, а Брусель даў зразумець, што Каталонія страціць месца ў Еўразвязе. Няўпэўненасць у магчымых наступствах прывяла да таго, што буйны бізнэс пачаў рабіць крокі па сыходзе з Каталоніі.

Жыхары Барселоны могуць самі абыходзіць шматлюдную Рамблу, але менавіта гэты натоўп турыстаў разам з глабалізацыяй прыносіць у Каталонію вялікія грошы. І гэта трэба ўлічваць, як і тое, што ў Каталоніі жыве значная частка выхадцаў з іншых частак Іспаніі. Таму, хоць вёска і правінцыя галасуюць за незалежнасць дзвюма рукамі, у двух самых буйных гарадах, Барселоне і Тарагоне, большасць выказваецца за захаванне статус-кво.

Але не варта забываць, што для прыхільнікаў незалежнасці барацьба — гэта працэс. Да таго ж і Мадрыд не дае расслабіцца. Пасля двух гадоў зацішша ў кастрычніку 2019-га

### Калі ў Каталонію лепш не ехаць

Пазбягайце жніўня. Ён тут жудасны: натоўпы турыстаў, спёка, чэргі, усё зачынена, усе мясцовыя на вакацыях.

Фантастычныя краявіды і дух

*Vall de Núria* — даліна Нурыі — даліна ў Пірэнеях на мяжы з Францыяй. Туды ходзіць горны цягнік-фунікулёр.



SHUTTERSTOCK.COM, BY GREGORIOA

Вярхоўны суд Іспаніі прысудзіў арганізатараў рэферэндуму да турэмнага зняволення, і канфлікт распачаўся з новай сілай.

Каталонцы робяць стаўку на негвалтоўны пратэст. Іспанія спадзяецца на тое, што час іграе на сілу эканамічнай прывязкі. ◆

Беларуска- і рускамоўны гід па Барселоне і Каталоніі Павел Кірылёнак: тэл. +34 66 486 14 14, пошта barcelonasecret@gmail.com, сайт barcelonasecret.com.

# Такія зоркі ззяюць там, дзе на іх глядзяць

**Пра славутага каталонскага мастака Жуана Міро расказвае мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі.**

## Не абстракцыя, а фігуратыўнасць

Творчасць Жуана (у іспанскім вымаўленні — Хуана) Міро трэба разглядаць у кантэксце таго, што пры ягоным жыцці адбывалася ў Еўропе. Міро меў магчымасць падоўгу жыць у Парыжы, які быў у той час сусветнай мастацкай лабараторыяй. Там ён пазнаёміўся з многімі славутымі мастакамі, ад якіх шмат чаму навучыўся і багата што пераняў. Асабліва сугучным Міро быў швейцарска-нямецкі мастак Паўль Клее. Ён сябраваў таксама з Пікаса і кубістамі. Але сам не быў чыстым кубістам, сюррэалістам, экспрэсіяністам, фавістам ці дадаістам. Ён меў свой непаўторны стыль.

Многія лічаць творчасць Міро поўнай абстракцыяй, але гэта не так. Сам мастак называў сваю творчасць фігуратыўнай. На яго карцінах — канкрэтныя фігуры, канкрэтныя вобразы і канкрэтны іх сэнс. І спроба мінімальнымі сродкамі стварыць максімум эмацыйнага ўздзеяння. Гэта гучыць як лозунг сучаснага мастацтва — і Міро сапраўды застаецца сучасным і сёння.

## Універсальны чысты першасвет

Ён стварыў свет, універсальны для розных узростаў. Нават дзеці яго разумеюць, хоць і па-свойму. У Музеі сучаснага мастацтва Стакгольма давялося некалі бачыць, як дзеці жыва рэагавалі на карціны Міро і бачылі ў іх нешта такое, чаго дарослыя ўжо не бачаць. Дарослыя ж, якія ўмеюць успрымаць свет праз прызму ірацыянальнага, таксама заўважаюць, што гэта паранейшаму свежа і дзіўна.

**Жуан Міро-і-Фера**

(1893–1983) — каталонскі мастак, скульптар, кераміст і графік. Нарадзіўся ў Барселоне ў сям'і гадзіннікавага майстра-ювеліра. Сярод найбольш вядомых карцін Міро — «Ферма» (1922), «Блакітнае» (1961), «Май 1968» (1973). Самыя вядомыя скульптуры — «Помнік жанчыне» ў горадзе Пальма-дэ-Маёрка (1972), серыя «Яго Вялікасць Кароль», «Яе Вялікасць Каралева» і «Яго Высокасць Прынц» (1974), «Міс Чыкага» (1981), «Жанчына і птушка» ў парку Жуана Міро ў Барселоне (1983, у суаўтарстве з Жуанам Гардзі Арцігасам).

Міро быў вельмі цікаўным чалавекам. Ён любіў прыроду і цікавіўся прыродазнаўчымі навукамі, якія ў ягоны час якраз былі на ўздыме. Да прыроды ў яго ўвогуле была проста-такі дзіцячая цікаўнасць першаадкрывальніка. Ён вельмі ўважліва разглядаў маленькія арганізмы, і гэта таксама тварыла яго мастацтва. На многіх ягоных карцінах і скульптурах можна бачыць кузурак, слімакоў і аднаклеткавых арганізмаў. Яны нагадвалі мастаку пра чысціню першасвету.

## Знайшоў сваю ружу

Па сваіх чалавечых якасцях Міро вельмі адрозніваўся ад такіх сваіх сучаснікаў, як Пабла Пікаса і тым больш Сальвадор Далі. ▶




**«Ферма», 1922 год (Міро было 29 гадоў).** Міро пісаў гэтую карціну 9 месяцаў, на ёй — родны дом сям'і мастака. Містычныя адносіны з роднай зямлёй сканцэнтраваныя ў гэтай карціне, напісанай у стылі наіўнага мастацтва. Яна нібы падводзіць вынік ранняга перыяду творчасці Міро. І жывёлы, і расліны, і прадметы быту — усё патрэбнае для жыцця селяніна — ёсць на гэтым палатне, усё нібы з карцін народных мастакоў. І гэтыя колеры, гэтае каталонскае святло. Карціну купіў у Міро Эрнест Хемінгуэй, а яго ўдава падарыла яе Нацыянальнай мастацкай галерэі Вашынгтона.

Ён быў вельмі мяккі і душэўны, без найменшых прэтэнзій на абсалютную ісціну і эксцэнтрычнасць.

Анры Маціс казаў, што для сапраўднага мастака няма нічога цяжэйшага, чым намаляваць ружу. Бо перадусім творца мусіць забыцца, як гэта рабілі да яго, а гэта не кожнаму дадзена. Міро ж — якраз такі мастак, які, добра ведаючы творчасць папярэднікаў і сучаснікаў, імкнуўся рабіць усё па-свойму. У эпоху, калі адначасова існавалі ўсе магчымыя і немагчымыя стылі, знайсці сваю ружу сярод кубістаў, сюррэалістаў, абстракцыяністаў і намаляваць яе так, як ніхто з іх не маляваў, было праўда цяжка. Але Міро ўдалося.

### Любіў Каталонію, і гэта ўзаемна

Жуан Міро быў гарачым патрыётам Каталоніі і сябраваў з многімі дзеячамі каталонскага нацыянальнага руху. Нават ягоны подпіс — каталонскамоўны. Маючы шмат магчымасцяў для таго, каб пасля вайны застацца ў Францыі ці выехаць за акіян, ён усё адно вярнуўся ў родную Каталонію.

Творчая спадчына Міро — вельмі значная, і ягоныя працы ёсць цяпер у дзясятках музеяў



**«Аўтапартрэт», 1919 год (Міро было 26 гадоў).** Гэтая выява напісаная пад уплывам раманскіх фрэскаў Каталоніі з дадаткам гамеапатычных дозаў кубізму. Сам Міро быў чалавекам выключнай працавітасці, мяккім і душэўным. І на гэтым аўтапартрэце ўсё закругленае, мяккае, цёплае, няма ніводнай агрэсіўнай дэталькі.



SHUTTERSTOCK.COM, BY HIERONYMUS UKKEL



SHUTTERSTOCK.COM, BY TONIFLAP

**«Dona i ocell» («Жанчына і птушка»), 1983 год. Адна з апошніх прац Міро.** Яму было 90 гадоў, калі яе адкрылі. Гэта манументальная 22-метровая скульптура з бетону, пакрытага яркай керамікай. Называецца яна «Жанчына і птушка», але *ocell* па-каталонску значыць не толькі «птушка», але, у пераносным сэнсе, таксама «мужчынскі орган». Сапраўды, калі глядзець з аднаго боку, мы бачым вобраз жанчыны, адтуліны яе органа. А калі глядзець з другога боку, нам гэта нагадвае нешта іншае. І ўсё ж ва ўсёй скульптуры няма нічога вульгарнага, нават эратычнага. Гэта проста архетыпы мужчынскага і жаночага, жыццёвай сілы, жыццёвага пачатку. А зверху — ці то маладзік, ці то птушка, якая рвецца ў неба. Невынішчальнае жыццялюбства.

Еўропы. Але сам збіраць свае творы яшчэ пры жыцці ён пачаў менавіта ў Каталоніі. Сёння ёсць два самыя значныя цэнтры памяці Жуана Міро — у Барселоне і на востраве Маёрка. Мастаку дапамаглі іх пабудаваць сябры.

У творчым жыцці Міро быў шчаслівы. У яго біяграфіі няма характэрнай для многіх творцаў гісторыі пра доўгае непрызнанне, ігнараванне. Да яго прызнанне прыйшло яшчэ пры жыцці. Землякі свайго генія вельмі палюбілі, замаўлялі яму распісваць муніцыпалітэты. Ён здолеў стварыць на радзіме дзясяткі шэдэўраў, з якімі выраслі пакаленні каталонцаў. І яны ўсведамляюць важнасць Міро для сваёй радзімы. ◆

**Запісала Іна Хоміч**



**«Надзея прысуджанага да смерці», 1974 год (Міро быў 81 год).** Гэта частка трыпціха, гэта значыць трох карцін, напісаных разам. «Па жахлівым прароцкім супадзенні я скончыў гэтую карціну ў той самы дзень, калі яны пакаралі смерцю на гароце беднага маладога каталонскага нацыяналіста Сальвадора Пуіга-і-Антыха». Гарота — гэта інструмент для ўдушэння чалавека вяроўкай. Перарваная лінія акружнасці — гэта перарванае жыццё. Лінія адкрытая, нібы пытанне без адказу.



**«Блакітны» вознік у арэоле славы.**
Рымская мазаіка IV стагоддзя з Іспаніі.
Нацыянальны музей археалогіі, Мадрыд.

# *RUSSATA, ALBATA, PRASINA* і *VENETA*

## Спартыўныя жарсці ў Старажытным Рыме

**«О спорт, ты — мір», сказаў П'ер дэ Кубертэн. Такую наіўнасць заснавальніку алімпійскага руху, здавалася б, можна даравацъ: усё-такі на яго вачах не разгараліся адзін за адным допінгавыя скандалы. Але ад душы парагаталі б з пацыфіста Кубертэна і ў Старажытным Рыме. Пра папулярныя тады конныя спаборніцтвы і атмасферу, што іх суправаджала, апавядае гісторык Аляксей Казленка.**

### У гонар Марса

Як заўсёды ў вялікім спорце, усё пачыналася з аматарства. Рымскія арыстакраты проста хацелі выказаць пашану багам і павесяліцца. Так, у эпоху Ромула (VIII стагоддзе да н. э.) з'яўляюцца першыя скачкі ў гонар бога Марса, якія ладзіліся 24 лютага і 14 сакавіка. Месцам іх правядзення было Марсава поле — вузкая выцягнутая даліна Мурцыі ў Рыме. Арыстакраты проста бралі сваіх коней і ганялі навыперадкі, хто як мог і ўмеў. Стараліся ўдзельнічаць усе багатыя роды: гонкі лічыліся прэстыжнымі.

Пасля арыстакратаў усё больш і больш цікавіў выйгрыш, а не проста ўдзел. Звычайных коней замянілі хуткія пароды, якіх вырошчвалі на спецыяльных заводах. У возніке таксама пачалі браць прафесіяналаў. Звычайна гэта былі адчайныя нявольнікі, якія рызыкавалі жыццём, каб выйграць грошай і купіць сабе свабоду. Самыя паспяховыя з іх ператвараліся ў багацеяў.

А паколькі ўкладанні ў відовішчны спорт раслі, то не хацелася і чакаць, калі наступяць два дні марсавых спаборніцтваў. І вось у III–II стагоддзях да н. э. калясні̇чныя перагоны адбываліся ўжо шэсць разоў на год. Пры імператару Аўгусце, на чыё кіраванне прыпала змена летазлічэння, налічвалася 17 штогадовых спаборніцтваў, а да сярэдзіны III стагоддзя ўжо нашай эры іх колькасць узрасла да 66.

## Старт заезду даваў імператар, падкідаючы сваю хусціну

Шматлікія заўзятары не маглі нарадавацца. Ледзь не кожны дзень можна было наведваць Вялікі цырк, які адмыслова для скачак паўстаў на Марсавым полі, і з захапленнем назіраць, як коні і людзі спаборнічаюць, падаюць, калечацца і мруць. Усе вольныя людзі дапускаліся да відовішча бясплатна, а вось нявольнікаў, калі яны не былі возні̇камі, у фан-сектар арэны не пускалі.

Вялікі цырк у Рыме быў перабудаваны да памераў, якія можна ўбачыць і цяпер: 621 метр у даўжыню і 80 метраў ушыркі. Акрамя таго, ён займеў драўляныя, а пасля мармуровыя трыбуны, на якіх маглі размясціцца ад 150 000 да 250 000 гледачоў седзячы (і прыкладна столькі ж стоячы), а таксама браму, праз якую на арэну выязджалі запрэжкі. Будаваліся падобныя іпадромы і ў іншых буйных гарадах імперыі. Сёння вядомыя 83 такія збудаванні, найбольшым за межамі Рыма быў іпадром у Канстанцінопалі.

Звычайная праграма скачак уключала 24 дзённыя заезды, у кожным з іх бралі ўдзел 12 запрэжаных чацвёркай калясніц. Кожны заезд складаўся з сямі колаў, сярэдняя яго працягласць складала прыкладна 15 хвілін.

Пасля праграму скарацілі да пяці колаў, каб павялічыць колькасць заездаў і запрэжак.

Старт заезду зазвычай даваў імператар, падкідаючы сваю хусціну. Па гэтым сігнале падымалася брама і разам рушылі запрэжкі.

Перамагаў той, хто рабіў усе колы па арэне і прыходзіў да фінішу першым.

Найбольш небяспечнай і захапляльнай часткай гонак было праходжанне ўдзельнікамі паваротнага слупа ў канцы іпадрома. Тут часта здараліся сутыкненні і крушэнні калясніц, калі фурманы спрабавалі вырвацца наперад і падрэзаць супернікаў. Правілы забаранялі наўмысны таран калясніцы суперніка, аднак падобныя парушэнні шырока практыкаваліся.

### У «Формуле-1» заробкі меншыя

Кожны фурман (*auriga*) — у той час, натуральна, гэта былі толькі мужчыны, — насіў вопратку колеру каманды. Торс, рукі і ногі абмотвалі рамянямі, галаву абараняў скураным шлемам. У адной руцэ фурман трымаў пугу, а ў другой — лейцы, якімі ён кіраваў канём.

Дзеля лепшага кантролю над коньмі паганяты звычайна накручваў лейцы на руку. Гэта было небяспечна, бо ў выпадку крушэння калясніцы ўпуджаныя коні маглі пацягнуць яго за сабой. Таму возні̇к заўсёды браў з сабой востры нож, якім ён мог хутка рассячы зблытаныя рамяні. Часам гэта дапамагала ▸

захаваць жыццё, аднак увогуле каляснічныя перагоны лічыліся вельмі небяспечным відам спорту. Нярэдка вознікі гінулі пры няўдалым падзенні або на ўсё жыццё заставаліся інвалідамі.




**Вялікі цырк у Рыме**, сучасная рэканструкцыя.

## Апулей Дыёкл за жыццё зарабіў на калясніцы 36 мільёнаў сестэрцыяў, што цяпер прыкладна адпавядае 15 мільярдам долараў

Зрэшты, цана поспеху таксама была высокая. Прызы найбольш удалых і папулярных вознікаў

Надмагільны надпіс з Прэнэстэ (Італія) падрабязна асвятляе жыццё і кар'еру прафесійнага возніка Гая Апулея Дыёкла. Ён нарадзіўся ў 104 годзе н. э. у Іспаніі, пачаў выступаць на арэне з 18-ці гадоў. Набыўшы шырокую вядомасць, перабраўся ў Рым, дзе зрабіў галавакружную кар'еру. Напачатку ён выступаў за «белых», праз шэсць гадоў перайшоў у каманду «зялёных», а яшчэ праз тры гады — у каманду «чырвоных». У адстаўку ён выйшаў у 42 гады, для настолькі рызыкоўнай прафесіі гэта была надзвычай доўгая кар'ера. За сваё жыццё ён узяў удзел у 4 257 гонках, атрымаў 1 462 перамогі і зарабіў 35 863 120 сестэрцыяў (каля 15 мільярдаў долараў у сённяшнім эквіваленце). Гэта робіць яго найбольш высокааплатным спартоўцам у гісторыі чалавецтва.

былі надзвычай высокімі. Гай Светоній, пісьменнік і гісторык, сведчыць, што імператар Калігула, вялікі аматар каляснічных перагонаў, аднойчы падарыў возніку-пераможцу 2 мільёны сестэрцыяў. І гэта быў аднаразовы ганарар!

Нейкі Апулей Дыёкл за сваё жыццё здолеў зарабіць на калясніцы амаль 36 мільёнаў сестэрцыяў, што ў пераліку на сённяшнія рэаліі прыкладна адпавядае 15 мільярдам долараў. У сённяшніх пілотаў «Формулы-1» заробкі меншыя.

І гэта быў сапраўды прафесійны, добра наладжаны спорт. Арганізатар скачак звяртаўся да прафесійных аб'яднанняў, якія займаліся пастаўкамі коней, адбіралі і навучалі вознікаў, здавалі ў арэнду калясніцы і іншае тэхнічнае абсталяванне, наймалі конюхаў і вартаўнікоў для працы ў стойлах. Гэтыя ж адмыслоўцы, як правіла, займаліся пошукам мастакоў — для вырабу афіш; паэтаў і музыкаў — для складання і выканання куплетаў; акрабатаў, блазнаў і танцорак — для забавы гледачоў.

Усяго за часы Старажытнага Рыма існавалі чатыры аб'яднанні-канкурэнты, якія называліся па колерах камандных стойлаў у цырку, — «чырвоныя» (*russata*), «белыя» (*albata*), «зялёныя» (*prasina*) і «блакітныя» (*veneta*). Іх кіраўнікі павінны былі вырашаць канфліктныя сітуацыі і падтрымліваць парадак сярод заўзятараў на трыбунах.

## Вознік заўсёды браў з сабой востры нож

Калі з часам арганізацыя цыркавых гульняў, як і гладыятарскіх спаборніцтваў, стала манаполіяй імператара, гэтыя аб'яднанні набылі афіцыйны статус, а іх кіраўнікі ператварыліся ў службовых асоб, якія пачалі атрымліваць казённы заробак за сваю працу. Іх дзейнасць старанна

кантралявалася фінансавым ведамствам. У Кодэксе Феадосія, прынятым у 438 годзе, можна знайсці імператарскія ўказы, якія тычацца нават такіх пытанняў, як мянушкі коней, склад і колькасць іх кармоў, тэрмін службы і гэтак далей.

### «Зялёныя» супраць «блакітных»

Таксама, як гэта адбываецца ў сучасным спорце, у імператарскую эпоху вакол камандаў пачалі складацца аб'яднанні заўзятараў, якія апраналіся ў колеры каманды, пляскаиннем і крыкамі падтрымлівалі выступы сваіх улюбёнцаў на арэне і ва ўсім канкурыравалі з прыхільнікамі іншых камандаў. Паступова «цыркавыя партыі» ператварыліся ў магутныя арганізацыі, пад іх кантролем знаходзіліся асобныя гарадскія кварталы, у іх былі свае храмы, майстэрні і стайні.

У жыцці сталіцы ўплыў гэтых партый выходзіў далёка за рамкі спаборніцтваў. Яны мелі ўласных лідараў і палітычныя праграмы, паміж партыямі існавалі значныя рознагалоссі па эканамічных і рэлігійных пытаннях.

Нярэдка да ліку заўзятараў належалі нават імператары, якія звычайна падтрымлівалі «зялёных».

Апазіцыя, у сваю чаргу, гуртавалася, як правіла, вакол «блакітных». Менавіта гэтыя дзве каманды карысталіся найбольшай папулярнасцю сярод гледачоў.

Ва ўмовах паступовага ўзмацнення самадзяржаўя цырк і арэна спаборніцтваў заставаліся адзіным месцам, дзе партыі заўзятараў маглі свабодна выказваць свае патрабаванні асабіста імператару. Для яго, у сваю чаргу, такога роду зносіны з народам з'яўляліся адным з апошніх элементаў публічнасці ягонай улады.

Нярэдка адносіны паміж партыямі цырка дасягалі такой ступені вастрыні, што ператвараліся ў сапраўдныя бітвы на вуліцах горада.

**Арэна спаборніцтваў заставаліся адзіным месцам, дзе партыі маглі свабодна выказваць свае патрабаванні асабіста імператару**

Апагею гэты канфлікт дасягнуў у час паўстання «Ніка» ў 532 годзе ў Канстанцінопалі. Абедзве найбуйнейшыя партыі аб'ядналі намаганні, накіраваўшы іх супраць імператара Юстыніяна. На некалькі дзён сталіца перайшла пад іх кантроль. Горад быў ахоплены пажарам, імператар замкнуўся ў сваім палацы і сур'ёзна думаў пра ўцёкі. На піку гэтых беспарадкаў імператарскаму скарбніку Нарсэсу ўдалося падкупіць правадыроў «блакітных», якія звялі сваіх людзей з іпадрома. На тых, хто застаўся, з розных бакоў напалі войскі палацавай варты. Пад іх мячамі і ў агульнай цісканіне загінула больш за 30 000 чалавек. Гэтае кровапраліцце і спыніла закалот. Праз высылку і нават пакаранне смерцю прайшлі не толькі прадстаўнікі простага люду, але і нобілі, якія далучыліся да паўстання. Некалькі гадоў у памяць пра здарэнне спаборніцтвы на іпадроме не праводзіліся.

Каб уявіць сабе рымскія гонкі на калясніцах, паглядзіце культавы фільм рэжысёра Уільяма Уайлера **«Бен-Гур»**. Яго галоўныя героі, два даўнія ворагі Бен-Гур і Месала, драматычна і відовішчна зводзяць на цыркавой арэне даўнія рахункі.
«Бен-Гур» версіі 1959 года дагэтуль лідзіруе (у кампаніі з «Тытанікам» і «Валадаром пярсцёнкаў») па колькасці намінацый прэміі «Оскар» — іх у яго 11.
Суполка «Кінаконг» агучыла відовішчны фільм па-беларуску. Глядзіце трэйлер па к'юар-кодзе:



### Розумам не зразумець

На час правядзення конных гонак рымляне толькі імі і жылі. Ды нават і ў перыяд паміж спаборніцтвамі фанаты намагаліся даведацца, што новага адбылося ў любімых зоракВознікаў і камандаў. Конюхі станавіліся жаданымі гасцямі ў заможных дамах, калі прыносілі свежыя навіны з жыцця вялікага спорту. Вознікаў-пераможцаў насілі на руках. Вознікаў, што перайшлі ў іншы клуб, маглі пабіць на вуліцы.

Суседзі рымлян, старажытныя грэкі, не маглі зразумець, як можна быць настолькі апантанымі спортам: траціць на стаўкі вялізныя грошы і блізка да сэрца прымаць перамогі і пройгрышы камандаў.

Дзівакі тыя старажытныя грэкі. Быццам не ведалі, што першым ідзе хлеб, але другім — відовішчы. ◆

# Аўсяны кісель і варыяцыі на тэму

**Ён можа быць мясным ці вегетарыянскім, пікантным і салодкім, будзённым ці пададзеным святочна. У любым выглядзе і пад любой рэгіянальнай назвай мы пазнаем зімовую страву нашых бабуль — аўсяны кісель.**
**Піша Іна Хоміч.**



Пакаштаваць аўсяны кісель можна непасрэдна на аграсядзібе «Валерыя». Уся інфармацыя пра яе тут: **Auvaleria.blogspot.com.by**

Выгляд у гэтай ежы малаапетытны. Шэра-бэжавы колер, незразумелая кансістэнцыя — сучасныя людзі такога гідзяцца. Але гурманы запэўніваюць: паспрабаваць варта!

**«Музя»**

Найбольш папулярны посны варыянт. Аўсяныя шматкі заліваюць вадой і настойваюць з дражджамі, пасля адцэджваюць і падаграюць.

Хто хоча, на смак дадае кіслінку — напрыклад, воцат. Але гэта неабавязкова.

Такі кісель лёгка ператвараецца ў скаромны — да яго проста дадаюць смажаныя скваркі ці дробна парэзаную каўбасу.

Але можна замарочыцца ды зрабіць яшчэ больш аўтэнтычна. Напрыклад, камянецкі краязнаўца **Андрэй Асташэня** не так даўно маляўніча апісаў у фэйсбуку драматычны сюжэт прыгатавання сямейнай стравы:

«Хто ад выгляду гэтага месіва яшчэ не страціў прытомнасць, падрыхтуйцеся — я пагружу вас у бабулін свет. Кіслы пах, які на 5 сантыметраў уеўся ў глыбіню драўляных сцен — гэта ўсё ён, жур — аўсяны кісель. Пакуль рыхтуецца рошчына, усе дзеці ў доме абыходзяць гэтае месца, як каты сабачую будку. Але калі пачынаюць варыць цэжу*, ператвараючы яе ў кісель, дзеці, як мухі ад дыхлафосу, падаюць на падлогу. Хто мацнейшы — хаваецца пад плінтус, затыкаюць

* **Цэжа** — адцэджаная рошчына кісялю.


**Аўсяны жур** у выкананні Андрэя Асташэні.

насы падушкамі. Дарослыя ж з садысцкім задавальненнем працягваюць свае магічныя пасы, прытанцоўваючы ў чаканні смачнага варыва.

На наступную раніцу, калі музя* добра закісялілася, пачынаецца магія: цыбулька падсмажваецца на шмальцы, туды ж закінуць пальцам пхануюю каўбаску, крыху падкінуць маярану ці чабору і заліць усё журам! Водар дысануе: кісель і каўбаска яшчэ горш, чым лялечны мульцік. Але траплянне першай лыжкі журу ў рот выклікае той жа шквал эмоцый, што і разгляданне сабора Нотр-Дам-дэ-Пары не на карцінцы, а ў рэальнасці! Лялечны мульцік ператвараецца ў дыснееўскую «Фантазію».

Магчымы і веганскі варыянт, калі замест бабулінай каўбаскі падсмажваюцца пушчанскія белыя грыбочкі. Тады жур абвалаквае страўнік з падвойнай лагодай і карыснасцю.

У палякаў папулярная варыяцыя на тэму кісялю — журэк, сытны суп, у які могуць кінуць не сапраўдную рошчыну, а пшанічную муку з гурковым расолам дзеля кіслінкі».

У тым жа Камянецкім раёне ёсць **аграсядзіба «Валерыя»**. Гаспадыня сядзібы **Наталля Пракапук** захапляецца мясцовай кухняй і адаптуе яе пад патрэбы сённяшняга дня. На адным з пачэсных месцаў на стале ў «Валерыі» заўсёды стаіць і аўсяны кісель. Тут на яго аснове робяць кактэйль і сервіруюць у келіхах. Упрыгожваюць сезоннымі ягадамі ці мятай.

Наталля Пракапук дзеліцца з чытачамі «Нашай гісторыі» рэцэптам аўсянага кісялю на аснове рошчыны.

* **Музя** — рэгіянальнае слова, якое абазначае штосьці кісельнай кансістэнцыі, густае, раскіслае, вязкае.

**Для рошчыны:**
- 4 літры вады
- 500 г аўсяных крупаў

**Для аўсянага кактэйлю:**
- 500 мл гатовага кісялю
- 200 мл 20-працэнтных вяршкоў
- 3 сталовыя лыжкі мёду
- 0,5–1 чайная лыжка карыцы

*(мёд і карыцу можна замяніць ягадамі, іншымі прыправамі на кожны густ)*

**Гатуем кісель**

У гарачую ваду (60–70 градусаў) дадаць змолатае зерне аўса. Пакінуць на 2–3 дні ў цёплым месцы для закісання. Улетку, калі горача, можа быць дастаткова і сутак. Рошчына будзе мець прыемны кіславаты пах.

Вадкасць адцадзіць праз некалькі слаёў марлі. Жмых выкінуць, а цэжа можа захоўвацца ў закрытым посудзе да 2 тыдняў.

Каб атрымаць кісель, рошчыну ставім на пліту і, пастаянна памешваючы, даводзім да кіпення. Чым лепшая якасць аўса, тым гусцейшы атрымаецца кісель.

**Гатуем аўсяны кактэйль**

У астуджаны кісель дадаць вяршкі, мёд, карыцу. Калі кактэйль атрымліваецца вельмі густы, можна ўліць крыху гатаванай вады. Падаваць халодным з мятай. ◆

А што гатуюць у вашай мясцовасці? Шліце нам рэцэпты на адрас **history@nn.by**, прапануйце, пра якія стравы напісаць.

# «Дзе расце дзіванна — без пасагу панна»

**Самотная кветка, з якой раней рабілі напоі, мае багаты міфалагічны бэкграўнд, расказвае доктар гісторыі Алесь Белы.**

## Зевана, Дана ці Дзіванна?

У гарадзенскім маёнтку Каробчыцы ёсць рэстаран «Замак Зеваны». Як вынікае з рэкламы гэтай установы, ён названы ў гонар агульнаславянскай багіні палявання. Прыгожы вітраж з выявай маладой жанчыны аздабляе высокую залу рэстарана. Усё шыкоўна. Адно толькі рэжа вуха гэтае імя. Няўжо сапраўды Зевана?

Непараўнальна часцей сустракаецца іншае, хоць і падобнае па гучанні імя — Дзіванна. Гэта меркаваная славянская багіня, якую сённяшнія міфолагі рэканструявалі на падставе фальклорных згадак і паведамленняў даўніх польскіх храністаў. Тыя атаясамлівалі Дзіванну з рымскай Дыянай і грэцкай Артэмідай — багінямі палявання. Адтуль і пайшло меркаванне, што славянская Дзіванна таксама была апякункай паляўнічых. Хоць гэта толькі версія, зусім не факт.

З таго, што мы ведаем праз рэлікты гэтага культу ў славянскім свеце, Дзіванна апекавалася лясамі і раслiннасцю ўвогуле. Дбала пра жыццёвую сілу і здароўе. Магчыма, асабліва пра жаночае рэпрадуктыўнае здароўе, а адпаведна, і пра каханне.

### «Мядзведжае вуха», «панна-дзіванна», дзівена, каравяк…

Дзіванна (лац. Verbascum, вядомая ў нас таксама пад назвай «каравяк») — род высокіх (50–150 см) двухгадовых раслін з жоўтымі кветкамі. Іншыя яе беларускія назвы: «мядзведжае вуха», «панна-дзіванна», дзівена, касмак, лісяк, трава касматая, каўтунічнік, шальнік. Мае моцнае сцябло, пакрытае попельна-белым лямцавым апушэннем. Шырока распаўсюджаная ва ўмераным клімаце Еўразіі і ў Паўночнай Афрыцы. Селіцца пераважна ў неўрадлівых месцах, быццам старанна пазбягаючы канкурэнцыі іншых раслін: на камяністых схілах, у стэпах, на сухіх лугах, на пясках, на ўзбочынах дарог. Адсюль паходзіць даўняя прыказка: «Дзе расце дзіванна — без пасагу панна». Бо дзе расце дзіванна — там нават жыта не вырасце.
У вядомай аповесці Элізы Ажэшкі «Хам» Павел упершыню спрабуе абняць Франку ў зарасніку дзіванны. Падаецца, што Ажэшка, вялікая аматарка зёлак і іх міфалогіі, свядома ўжыла гэты сімвалізм, прадбачачы будучы лёс герояў: дзяўчына без пасагу і, як пазней высвятляецца, без неабходных для добрай жонкі цнотаў на фоне зарасніку травы, якая прарочыць беднасць і няшчасце.


SHUTTERSTOCK.COM, BY KUTTERIMAGES

## Дзіванна і Цэрэра

Багіню Дзіванну міфолагі рэканструявалі гіпатэтычна, засноўваючыся перадусім на паведамленні польскага храніста XV стагоддзя Яна Длугаша ў ягонай «Гісторыі Польшчы». Ён пісаў: «А раз дзяржаве лехітаў давялося ўзнікнуць на абшары, дзе растуць неабсяжныя лясы і гаі, пра якія старажытныя верылі, што засяляе іх Дыяна і што Дыяна бярэ на сябе ўладу, а Цэрэра лічылася маці і багіняй ураджаяў, багацце якіх патрэбна краіне, дык такім чынам гэтыя дзве багіні: Дыяна, якая на [нашай] мове называецца Дзіванна, і Цэрэра, якая называецца Мажанна — шанаваліся асаблівым культам і пакланеннем».



Вітраж у «Замку Зеваны» ў Каробчыцах.

ФОТА ТАЦЦЯНЫ КАЛМЫКОВАЙ, GALYNAKALMYKOVA.BLOGSPOT.COM

Хоць і гэта толькі гіпатэтычна, бо фальклорныя звесткі, што да нас дайшлі, урыўкавыя і супярэчлівыя. Сучасныя ўкраінскія даследчыкі схіляюцца да меркавання, што галоўнае імя багіні было Дана і што яна была захавальніцай рэк, ручаёў і азёраў. Ад чаго быццам бы і паходзяць назвы кшталту Д[а]няпро, Дон, Дунай, Д[а]нестр. Даволі спрэчнае атаясамленне, якое не пацвярджаецца ні беларускім, ні польскім матэрыялам.

Але мы толькі падкрэслім, што як апекаванне паляўнічымі не выглядае асноўнай функцыяй багіні, так і варыянт імя Зевана — нетыповы. Пачатковае «з» хутчэй сустракаецца як рускамоўная адаптацыя польскага і беларускага «дз».

Абраўшы не самы распаўсюджаны варыянт імені, уладальнікі рэстарана ў Каробчыцах быццам абрэзалі і ўласна беларускія карані, і доўгі шэраг старадаўніх сэнсавых асацыяцый.

А заадно абсеклі міфалагічную сувязь Дзіванны з прыгожай жоўтай кветкай нашых палёў.

### Панна, у якой прасілі здароўя

З даўніх часоў прасочваецца традыцыя атаясамлівання Дзіванны-багіні з аднайменнай раслінай. У антычнасці верылі, што дзіванна адпужвае злых духаў. Адысей ратаваўся ад чараў Цырцэі, спальваючы яе сцёблы. А ў сучаснай Літве існуе звычай запальваць ад іх пахавальныя свечкі, бо сухія сцёблы дзіванны вельмі добра гараць.

Пра выкарыстанне сцёблаў або лісця «панны» ў якасці кнотаў

**Яўгенія Лукашэвіч кажа, што яе бабуля апраналася ва ўсё белае і «хадзіла рваць нейкую панну»**

для свечак або лучыны пісаў ва «Успамінах з Валыні, Палесся і Літвы» пісьменнік XIX стагоддзя Юзаф Ігнацы Крашэўскі. Існуе таксама гіпотэза, быццам вядомы звычай асвячэння і запальвання ►

грамнічных свечак паходзіць яшчэ з паганскіх часоў і мае непасрэднае дачыненне да культу Дзіванны. Маўляў, хрысціянства пазней адмыслова прызначыла на дзень шанавання гэтай багіні ў лютым свята Грамніцы (Стрэчанне), каб замясціць паганскі культ хрысціянскім культам Маці Божай. Цяжка сказаць, ці менавіта так было ў выпадку Грамніц, але сапраўды сляды змагання царквы з культам «багіні-панны» і замяшчэння яго культам Дзевы Марыі ў рэліктах народнай абраднасці праглядаюцца.

Тут я хачу падзякаваць этналінгвістцы Таццяне Валодзінай, якая падзялілася некалькімі этнаграфічнымі запісамі, дзе згадваецца магічная расліна. Вось, напрыклад, апісанне замовы, зробленае фальклырыстамі ў 1984 годзе ў вёсцы Харомск Столінскага раёна: «Як от бувае дзіця малэе да тако худзенько, то клалі да купалі его ў гэтом зіллі, да як ёго купаюць, то кладуць хлеб і грошы, але ўродзе плоцяць і говораць: "Панна Дыванна, прошу вашэй імосці, штоб далі мяса на косці"». Тут добра бачна, што выздараўленне чакаецца не так ад ужывання расліны як лекавага сродку, як ад самога звароту да звышнатуральнай існасці «панны-дзіванны».

Запіс з вёскі Смыковічы Акцябрскага (калісьці Рудабельскага) раёна толькі дапаўняе карціну пакланення кветцы-багіні. Жанчына 1929 года нараджэння, Яўгенія Лукашэвіч, распавядае, што яе бабуля хадзіла — апрануўшыся ва ўсё чыстае, у падвязаным белым фартушку, — рваць «нейкую панну». А прыйшоўшы на месца, прыгаворвала: «Панна, панна, я прыйшла цябе не рваць, а ў цябе здароўя прасіць».




**Альбрэхт Альтдорфер. Купанне Сусанны. 1526 год.** У правым верхнім куце бачная высокая расліна, у якой пазнаецца дзіванна. Магчыма, дадатковы намёк на жаночую існасць. І ці не ў яе адвары прымае ванну Сусанна?

Так што культ багіні Дзіванны праз наданне магічных уласцівасцяў аднайменнай расліне быў некалі даволі моцны, калі яго сляды можна сустрэць і сёння.

### Настоі на ўсе выпадкі

Але ў штодзённым жыцці нашых продкаў дзіванна-расліна грала не толькі сімвалічную, але і гаспадарчую ролю. Самае вядомае яе выкарыстанне, якое дайшло і да нашых дзён, — як лекавай гарбаты, радзей настойкі.

Адвар або спіртавы настой з розных відаў дзіванны — традыцыйныя народныя лекі, вядомыя ў многіх народаў ужо не адну тысячу гадоў. Перш за ўсё імі лячылі кашаль, астму

і іншыя захворванні органаў дыхання. Акрамя гэтага, народная медыцына прыпісвае дзіванне ўласцівасць дапамагаць ад хваробаў страўніка, апёкаў і іншых пашкоджанняў скуры.

Пакуль у сярэдзіне XIX стагоддзя масава не распаўсюдзіўся чай з Кітая і Індыі, адвар дзіванны быў адным з самых папулярных напояў на землях Беларусі і Літвы. Панна Саламея з сатырычнага апавядання пісьменніка XIX стагоддзя Ігнацыя Ходзькі «Самавар» пераконвала свайго бацьку-рэтраграда не адставаць ад моды і перайсці з дзіванны на чай: «Ах! Самавары, папуню, самавар і чай: гэта ж паўсюль п'юць гарбату зранку і ўвечары нават, а мы адны толькі ліпавым цветам і *дзіваннай* душыцца мусім. Папа, далібог мусіш купіць самавар».

Кветкі дзіванны ўтрымліваюць эфірны алей з мядовым водарам, таму ў яе адвар дадавалі мёд, каб падкрэсліць гэты водар, а таксама рабілі адмысловы «мёд» з цукру і кветак дзіванны.

Пры прыгатаванні адвараў з дзіванны ёсць адна важная асаблівасць. Паколькі ўся расліна густа пакрытая цвёрдым пушком, то настой ці адвар кветак трэба старанна працадзіць праз некалькі пластоў марлі, каб выдаліць драбнюткія валасінкі, здольныя выклікаць раздражненне страваввода і страўніка. Жывёлы, дарэчы, ведаючь пра гэтую непрыемную ўласцівасць дзіванны, таму яе не ядуць. Магчыма, што ў тым ліку і тое, што жывёлы дзіванну не елі, здаўна ўражвала нашых продкаў і наводзіла на думкі пра магічныя ўласцівасці самотнай расліны.

## «Прашу тваёй мілосці, дай цела на косці!»

Вось як апісваў абрад лячэння дзіцячай хваробы пры дапамозе ванны з адвару дзіванны этнограф XIX стагоддзя Павел Шэйн: «Узяць скібку хлеба, пасыпаць яе соллю і пайсці на тое месца, дзе расце трава дзіванна. Падысці да яе, прачытаць тры разы “Багародзіцу”, пакланіцца тры разы і сказаць: “Дзіванна, дзіванна, святая панна, прашу тваёй мілосці, дай цела на косці, а не то — прымі да сваёй мілосці”. Потым трэба выкапаць траўку, а на гэта месца пакласці прынесеныя хлеб-соль. Выкапаную дзіванну варыць у гаршку кветкамі ўверх, а карэннем уніз. У гэтай вадзе купаць дзіця, прыклаўшы кветкі да яго галоўкі, раз на дзень, на золку, пасля чаго ваду з травой аднесці на тое месца, адкуль яна выкапана, пасадзіць яе там і, замацаваўшы як след у зямлі, уліць туды і ваду».

У гэтым абрадзе добра бачны царкоўны ўплыў, імкненне замясціць вобраз паганкі Дзіванны вобразам Маці Божай.

5 Katalog nasion pewnych i świeżych; znajdujących się w ogrodzie P. Strumiłły w Wilnie roku 1832 do sprzedania.

| Nasiona ogrodowe na paczki i łóty | | kop. sreb. |
|---|---|---|
| Majoran | | 2 |
| Dziewanna | | 10 |
| Melissa | | 10 |
| Cząber | | 10 |
| Hizop | | 10 |
| Pomidory | | 10 |
| Kierwel | | 10 |
| — francuzkie białe cukrowe | ditto | 10 |
| Groch cukrowy ranny | ditto | 15 |
| — cukrowy holęderski wielki | ditto | 15 |
| — zielony kaparowy | ditto | 15 |
| — złoty, *Golderbsen* | ditto | 15 |
| — wielki kapucyński | ditto | 15 |

**Насенне дзіванны і іншых раслін на продаж** у славутым Садзе Юзафа Струмілы ў Вільні. Рэкламная абвестка з газеты «Кур'ер літэўскі», 1832 год.

Ужывалі «панну» і ў народнай касметалогіі. Задоўга да вынаходніцтва сучасных шампуняў дзяўчаты мылі адварам дзіванны валасы — яна асвятляе іх і надае бляск. Паводле адной з гіпотэз, дарэчы, гэты бляск, ды і сам бліпчасты выгляд жоўтых кветак у пік летняй спёкі, на які людзі «дзівіліся», і даў дзіванне яе назву: ад індаеўрапейскага ▶



WENEDA.NET

**Панна Дзіванна** ва ўяўленні сучаснага польскага мастака Казіміра Пяркоўскага.

▶ караня *diviti (dei-u̯-, di-u̯) — «бліШчаць», «свяціцца», «ільсніцца», «дзівіць».

Вось такі пласт сэнсаў хаваецца за незаўважнай сучаснаму гарадскому чалавеку раслінай.

### Адвар з дзіванны

1 сталовую лыжку сушаных кветак дзіванны заліваем шклянкай кіпню, настойваем ад паўгадзіны. Піць 2 разы на дзень па паўшклянкі, дадаючы мёд.

### «Мёд» з дзіванны

Свежасарваныя кветкі пластамі перасыпаюць карычневым цукрам. Слоік пакідаюць на некалькі дзён, затым старанна працэджваюць праз некалькі столак марлі. Можна трымаць у халадзільніку каля двух тыдняў.

## Настой кветак трэба старанна працадзіць праз некалькі столак марлі


SHUTTERSTOCK.COM, BY MADELEINE STEINBACH

Гарбата з дзіванны.

Дзіванна вартая таго, каб трапіць у «раслінны пантэон» Беларусі і стаць нашым знакавым вобразам. ◆

SHUTTERSTOCK.COM, BY ENCIERRO

Жанчына збірае дзіванну.

# Падарожжа гродзенскай Верхняй царквы

У канцы лістапада на Старым замку ў Гродне адбылася цікавая падзея. Рабочыя кранам перанеслі ў іншае месца гісторыка-культурную каштоўнасць — фрагменты так званай Верхняй царквы. Частка апсіды, унутраныя апорныя слупы і фрагменты сцен храма былі перанесеныя з-пад сценаў Старога замка бліжэй да месца іх першапачатковай знаходкі — прыкладна ў цэнтр Замкавай гары.

Менавіта тут у 1933 годзе іх адкапаў гродзенскі гісторык, дырэктар мясцовага музея Юзаф Ядкоўскі. Тады даследчык трапіў на рэшткі адразу дзвюх святыняў: царквы часоў Гродзенскага княства і больш позняга храма часоў Вялікага Княства Літоўскага. Паколькі нічога не вядома пра тое, у гонар якіх святых гэтыя храмы былі асвечаныя, іх назвалі проста: Ніжняя (больш старажытная) і Верхняя (пазнейшая) цэрквы. І калі з даціроўкай Ніжняй царквы справа больш-менш ясная (недзе сярэдзіна XII стагоддзя), то наконт Верхняй царквы справа дасюль выглядае дыскусійнай.

Дыяпазон ацэнак часу ўзвядзення гэтай пабудовы вельмі шырокі. Напрыклад, аўтар кнігі «Старажытнае Гродна» археолаг Мікалай Варонін меркаваў, што царква (а магчыма, гэта была і каталіцкая капліца) паўстала недзе ў пачатковы перыяд уладарання вялікага князя Вітаўта, тады, калі на замку ўзводзіліся асноўныя мураваныя абарончыя збудаванні.




КРАЎЦЭВІЧ А. ГРОДЗЕНСКІ ЗАМАК. МІНСК, 1993.

Гродна XIV стагоддзя. Мастацкая рэканструкцыя Фёдара Селязнёва і Сяргея Харэўскага. **Верхняя царква — адзіны будынак пад чырвоным дахам за гарадской сцяной.**

У сваю чаргу Вітаўтас Левандаўскас, аўтар капітальнай манаграфіі «Гісторыя літоўскага мураванага дойлідства», агледзеўшы рэшткі святыні, прыйшоў да высновы, што яна складзена з цэглы, якая пераўзыходзіць па памерах старажытнарускую плінфу, але не адпавядае і стандартам сярэднявечнай гатычнай цэглы. Сістэма кладкі таксама не

**Апсіда** — аб'ёмная самастойная частка хрысціянскага храма ў выглядзе прамавугольнага, паўцыркулярнага ці шматграннага выступу ў сцяне, які замыкае прастору нефа. Апсіда прызначаная для размяшчэння алтара.

адпавядае кладцы самых старых мураваных аб’ектаў часоў Вялікага Княства: замкам у Лідзе, Медніках або ніжняму ярусу званіцы кафедральнага касцёла ў Вільні (гэтая званіца ўзнесена на старажытнай вежы Ніжняга замка літоўскай сталіцы).

Таму не выключана, што Верхняя царква паўстала намнога раней — у другой палове XIII стагоддзя, што робіць яе самым старым мураваным аб’ектам, які ўзнік на тэрыторыі ВКЛ і хаця б часткова захаваўся.

Святыня сапраўды ўнікальная і не мае ніякіх відавочных аналагаў. Храм быў невялікі — прыкладна 8,5 на 8,5 метры — і меў адну апсіду, падлога ў якой была выкладзена цэглай. Крыху пазней за асноўныя сцены былі змураваныя два слупы для падтрымкі скляпенняў, што сведчыць пра істотныя перабудовы храма, які, магчыма, пацярпеў ад ваенных дзеянняў.



**На пярэднім плане — апсіда Верхняй царквы.** 1930-я гады.

Каштоўнасць Верхняй царквы добра ўсведамлялі польскія даваенныя археолагі, напрыклад Здзіслаў Дурчэўскі. Святыню руліва закансервавалі, знялі (храм фактычна не мае падмуркаў) з Ніжняй царквы і перасунулі ўбок, накрыўшы маленькім павільёнам. Адбывалася гэта летам 1939 года, а наступныя восем дзесяцігоддзяў рэшткі Верхняй царквы праляжалі пад самай сцяной замкавага палаца.

Цяпер Стары замак цалкам пераўтвараецца ў будаўнічую пляцоўку. На месцы павільёна будуць ісці работы, таму Верхняй царкве прыйшлося ізноў змяніць сваю лакацыю. У планах музейшчыкаў і архітэктараў — захаваць і зрабіць даступнымі для наведвальнікаў Ніжнюю і Верхнюю цэрквы, княжацкі церам XII стагоддзя, рэшткі збудаванняў пазнейшага часу, стварыўшы экспазіцыю ў вялікім археалагічным павільёне. Гэта, аднак, даволі далёкая перспектыва, бо такія работы пачнуцца толькі пасля перабудовы ўласна палаца Старога замка, якая будзе працягвацца некалькі гадоў. ◆

**Андрэй Вашкевіч**







**Розныя гіпатэтычныя варыянты выгляду Верхняй царквы**, прапанаваныя даваеннымі польскімі спецыялістамі.



# Срэбны гадзіннік ад Паўла Бурэ

## З кішэні вясковага педагога

**У суровым XX стагоддзі беларускаму інтэлігенту было цяжка захаваць жыццё і свабоду пры ўсіх рэжымах, якія змянялі на нашых землях адзін аднаго. Былі, аднак, і такія, якім пашчасціла не толькі ацалець, але і пры кожнай уладзе вучыць дзяцей у школах. Пра пакручастую кар'еру свайго прадзеда расказвае Антон Рудак.**

Срэбны кішэнны гадзіннік фірмы Паўла Бурэ — адзінае, што засталося ў нашай сям'і на памяць аб жыцці майго прадзеда Рыгора Рудака да 1917 года. А вось з польскага часу дайшло і крыху дакументаў — яны, на шчасце, збераглiся ў яго асабістай справе, якую пасля вайны завялі ў Плiскай школе на Глыбоччыне, дзе прадзед працаваў.

Тады ж прадзед напісаў і аўтабіяграфію, у якой сцісла апісаў свой прафесійны шлях:

«Я, Рудак Грыгоры Георгіевіч, нарадзіўся 23.XI.1889 г. у вёсцы Цінаўка Астраўскога с/сав. Пліскага раёна ў сям'і серадняка. Бацька меў 8 га зямлі і нас шасцёра дзяцей. Па сканчэнні пачатковай школы я паступіў у Вілейскую настаўніцкую школу з трохгадовым курсам навучання. Гэтая школа не давала поўных правоў настаўніцкіх. Дзеля таго, па сканчэнні Вілейскай школы, я паступіў у Барунскую настаўніцкую школу, курс якой быў вышэйшы ад настаўніцкай семінарыі, і скончыў такавую ў 1909 г. Ад 1.X.1909 г. распачаў настаўніцкую працу. Першыя два гады працаваў у Ашмянскім павеце, а потым у сваім, Дзісненскім, — у Германавічах, Новым Пагосце і Верацеях да 1.III.1921 года. Тут праца настаўніцкая спынілася, бо я не валодаў польскай мовай. Ад 1.V.1925 г. зноў пачаў працаваць, але ўжо ў польскай школе і працаваў да 23.IV.1938 г. Ад гэтага часу да прыходу Чырвонай арміі быў на пенсіі, а ад 1.X.1939 г. да цяперашняга працую ў школе. У часе нямецкай акупацыі ў 1942 годзе быў звольнены з пасады, але потым зноў вярнулі ў школу. Два разы падвяргаўся вобыску жандармерыі і канфіскацыі маёмасці».

Пра тое-сёе настаўнік у афіцыйнай аўтабіяграфіі палічыў, аднак, за лепшае не згадваць. Перадусім у ёй не адлюстраваныя факты дарэвалюцыйнага навучання ў школе прапаршчыкаў і службы ў царскім войску. Дакументы за той перыяд прадзед знішчыў у 1939-м, захавалася толькі машынапісная копія пасведчання аб сканчэнні Барунскай царкоўна-настаўніцкай школы, дзе ён навучаўся ў 1906–1909 гадах і атрымаў у выніку званне настаўніка пачатковага вучылішча. У пасведчанні згадваецца, што Рудак за карыстанне казённай стыпендыяй абавязаны адслужыць настаўнікам па ведамстве праваслаўнага вызнання не менш за тры гады і два месяцы (як цяперашняе прымусовае размеркаванне). На копіі — клішэ натарыуса

**Рудак за карыстанне казённай стыпендыяй абавязаны адслужыць настаўнікам па ведамстве праваслаўнага вызнання не менш за тры гады і два месяцы (як цяперашняе прымусовае размеркаванне)**

Роберта Васілевіча Ашневіца з горада Таропец (сёння Цвярская вобласць Расіі), які пацвярджае яе адпаведнасць арыгіналу, ад 14 лютага 1917 года.

Наколькі можна меркаваць, гэтая копія была зроблена пасля навучання прадзеда ў школе прапаршчыкаў, калі яго накіравалі на вайсковую службу. Як выдатнік, ён меў права выбраць любое месца і палічыў за лепшае трымацца падалей ад фронту. Зрэшты, як мы ведаем, неўзабаве Руская імператарская армія перастала існаваць, і прадзед Рыгор вярнуўся да сябе на радзіму, якая засталася па заходні, польскі бок мяжы, праведзенай у Рызе ў 1921 годзе. Тут ён ажаніўся з маёй прабабкай Аленай, таксама настаўніцай. Але працаўладкавацца па спецыяльнасці ўдалося не адразу.

## Пропуск у школу ад «Прасветы»

Прадзед быў праваслаўным беларусам, ды яшчэ з унтэр-афіцэрскім чынам у расейскім войску, меў асабістае дваранства. Такіх у міжваеннай Польшчы ў сферу адукацыі стараліся не пускаць, слушна лічачы, што для эфектыўнай паланізацыі патрэбны іншыя кадры. Але, калі верыць савецкай працоўнай кніжцы, у 1925 годзе Рыгор Рудак ужо настаўнічаў у адной з беларускіх пачатковых школак у Вільні — іх там было тады аж восем, а выпускнікі маглі паступаць у славутую Віленскую беларускую гімназію.

Як жа такому чалавеку ўдалося ўсё ж такі ўладкавацца працаваць па спецыяльнасці, ды яшчэ мець магчымасць выкладаць па-беларуску? Доўгі час гэта было загадкай, але нядаўна краязнаўца з Глыбоччыны Кастусь Шыталь дапамог праліць святло на гісторыю прадзедавага працаўладкавання, звярнуўшыся да міжваеннай заходнебеларускай прэсы.

У лютым 1925 года віленская беларуская газета «Грамадзкі голас» згадала імя Рыгора Рудака ў спісе беспрацоўных настаўнікаў, зарэгістраваных кандыдатамі на беларускія настаўніцкія курсы таварыства «Прасвета». Арганізацыя гэта мусіла, па задуме яе стваральнікаў, скласці альтэрнатыву Таварыству беларускай школы, пра якое падрабязна пісаў Андрэй Вашкевіч ў № 3/2019 «Нашай гісторыі». «Прасвета» існавала пад крылом Тымчасовай беларускай рады (ТБР) — прапольскай грамадска-палітычнай арганізацыі, што ў сярэдзіне 1920-х падтрымлівалася польскімі ўладамі ў якасці супрацьвагі моцнаму тады беларускаму руху, настроенаму апазіцыйна ў дачыненні да Польшчы. Акурат друкаваным органам ТБР была і згаданая вышэй газета «Грамадзкі голас».



**Прадзед Рыгор**, прабабка Алена і дзед Алег у міжваенныя гады.

Улічваючы паланафільскі імідж «Прасветы», да арганізаваных ёй настаўніцкіх курсаў стаўленне многіх беларускіх дзеячаў было не надта прыхільнае: выказваліся засцярогі, што беларускімі яны будуць лічыцца толькі фармальна, а рэальна будуць польскімі. Арганізатары курсаў закіды «камунізуючых» крытыкаў без адказу не пакідалі, сцвярджаючы на старонках сваёй прэсы, што на іх трапілі выключна беларусы, прытым падкрэслівалася: сярод навучэнцаў нават няма ніводнага каталіка, адныя праваслаўныя.

Зрэшты, асабліва заглыбляцца ў тагачасныя ўнутрыбеларускія спрэчкі мы тут не будзем. Тым больш што сам мой прадзед, здаецца, не займаў падчас іх радыкальнай і бескампраміснай пазіцыі. У нумары беларускай газеты «Народная справа» за жнівень 1926 года надрукавана інфармацыя, што Рыгор Рудак быў сярод тых, хто ахвяраваў грошы на ўзвядзенне ў Глыбокім будынка для беларускай гімназіі, а сродкі гэтыя збіраліся па лініі канкурэнтнага «Прасвеце» ТБШ. Выглядае, што для шараговага настаўніка справа беларускай асветы была настолькі важнай сама па сабе, што ён асабіста быў здольны пераступіць праз усе палітычныя ды арыентацыйныя падзелы.

Праўда, гімназіі той заснаваць усё адно не ўдалося: увосень 1927 года кіраўнікоў глыбоцкага ТБШ арыштавалі і асудзілі за камуністычную прапаганду. Ды і ўвогуле да канца 1920-х насталі такія часы, што трэба было думаць, каб захаваць хоць тое, што ўжо было, а каб пашырацца, не даводзілася нават і марыць. ▸

### Запатрабаваны ўсімі

Па сканчэнні курсаў «Прасветы» прадзед атрымаў права настаўнічаць у польскіх дзяржаўных школах — так званых утраквістычных, то-бок двухмоўных, дзе навучанне адбывалася па-беларуску і па-польску. Праўда, гэта чым далей, тым было ўсё больш фармальна: у лепшым выпадку беларуская мова выкарыстоўвалася ў якасці дапаможнай, а часцей ад «утраквістычнасці» заставалася адно толькі шыльда. З 1926 па 1938 год Рыгор Рудак працаваў у такой школе ў вёсцы Баяры на Глыбоччыне. За год да пачатку Другой сусветнай вайны ён паспеў нават выйсці на пенсію, але з прыходам у верасні 1939-га саветаў зноў уключыўся ў працу спачатку настаўнікам, а пасля інспектарам раённага аддзела адукацыі.




**Настаўніцкае пасведчанне** Рыгора Рудака польскага часу.

**Для шараговага настаўніка справа беларускай асветы была вышэйшай за ўсякія палітычныя падзелы**

Калі ў 1941-м прыйшлі немцы, прадзеда прызначылі дырэктарам пачатковай школы ў мястэчку Пліса на той жа Глыбоччыне. Неймаверна, але пра гэта ёсць запіс нават у савецкай працоўнай кніжцы, дзе ясна пазначана: *«1941.XI.1 — Назначен директором Плисской НСШ»*.

За гэтую «неперарыўнасць стажу» пасля вяртання саветаў Рыгору Рудаку маглі пагражаць сур'ёзныя непрыемнасці, але за яго паручыліся калегі, сведчанні якіх таксама захаваліся ў асабістай справе. У тыя суровыя часы гэта далёка не заўсёды дапамагала, але ў выпадку прадзеда спрацавала: педагога-ветэрана не зачапілі. Больш за тое, яшчэ нямала гадоў ён настаўнічаў і нават адзін час зноў выконваў абавязкі дырэктара. Відаць, не дасць сваімі паводзінамі падставы западозрыць сябе ў нелаяльнасці да «савецкай радзімы» і яго адзіны сын Алег, мой дзед, які таксама стане дырэктарам школы...

Але цалкам верагодна, што і пры савецкай уладзе прадзед Рыгор мог часам даставаць свой срэбны гадзіннік і, разглядаючы яго, узгадваць усе свае ўрокі і жыццёвыя прыгоды, адмераныя рухам стрэлак «поставщика двора Его Величества»... ◆

**Гадзіннікавая фірма Паўла Бурэ**

была надзвычай папулярнай у імператарскай Расіі. Патомны майстар Павел Бурэ ў 1874-м набыў невялікую гадзіннікавую фабрыку ў Швейцарыі і паступова змог разгарнуць свой бізнэс. Абысці моцных канкурэнтаў, такіх як *Tissot* і *Patek Philippe*, на расійскім рынку ўдалося ў асноўным за кошт правільнага маркетынгу. У адрозненне ад старых гадзіннікавых брэндаў, «Павел Бурэ» не грэбаваў выпускаць танныя мадэлі для насельніцтва. Хоць попытам карысталася і дарагая прадукцыя: срэбная, залатая, інкруставаная каштоўнымі камянямі. Пасада імператарскага ацэншчыка Паўла Бурэ дадала яшчэ папулярнасці ягонаму тавару. У 1899 годзе фірма атрымала ганаровае званне «Пастаўшчык Імператарскага двара». Гадзіннікі Бурэ з гэтага часу і да канца Расійскай імперыі былі самымі папулярнымі падарункамі ад дзяржавы чыноўнікам і службоўцам.

# Паліфон «Каліёпа»

Піша Людміла Жук
з музея-запаведніка «Нясвіж».



Паліфон — музычны аўтамат XIX стагоддзя. Гэты рэдкі прыбор пад назвай «Каліёпа», падобны да вялікай музычнай шкатулкі, экспануецца ў нясвіжскай ратушы. Ён названы ў гонар музы эпічнай паэзіі, навукі і філасофіі.

Механічныя прайгравальнікі існавалі і раней, але сусветную папулярнасць набылі пасля таго, як нямецкі інжынер Паўль Лохман з Лейпцыга прапанаваў новы гуказдымальнік — металічны дыск з зубчыкамі. На ніжнім баку такіх дыскаў высякалі адтуліну, але не цалкам, а так, каб заставаўся язычок металу. Дыск пры абаротах зачэплівае язычкамі зубцы грэбня. Тым самым ён прыводзіць у дзеянне смычкі, якія адкрываюць доступ паветра да труб, у выніку чаго ўзнікае гук.

Паліфон прыходзіць у дзеянне пры дапамозе заводу спружыны абаротамі рычага. Праз шкляныя дзверцы можна сачыць за рухам дыска. А ў ніжняй шафе дыскі захоўваюцца.

Дыскавыя аўтаматы Лохмана выпускаліся з 1886 года. У народзе іх празвалі «музычнымі шафамі» ці «музычнымі скрынямі».

Цікава, што паліфон пачынаў іграць пасля таго, як апусціш у яго манетку. На бакавой панэлі нашага паліфона маецца адтуліна для манеты і металічная накладка, на якой пазначана вартасць: «Einwurf 10 Pfennig» (10 пфенігаў).

Паліфоны ставілі ў корчмах, рэстаранах, забаўляльных установах, на вакзалах. Ставілі і дома. Такі паліфон маглі запускаць і ў дамах заможных нясвіжцаў ды жыхароў іншых нашых гарадоў.

Звычайна рэпертуар складаўся з перазвонаў, найгрышаў, модных песенек, танцаў, п’есак, а таксама фрагментаў опер і аперэт.

Да нясвіжскай «Каліёпы» захавалася 39 металічных дыскаў з папулярнымі ў XIX стагоддзі творамі. Гэта вальсы (у тым ліку «Над хвалямі» мексіканскага кампазітара Хувенціна Росаса), фрагменты опер «Карнявільскія званы» французскага кампазітара Рабера Планкета, «Сельскі гонар» італьянца П’етра Масканы, «Цар і цясляр» немца Альберта Лорцынга. Тут і марш «*Washington Post*» — равеснік «Каліёпы». Напісаны як фон для ўзнагароджання лаўрэатаў газетнага конкурсу эсэ, за некалькі гадоў ён стаў музычным суправаджэннем для ўрачыстасцяў па ўсім свеце.



Як запускаць паліфон: відэа

Сярод дыскаў — і знакамітая на ўвесь свет калядка «Святая ноч». Словы ў 1840-я гады напісаў вінароб і паэт Пласід Капо з горада Ракмор у ваколіцах Авіньёна. Ён, сацыяліст і вінароб, здзівіўся такой просьбе з боку прыходскага святара, але выканаў яе. Больш за тое: так натхніўся ўласным творам, што вырашыў пакласці яго на музыку. Прыехаўшы па гаспадарчых справах у Парыж, ён звярнуўся да Адольфа Адана, аўтара тады ўжо 80 модных опер. Той успрыняў прапанову як выклік: Адан быў яўрэем! Аднак вынік спадабаўся ўсім.




«Святая ноч» стала першай песняй у свеце, што загучала на радыё (1906 год). А англамоўны варыянт стаў вельмі папулярным у паўночных штатах Амерыкі ў час грамадзянскай вайны: у ім бачылі заклік да вызвалення рабоў.

У пачатку XX стагоддзя на змену паліфону прыйшлі грамафоны. А на змену ўжо ім — вядомыя нам з дзяцінства прайгравальнікі. ◆

# Як савецкі піянер касцёл ратаваў

**Нават многія дарослыя прымаюць усё, што чуюць па тэлевізары, за чыстую манету. Што ўжо казаць пра дзяцей. Гісторыю, якая адбылася ў дзяцінстве з ягоным бацькам, расказвае Антон Рудак.**

Альковічы — вёсачка ў Вілейскім раёне, вядомая яшчэ з канца XVII стагоддзя, калі тут збудавалі першую драўляную каталіцкую капліцу. На пачатку XVIII стагоддзя каплічка ўжо змянілася драўляным касцёлам — менавіта ў ім 21 красавіка 1863 года мясцовыя паўстанцы з атрада Вінцэнта Козела-Паклеўскага зачыталі маніфест аб пачатку паўстання.

Драўляны касцёл, у якім абвяшчалі паўстанцкі маніфест, да нашага часу не захаваўся, але яшчэ ў 1897 годзе побач з ім пачалі будаваць мураваны неагатычны храм, асвечаны ў 1905-м у гонар Адведзінаў Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Сёння яго ведаюць далёка за межамі раёна, тут спыняюцца пілігрымкі з Мінска на Будслаў.

## Паверыў тэлевізару

Але так было не заўжды. У 1950 годзе касцёл быў зачынены — у ім зрабілі зернясховішча. У 1968-м у колішнім храме здарыўся пажар: маланка трапіла ў званіцу, і крыж абваліўся на дах.

Усё гэта адбывалася на вачах майго бацькі, тагачаснага школьніка Грышы Рудака, які жыў у суседняй вёсцы. У 1975-м, калі яму было 10 гадоў, Грыша пабачыў тэлеперадачу, дзе распавядалі пра патрэбу ахоўваць помнікі архітэктуры. Справядліва палічыўшы касцёл такім помнікам, хлопчык вырашыў даслаць на мінскае тэлебачанне ліст пра гаротны стан альковіцкага касцёла.



Адказны піянер **Грыша Рудак.**



**Касцёл Адведзінаў Найсвяцейшай Дзевы Марыі** ў Альковічах. Сучасны выгляд.

WIKIMEDIA COMMONS

**10-гадовы хлопчык у часы застою даслаў на тэлебачанне ліст пра гаротны стан альковіцкага касцёла**

Зварот вясковага школьніка нарабіў шуму на цэлы раён. Што

ИСПОЛКОМУ ВИЛЕЙСКОГО РАЙОННОГО
СОВЕТА ДЕПУТАТОВ ТРУДЯЩИХСЯ

КОПИЯ гр. РУДАК Г.О.

4 : XII -76
337-р 13.12. 1976 г.

Исполком Ольковичского сельского Совета депутатов трудящихся сообщает, что в письме, одресованным Белорусскому телевидению, ученик 5 "А" класса Матьковской средней школы Вилейского района Рудак Григорий изложил просьбу о принятии, направленных на сохранение здания бывшего костёла в дер. Ольковичи, расположенный рядом с д. Матьковцы, в которой проживает автор письма.

Письмо написано под впечатлением телевизионной передачи, в которой рассказывалось о той большой работе, которая проводится у нас по выявлению, учёту, сохранению и реставрации памятников истории и культуры. Необходимость бережного отношения к этим национальным ценностям воспитывается у учащихся и на уроках истории и школьной первичной организацией общества охраны памятников истории и культуры, и журналом. "Помнiки гiсторыi и культуры", и во имя время экскурсионных поездок.

Мальчик, ошибочно полагая, что здание большого костёла в д. Ольковичи тоже относится к числу архитектурно - худажественных памятников, проявил заботу о сохранении этого здания.

В беседе с Мальчиком ему разъяснено, что не каждое старинное здание имеет историко-культурную ценность: разъяснено, что и здание бывшего костёла в дер. Ольковичи не представляет собой архитектурного памятника, что это обычный бросовый объект.

Позиция ученика Рудак Григория в вопросе по отношению к сохранению здания бывшего костёла в дер. Ольковичи не имеет религиозной основы.

Гриша - пионер, отличник, воспитывается в семье убеждённых атеистов, проявляет большой интерес к школьному курсу истории, к художественной литературе на историческую тему. Он оформил альбом, в котором собраны фотографии многих памятников истории и культуры, собрал небольшую нумизматическую коллекцию.

Обращено внимание дирекции Матьковской средней школы на необходимость воспитания у учащихся бережного отношения к подлинным историко-культурным памятникам, а не бросовым объектам.

Всё имущество, которое находилось в костёле, передано Каетеневичскому костёлу до пожара

Арган, не передовался костёлу, поскольку он непригодный. Крыша костёла, шпиль, окна разрушены во время пожара в 1968 году, который произошёл от грозы.

Председатель исполкома
сельского Совета
депутатов трудящихся　　　　　Т.А. Козел

і не дзіўна: ягоны бацька, а мой дзед, быў дырэктарам школы і членам партыі. Традыцыі ваяўнічага бязбожніцтва тады яшчэ былі цалкам актуальныя, і лічылася, што малодшае пакаленне, выхаванае ў савецкіх школах, не павінна мець аніякіх сантыментаў да ўсяго, што хоць бы як звязана з рэлігіяй.

## «Звычайны нікчэмны аб'ект...»

Самога Грышавага ліста мы, на жаль, не маем, але адзін з дакументаў, якія з'явіліся ў выніку наступнага «разбору палётаў», да сёння захоўваецца ў сямейным архіве. Гэта ліст за подпісам старшыні Альковіцкага сельсавета, адрасаваны ў Вілейскі райвыканкам, з тлумачэннем учынку піянера і ягоных матываў.

Старшыня сельсавета ліст толькі «падмахнуў», а сапраўдным аўтарам яго тэксту быў бацька хлопчыка, гэта значыць мой дзед. Яму давялося для апраўдання сына шчодра карыстацца казуістыкай у духу тых часоў: «Хлопчык, памылкова лічачы, што будынак вялікага касцёла ў в. Альковічы таксама адносіцца да ліку архітэктурна-мастацкіх помнікаў, праявіў клопат аб захаванні гэтага будынка. У гутарцы з хлопчыкам яму растлумачана, што не кожны старажытны будынак мае гісторыка-культурную каштоўнасць, што будынак былога касцёла не ўяўляе сабой помніка, што гэта звычайны нікчэмны аб'ект. Пазіцыя вучня... не мае рэлігійнай асновы. Грыша — піянер, выдатнік, выхоўваецца ў сям'і перакананых атэістаў...»

Наверсе апраўданні былі прынятыя, справе ў выніку ходу не далі. Часы былі хоць яшчэ і савецкія, але ўжо не самыя суровыя. Нервы людзям яшчэ псавалі, але звычайна ўжо не больш за тое, калі гаворка не ішла пра сапраўды антысавецкія дзеянні.

## Праўда перамагае

А неўзабаве ўсё ўвогуле павярнулася зусім іншым бокам. Тое, за што ўшчувалі піянера Грышу Рудака, ужо праз які дзясятак гадоў стала справай дзяржаўнай важнасці. Яшчэ не паспела абрынуцца савецкая ўлада, як будынак быў прызнаны помнікам архітэктуры рэспубліканскага значэння, а ў 1989-м, у год майго нараджэння, альковіцкі касцёл быў вернуты вернікам і адрэстаўраваны. Яшчэ і сёння мы з бацькам, хоць самі ахрышчаныя ў праваслаўі, часта завітваем да сцен старога касцёла. Тут, дарэчы, ёсць і невялічкі краязнаўчы музей з дужа цікавымі экспанатамі. Завітвайце ў Альковічы і вы! ◆

**P.S.** Гэты тэкст быў падрыхтаваны для вілейскай газеты «Волат» у 2015 годзе, але не паспеў выйсці ў свет з прычыны смерці яе выдаўца, Аляксея Лужынскага. Гэтую публікацыю я прысвячаю ягонай памяці.

# ПАЛАЧКА-СТУКАЛАЧКА, ГРАХІ, ШАВЕЦ:

## у што гулялі нашыя прабабы і прадзеды



**Дзіцячыя гульні.** Марыя Вертэн. 1930 год.

**У №1 за 2019 год Святлана Курс апісвала дзіцячыя гульні 1970–1980-х, а цяпер мы зазіраем яшчэ глыбей. Забаўкі беларускіх дзяцей пачатку XX стагоддзя апісала жонка Максіма Гарэцкага, Леаніла. Яна была выкладчыцай у Віленскай беларускай гімназіі, у 1919 годзе склала і выдала кніжачку «Дзіцячыя гульні».**

### Рэпка

Трэба выбраць **матку** і **пана**. Матка сядае, а перад ёю садзяцца ў радок усе гульцы, і кожны крэпка бярэ пярэдняга пад пахі. Тады выходзіць пан і кажа:

— Матка, матка, свінні ў рэпе!
— Ідзі выгань!
— А ці можна рэпку вырваць?
— Вырві, але толькі з караньком!

Пан бярэ за рукі пярэдняга і наравіцца яго вырваць з рук таго, хто сядзіць за ім. Вырваўшы, ізноў ідзе да маткі, ізноў кажа, што свінні ў рэпе і г.д., пакуль не вырве ўсіх з рук маткі.

### Шавец

Некалькі чалавек становяцца ў шэраг адзін за адным. Апошні стаіць з ручніком у руках і пытаецца: «А дзе шаўцы?» — «На тым канцы», — кажуць яму. Тады ён бяжыць на другі канец (наперад), а той, хто стаяў першым, адтуль уцякае на іншы канец. Калі гэты справіцца ўдарыць яго ручніком, пакуль той уцякае, дык той, каго ўдарылі, сам становіцца з ручнікам, а каторы біў — становіцца спераду. Калі той, што лавіў, не злавіў нікога, ён ізноў становіцца з самага заду і пачынае гульню.

### Прарок

Гульцы выбіраюць паміж сябе **прарока** і садзяць яго па цэнтры. Прароку накрываюць хусткай галаву, і ўсе, пабраўшыся за рукі, ходзяць наўкола яго. Кожны па чарзе кладзе руку на галаву прарока, а хто-небудзь з рэшты, калі на галаву прарока кладзе руку хлопец, кажа «Адам», калі дзяўчынка — «Ева».

Тады прарок вяшчуе, хто што спаткае ў жыцці: аднаму кажа, што будзе багатым, другому — што будзе ўсё жыццё плакаць і г.д.

У гэтай гульні, калі прарок умее добра жартаваць, бывае шмат смеху.

**Леаніла Чарняўская** пражыла 82 гады. Выкладала і перакладала — у прыватнасці, Кіплінга і «Тыля Уленшпігеля» Шарля дэ Кастэра. Жонка пісьменніка і літаратуразнаўцы Максіма Гарэцкага сама была тонкім літаратарам. Першая ў беларускай літаратуры напісала пра мацярынства не як пра шчасце і жаночы абавязак, а як пра асабісты выбар жанчыны. Выйшла замуж у 26 гадоў, ездзіла за мужам ва ўсе савецкія высылкі, пакуль яго не расстралялі ў 1938-м. Нарадзіла дваіх дзяцей. 22-гадовы Леанід загінуў на вайне, а Галіна ўсё жыццё зберагала архіў бацькоў.

### Барада

Гэта гульня простая, спадручная на двары і тым весялейшая, калі гуляе шмат дзяцей.

Хто-небудзь, каго завуць **барадой**, павінен пераlавіць усіх дзяцей. Выбіраюць месца, якое завуць **домам**, і хто з дзяцей стане на гэтым месцы, таго барада злавіць не можа.

Гульня пачынаецца. Дзеці разбягаюцца з крыкам: «Ай, барада!». А барада кідаецца іх лавіць. Каго яна зловіць, той памагае лавіць яшчэ нязлоўленых.

У гэту гульню можна гуляць і ў хаце. Выбіраюць свабоднае месца, барадзе хусткай завязваюць рукі ззаду, і яна стараецца схапіць іншых звязанымі рукамі.

**Можна гуляць яшчэ і гэтак**: той, каго першага ўдарыць барада, сам робіцца барадой, пакуль каго-небудзь не зловіць.

У гэтай гульні дзецям трэба ўвесь час звяртаць увагу, як перамяняюцца




тыя, хто ловіць, каб ведаць, хто барада. Гэткім спосабам гульня весялейшая, бо дзеці бегаюць бесперастанку.

### Сляпы музыка

Усе дзеці становяцца ў кола, а аднаму завязваюць вочы і даюць у рукі палачку. Пасля ўсе пачынаюць, узяўшыся за рукі, круціцца вакол **сляпога музыкі**, а ён датыкаецца да каго-небудзь палачкай. Той падае голас: піскне ці загудзіць, стараючыся, каб музыка не ўгадаў, хто гэта. Калі музыка ўгадае, чый голас, той ідзе ў сярэдзіну кола замест таго, хто быў музыкам.

### Гарбуз гнілы

У гэтай гульні ўсе дзеці дзеляцца на пары: хлопец і дзяўчына. Гульцы выходзяць за дзверы і чакаюць там, пакуль гулянніцы, што засталіся ў хаце, выберуць кожная сабе да пары аднаго хлопца. Каторая-небудзь гулянніца абыходзіць усіх і пытае, хто каго сабе выбраў, і сама кажа, каго выбрала. Пасля кліча тых, хто за дзвярыма, каб ішлі па чарзе адгадваць сваю пару.

Першы хлопец прыходзіць і падыходзіць да той дзеўкі, каторая, як яму здаецца, яго выбрала. Калі ён угадаў, то застаецца ў пакоі, а калі не, то яму крычаць усе: «Гарбуз гнілы!» — і ён ізноў ідзе за дзверы, а адгадваць прыходзіць наступны.

Так гуляюць, пакуль кожны не адгадае сваёй пары. Пасля ідуць за дзверы дзяўчаты, і ўся гульня пачынаецца нанова.

### Вугалькі

Дзеці выбіраюць сабе **матку** і **чорта**. Усе садзяцца ў рад, і матка абыходзіць усіх і кажа кожнаму: «На табе», а сама дае вугалёк абы-каму. Чорт адгадвае, каму матка дала вугалёк. Калі адгадае, то бярэ таго сабе, калі не, той застаецца матчыным, але адсядае. Далей матка ізноў раздае вугалёк. Чорт адгадвае. Калі сядзец застанецца ўжо толькі адзін, матка пытаецца чорта: «Адгадай, ці ў маткі, ці ў дзіцяткі!» Пасля бяруць пояс ці палку, і з аднаго боку матка з дзецьмі, а з другога чорт са сваімі дзецьмі перацягваюць. Чый бок перацягне, таго верх.

### Каршун і вутачкі

Гульцы выбіраюць **каршуна** і **матку**. Пасля становяцца ў рад за маткай, крэпка трымаючыся адно за аднаго. Каршун садзіцца на зямлю і капае палачкай ямку, а матка, ідучы са сваім **хвастом** вакол каршуна, пытаецца:

— Каршун-каршун, што ты робіш?
— Ямку капаю!
— Нашто табе ямка? ▶

## Грахі

Сярод гульняў ёсць і такія, што нясуць выразныя азнакі ваеннага часу. Напрыклад, гульня «**Грахі**»: за няўдачы там «прысуджаюць да расстрэлу і вядуць паставіць да сцяны». Дзеці ўвесь час чулі пра такое ад дарослых і пераносілі ў свой свет.

Нягледзячы на страшную тэму, «Грахі» — вельмі азартная і вясёлая гульня. Перайначыўшы тэрміналогію, гуляць у яе можна і сёння.

Трэба выбраць роўнае месца і зрабіць рад ямінак — столькі, колькі дзяцей гуляе. Кожны выбірае сабе ямінку і становіцца ля яе. Па краях раду стаяць два вядучыя, яны павінны падфутбольваць адно аднаму мяч так, каб ён пацэліў у адну з ямін. Калі мяч пацэліў, той, чыя гэта яміна, мусіць хутчэй яго падняць. Пакуль ён падымае, усе разбягаюцца, а як толькі падняў — заміраюць.

Далей — выбівала: гулец мусіць патрапіць у каго-небудзь мячом.

Не папаў — кладзе грэх (маленькі каменьчык) у сваю ямку. Калі ж удалося — каменьчык у сваю ямку кладзе той, у каго папалі.

У каго набярэцца тры каменьчыкі-грахі, таго вядуць да сцяны. Тыя, у каго ў ямцы пуста, могуць кінуць у «грэшніка» мячом тры разы. Тыя, у чыёй ямцы ёсць грахі, могуць кідаць мячом раз ці два — столькі, колькі ў іх не хапае да трох грахоў. А «грэшнік», што стаіць ля сцяны, можа ўхіляцца ад мяча, але з месца сыходзіць не можа. Таму важна кідаць мяч са справядлівай адлегласці.



**Выхаванцы падрыхтоўчых курсаў гімназіі, 1921 год.** У цэнтры — ксёндз Адам Станкевіч, які выкладаў каталіцкую рэлігію. А другая злева ад яго — Леаніла Чарняўская.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

— Каменьчыкі шукаю!
— Нашто табе каменьчыкі?
— Іголачкі йстрыць!
— Нашто табе йголачкі?
— Мяшочкі шыць!
— Нашто табе мяшочкі?
— Каменьчыкі збіраць!
— Нашто табе каменьчыкі?
— Тваім дзеткам зубы выбіваць!

Пасля гэтых слоў каршун кідаецца лавіць апошняга ў хвасце. Матка, расставіўшы рукі, забягае перад каршуном, увесь хвост падаецца за ёй. Ухапіць нейкую іншую вутачку, не заднюю, каршун не мае права. Гульня ідзе, пакуль каршун не адарве ад маткі ўсіх вутачак.

**Віленская беларуская гімназія** год таму адзначыла 100 гадоў. Арганізаваў яе Іван Луцкевіч як прыватную сярэднюю школу. Гімназію фінансавала Школьная рада Вільні, Таварыства беларускай школы, бацькоўскі камітэт. Частка вучняў (сіроты і дзеці з бедных сем'яў) вучылася бясплатна. У 1921 годзе тут навучалася 346 чалавек, не толькі беларусы (59 яўрэяў, 11 рускіх, 7 немцаў, 3 літоўцы, 1 паляк і 1 татарын). Сярод выкладчыкаў былі Браніслаў Тарашкевіч, Максім Гарэцкі, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Рыгор Шырма, Язэп Драздовіч...
Будынак гімназіі — у самым сэрцы старой Вільні, у Базыльянскіх мурах (*Aušros Vartų*, 7а — па-беларуску гэтая вуліца называецца Вастрабрамская). Інтэрнат блізка, ля касцёла Казіміра. А вось да сталоўкі ля касцёла Святой Ганны спрытнымі дзіцячымі ножкамі было хвілін пятнаццаць.
«Вялікім здарэннем у нашым жыцці бывалі агульныя экскурсіі на ўлонне прыроды недзе над бераг Вяллі ў раёне Закрэту. Ішлі ўсе: вучні і настаўнікі — паперадзе граў парадныя маршы наш духавы аркестр. Неслі з сабою ежу, розныя гульні, а дзень прамінаў, як байка. І так, як байка, прамінулі мае пяць гадоў у Віленскай беларускай гімназіі, якую я скончыў у чэрвені 1934 года ў веку сямнаццаць гадоў», — успамінаў праваслаўны святар Святаслаў Коўш.

### Палачка-стукалачка

Дзеці выбіраюць месца, якое завуць **домам**, і кладуць там палачку. Усе хаваюцца, а адзін стаіць, адвярнуўшыся да сцяны, каб не бачыць, хто куды схаваўся. Як усе пахаваюцца, ён бярэ палачку і крычыць: «Палачка-стукалачка дамоў прыйшла, нікога дома не знайшла, каго першага знойдзе, той па палачку пойдзе». Кладзе палачку і ідзе шукаць тых, хто схаваўся. Ён павінен пастаянна звяртаць увагу, каб ніхто не падбег да палачкі і не скраў яе. Калі хто паспее дабегчы да палачкі, павінен крыкнуць: «Палачка ўкрадзеная!» Тады той, хто шукаў, ізноў ідзе ў дом, а іншыя хаваюцца. Калі ж ён знайшоў усіх, то ідзе па палачку той, каго ён першага ўбачыў. ◆

**Падрыхтавала Паўліна Скурко.**




**Падпісны індэкс «Асцярожна: дзеці!»— 75080 (ведамасны 750802)**

Выйшлі з друку два абсалютна новыя для Беларусі часопісы. Адзін называецца «Дуду», а другі — «Асцярожна: дзеці!». Купіце сваім малы два: яны самі разбяруцца, каторы ім цікавейшы. Часопісы прадаюцца ва ўсіх шапіках, кнігарнях, а таксама гіпермаркетах.

«Асцярожна: дзеці!». Тут галоўныя героі — Цім, Мара, сабака Газ, кот Тормаз і Занадта Разумны Смартфон — разблытваюць розныя дэтэктыўныя гісторыі. І заадно разам з чытачамі спазнаюць свет. У часопісе — і карысная інфармацыя, і захапляльныя прыгоды, і заданні, якія трэба выканаць, і конкурсы, у якіх можна перамагчы, і QR-коды, па якіх можна будзе выйсці на старонкі ў інтэрнэце з цікавай інфармацыяй. Тэма першага нумара — самалёты.

У наступных нумарах Цім, Мара, Газ і Тормаз будуць шукаць скарбы, апынуцца ў надзвычайных сітуацыях і пры гэтым будуць карыстацца самымі сучаснымі тэхналогіямі. Купляйце і чытайце! А найлепш — выпісвайце! Гэта самы выгадны варыянт.

# Найлепшы падарунак дзецям «Дуду» і «Асцярожна: дзеці!»




**Падпісны індэкс «Дуду» — 75081 (ведамасны 750812)**

Часопіс «Дуду» разлічаны на дзяцей да сямі гадоў, але чытаць яго могуць дзеці ад 1 да 101 года. Казкі, вершы і нават музыка ды песні (іх можна прайграць па QR-кодах), інтэрактыўныя гульні, коміксы, конкурсы, дзівосы, сюрпрызы — усё гэта будзе ў кожным нумары часопіса. А таксама заданні на развіццё логікі, увагі і памяці, дробнай маторыкі, для папаўнення слоўнікавага запасу і падрыхтоўкі да школы. Яшчэ мы будзем дапамагаць дзецям вучыцца чытаць, пісаць і лічыць. Нумары часопіса будуць тэматычнымі. Тэма гэтага нумара — каты і іх жыццё.

У наступных нумарах раскажам пра метро і іншы транспарт, пра булачкі і цукеркі, зоркі і касмічныя караблі, сонца і хмары, любімыя святы, небяспечных драпежнікаў і пеўчых птушак і пра многае іншае… Героі часопіса — хлопчык Зор, дзяўчынка Лёля і падушка Дуду — стануць надзейнымі сябрамі чытачоў. Купляйце і чытайце! А найлепш — выпісвайце! Гэта самы выгадны варыянт.

# Пра Вялікую вуліцу, Вільню і вяртанне Каліноўскага

Праз некалькі дзён пасля перапахавання ў Вільні 22 лістапада 2019 года парэшткаў паўстанцаў 1863–1864 гадоў гісторык **Мікола Волкаў** падзяліўся ў сябе ў фэйсбуку такімі назіраннямі:

«Калі паглядзець на план Вільні, то выразна бачна, што цэнтральнай воссю, вакол якой фактычна вырасла сталіца Вялікага Княства Літоўскага, была вуліца Вялікая, што пачыналася ля замка і ішла да Вострай брамы. Сама гэтая назва тыповая для абазначэння галоўных гандлёвых вуліц у рускіх гарадах (размова пра першасную вялікую Русь), а таксама важнейшых дарог.

Сам кірунак Вялікай указвае на тое, што сталіца ВКЛ, як гандлёва-рамесны цэнтр, фактычна расла ў кірунку Беларусі: праз Вострую браму ехалі ў Менск, Смаленск і г. д. Але што мяне ўразіла літаральна ўчора — гэтым жа маршрутам першапачаткова ездзілі і ў магутны Полацк (сціплая Полацкая вуліца ў Зарэччы (Ужупісе) — пазнейшая). А калі ўлічыць, што ўздоўж Вялікай вуліцы да пачатку XVI стагоддзя стаялі амаль адно праваслаўныя цэрквы, то становіцца зразумелым, што разбудоўвалі сталіцу ў кірунку Русі самі русіны.

А цяпер прыгадайце маршрут, якім пранеслі парэшткі Каліноўскага і яго паплечнікаў: з кафедральнага касцёла на Дольным замку па Вялікай вуліцы праз Вострую браму на могілкі Росы. Такім чынам, нават свой апошні шлях Каліноўскі прайшоў да Беларусі...»

Літоўскі гісторык **Томас Чэлкіс** у адказ на гэтыя развагі ўдакладніў: «Хацеў дадаць, што стары горад фармаваўся ўздоўж Замкавай і Вялікай (*Didžioji*) вуліц, таму што на процілеглым баку былі балоты (раён цяперашняга праспекта Гедыміна), а з другога боку — пагоркі, на іх нязручна горад будаваць».




Але Волкаў, у прынцыпе пагаджаючыся з калегам, падкрэслівае: «Тапаграфію тэрыторыі, вядома, трэба ўлічваць для разумення ходу развіцця горада, але яна ніяк не ўплывае на рысунак вулічнай сеткі. Умоўна кажучы, значэнне таго ці іншага маршруту ў кожным разе будзе праяўляцца праз вылучэнне адпаведных вуліц». Гэтага калега аспрэчваць не стаў і нават ухваліў лайкам.

Некалькі іншых удзельнікаў дыскусіі спрабавалі паставіць высновы Волкава пад сумнеў, прапануючы ўласнае бачанне тагачасных маршрутаў на Менск і Полацк, але аўтар з імі катэгарычна не пагадзіўся, звяртаючы ўвагу, што ён піша пра пачатак XVI стагоддзя, а іх развагі тычацца больш позніх часоў.

Улічваючы несумненны навуковы аўтарытэт і даследчыцкую грунтоўнасць Міколы Волкава, будучая публікацыя на гэтую тэму мае быць вельмі цікавай.

# Меч рыцара з-пад Мсціслава

«Нарэшце, мы можам гэта абвясціць! Меч рыцара з ракі Віхра, зніклы падчас знаходкі рыцарскага даспеха ў 2013 годзе, знойдзены і выкуплены на еўрапейскім аўкцыёне».

Дырэктар музея гісторыі Магілёва **Аляксей Бацюкоў** адно гэтай



добрай навіной не абмежаваўся і падрабязна расказаў прыгодніцкую гісторыю з пошукам зніклай 7 год таму рыцарскай зброі пачатку XVI стагоддзя. Гаворка ідзе пра фрагмент даспехаў (кірасу) і добра захаваны меч, якія, хутчэй за ўсё, належалі ўдзельніку бітвы пад Мсціславам, 1501 год.

«У жніўні 2013 года невялікая група людзей знаходзіць на дне ракі Віхра пад Мсціславам рыцарскі меч з абламаным лязом і дзве часткі кірасы. Спрацоўвае эйфарыя — выявы кірасы з'яўляюцца на спецыялізаваным інтэрнэт-форуме з просьбай ацэнкі, выява мяча распаўсюджваецца сярод калекцыянераў з прапановай аб набыцці, мясцовыя спецыялісты даведваюцца пра знаходку і хваляцца магілёўскім калегам. Даведваецца ад іх і прафесар Ігар Марзалюк, які прыязджае ў Мсціслаў і забірае кірасу. Але мяча ўжо няма...

...Раскопкі Ігара Марзалюка і дайв-клуба "Марскі пегас" у Віхры дапаўняюць знойдзеную кірасу ўнікальным шлемам-саладай з падбароднікам і напатылічнікам тыпу "амар", шпорамі, акамянелай пальчаткай і дзясяткамі фрагментаў кальчугі. У выніку знойдзены комплекс даспеха становіцца выключным па сваім музейным і культурна-гістарычным значэнні для Беларусі і Усходняй Еўропы наогул. Адрэстаўраваны і закансерваваны ў 2014 годзе даспех размешчаны ў асноўнай экспазіцыі Музея гісторыі Магілёва.

І адначасова адбываліся пошукі мяча. Андрэй Радкоў, на той момант супрацоўнік Музея гісторыі Магілёва, наведаў Мсціслаў і правёў размову са "сведкамі", спрабуючы высветліць месцазнаходжанне мяча. Размова была амаль безвыніковай: ніякіх кантактаў альбо інфармацыі "сведкі" не далі. Затое паказалі месца, дзе яны закапалі парэшткі рыцара, знойдзеныя разам з кірасай. Пазней гэтыя парэшткі былі з воінскай пашанай перапахаваныя на Замкавай гары ў Мсціславе».

Далей былі пару гадоў маніторынгу аўкцыёнаў, пошукі праз калекцыянераў і нават адна нібыта знаходка.

У рэшце рэшт напрыканцы 2019 года пасля чарговага перавыстаўлення каштоўнага лота на еўрапейскім аўкцыёне меч атрымалі права выкупіць беларускія музейшчыкі. Аляксей Бацюкоў піша:

«Цяпер — складаная і тонкая лагістыка і пошук дадатковых сродкаў. Каб забяспечыць аператыўны выкуп з аўкцыёну, нам падставілі плячо некалькі чалавек, з якімі неабходна разлічыцца. На частку неабходнай сумы, амаль на палову, нам прадстаўленыя бюджэтныя гарантыі ўпраўленнем культуры Магілёўскага гарвыканкама. Прашу зразумець, што гэта шмат — першапачаткова мы ледзьве маглі разлічваць на 1/5 неабходнай сумы, а пры канцы бюджэтнага года знайсці дадатковыя сродкі неверагодна складана. У нас ёсць абяцанне спонсарскай дапамогі, якая можа давесці суму да 2/3. Мы працягваем шукаць далей, і кожны з ахвотных можа дапамагчы нам у гэтай справе.

Пры фізічнай наяўнасці мяча тут, у нашым музеі, мы будзем працаваць над правядзеннем крымінальнага даследавання ўсіх абставін знікнення і далейшага продажу мяча мсціслаўскага рыцара».

Каментары да такога допісу маюць быць віншавальныя, і яны такімі былі. Дыскусію выклікаў толькі камент **Яўгена Лукашэвіча**: «А што, знайсці меч і забраць яго сабе — гэта крымінальнае злачынства?». У адказ музейнікі патлумачылі, што «сведкі» не проста знайшлі зброю выпадкова — яны яе мэтанакіравана шукалі (гаворка ідзе, відаць, пра «чорных капачоў»). А знайшоўшы — не передалі ў музей цягам некалькіх дзён, як таго патрабуе заканадаўства, а прысвоілі сабе і перапрадалі. «Ладна б яшчэ нам прадалі, а так прыйшлося па свеце шукаць», — дадае **Андрэй Беларэцкі**. «Я б гэтай уладзе таксама нічога не аддаў бы. Нават каб тое яўны скарб быў. Напэўна, не прадаваў бы, але і дзяржаве не аддаваў», — напісаў Яўген Лукашэвіч. На гэта Андрэй Беларэцкі адказаў: «Скарбы і гістарычныя знаходкі ўзбагачаюць не ўладу і не ёй належаць, належаць нашаму народу і распавядаюць аб слаўным мінулым з надзеяй на добрую будучыню». ◆



